










# ПАНО БЕЗ РАМЫ

Гл. стар. 20.

Фота Цімура ГРЫБА

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

КРЫНІЦА

№ 1 1990

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР
па друку

Здадзена ў набор 16.11.89.
Падпісана да друку 22.12.89.
АТ 05379.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,15. Тыраж 58 831 экз.
Зак. 482. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

На вокладцы:
кампазіцыя
Сяргея МАЛІШЭЎСКАГА



# NEXT STOP USSR

«Next Stop» — назва гэтага міжнароднага маладзёжнага руху за мір, экалогію, раззбраенне сёння ўжо добра вядома многім. Яго ініцыятарамі былі краіны Скандынавіі. Тэатральная моладзь Даніі, Галандыі, Нарвегіі адправілася ў вандраванне па ўсяму свету. Маляўнічы, святочны караван дружбы прайшоў і па нашых гарадах.

Фотарэпартаж
Яўгена СКУРАТОВІЧА.











# НА ДУМЦЫ СВЕТ СТАІЦЬ

## Замест звароту да чытача

«Нашто мы жывём? Каб удасканальваць і спазнаваць. Невычэрпнай крыніцай удасканальвання можа быць толькі ўстойлівая дысцыпліна пазнання.

Самаўдасканальванне магчымае адзіна ў вытанчанай свядомасці, якая захоча займець наўкол сябе з'явы годныя, вартыя.

У манатоннай, аднастайнай будзёншчыне няшмат хто адчувае рэальнасць Космасу. Няшмат каму ўдаецца адолець шэрага дракона паўсядзённасці. Свядомасць чалавечая настолькі насычаная пылам звычайнасці, што неабходна праламаць гэтую сцяну. Не будзем імкнуцца да малога, калі грукаецца вялікае.

Маладыя пакаленні павінны ўставаць, каб спраўдзіць вялікае. Зыходны пункт для іх — рух.

Вялікі дойлід будуе вечна. Неразумна ўяўляць, быццам нейкія часткі Сусвету завершаныя і нязменныя. Хіба не заклікае кожны небасхіл да думкі пра вечны рух? Толькі ў эвалюцыі можна зразумець хараство шляху зямнога. Тое, што твой шлях кароткі, не павінна бянтэжыць.

Трэба адчуць, як планета знаходзіцца ў прасторы, як мараплаўцы ведаюць, што пад днішчам карабля сам вялікі акіян. На гэткім самым караблі знаходзіцца кожны жыхар планеты — пад ім бездань. Не могуць мараплаўцы цалкам спадзявацца на карабель і навуку вылічэнняў, інакш не было б караблекрушэнняў.

Як да яды, як да пітва, можна прывычаіцца да мыслення пра жыццё вялікае. Мысліце сябе не зямнымі жыхарамі, але сусветнымі. Такім чынам ускладзеце на сябе яшчэ большую адказнасць.

Усведамленне адказнасці павінна быць пашырана да бясконцасці. Дух чалавечы, як творца, нясе адказнасць за ўсё, што створана ім. Мы адказныя не толькі кожны перад самім сабой, але і перад Космасам. Адчуванне адказнасці перад Космасам павінна стаць сутнасцю свядомасці чалавечай.

Неабходна прывучыць свядомасць да адзінства жыцця, да адзінства Космасу. Адсюль павінна з'явіцца пачуццё найвялікшай адказнасці за кожную думку, слова і дзеянне. Прычына і вынік дзейнічаюць несупынна і ў бясконцасці. Менавіта адзінства патрэбна зразумець ва ўсяленскім размаху.

Аніякая істота не можа дзейнічаць безвынікова для наваколля. Чалавек узнёсся думкай — і тым самым некага ўратаваў. Чалавек заняпаў духам — і тым самым, мажліва, амяртвіў некага. Можна згадаць мноства прыкладаў, калі той, хто вар'яцеў у Азіі, паўставаў прычынаю пагібелі чалавека ў Еўропе. І калі той, хто ўзвышаўся духам у Амерыцы, збавіцелем стаўся для некага ў Егіпце.

Кожнае імгненне чалавек ці стварае ці разбурае, Свет напоўнены думкамі супярэчлівымі. Мноства хваробаў абумоўленыя думкамі разбурэння. Мноства забойстваў адбываецца на неверагодных адлегласцях ад думак. Аднак амаль немагчыма давесці чалавеку, што ўсе ягоныя перавагі — адзіна ў няспынным мысленні. Немагчыма выказаць, наколькі чалавек адказны за якасць мыслення. Сэрца грукае несупынна, гэткі самы несупынны пульс думкі. Чалавек ці стварае ці разбурае.

Калі думка ёсць энергія і яна не знікае, дык наколькі ж адказнае чалавецтва за кожную думку! Людзям уяўляецца іншым разам, што думка іх малая і дасягнуць анічога не можа. Між тым, напружанне думкі неверагоднае і для яе не існуе ні прасторы, ні часу. Але тыя, што думаюць бязладна, хаатычна, падобныя да тых, што махаюць рукамі ў цемры і не здагадваюцца, да чаго яны могуць дакрануцца.

Апроч таго, думка акумулюецца ў прасторы. І можна ўявіць сабе вячысты хор суладных думак, але гэтаксама можна ўявіць вэрхал, узняты чорнымі, крыклівымі галкамі. Мілыя мысліцелі, галкі — вы таксама адказныя за якасць думкі вашай. Так нават вы ствараеце вашу будучыню. А таму ані ў каго няма мажлівасці пазбавіцца адказнасці.

Дык сорамна хай будзе таму, хто пасылае ў Свет Цудоўны думкі брыдотныя. Ніякавата людзям уголас вымаўляць брыдкія словы, дык чаму ж можна напаўняць прастору нізкімі думкамі? Рэчаіснасць каламутная няхай будзе яшчэ адным напамінам пра якасць мыслення.

Хай не прыйдзе да нас слабавольная думка ханжы — «што значыць для свету мая думка?» Хто так падумаў, той не большы за самога сябе.

Узняць узровень мыслення, надаць яму новыя якасці мы павінны зусім свядома. Можна бачыць, як самыя жахлівыя бедствы ў гісторыі чалавецтва здараліся з няўмення мысліць. Можна прывесці мноства прыкладаў, калі зрывістае мысленне і неўтаймаваныя пачуцці вялі да бездані цэлыя народы. З другога боку, лянота мыслення і цяжкадушша разбуралі тое, што склалася і здавалася магчымым. Ёсць патрэба разважаць пра мастацтва мыслення як пра здароўе народа.

Будзем думаць пра патрэбнае — пра тое, што можа прынесці свету найбольшую карысць. Хай людзі звыкнуць думаць пра карыснае і цудоўнае. Самае карыснае і будзе цудоўным».

З кнігі ёга Рамачаракі
«Асновы светасузірання
індыйскіх ёгаў»,
СПб., 1914 г.,
кнігавыдавецтва
«Новы чалавек».

## Выпадак на дарозе

Піша вам Мішчанка Алена. Мне 15 гадоў. І ўжо я пераканалася, што няма ў жыцці справядлівасці і праўды.

З маёй мамаю здарылася няшчасце. 21 верасня 1987 года яна ехала ў якасці пасажыра на матацыкле, і яе збіла легкавая аўтамашына. Тры месяцы мама праляжала ў бальніцах і дамоў была выпісана са словамі: «Трэба неяк прыстасоўвацца да жыцця». Камісія УПЭК прыязджала на дом, і далі 2-ю групу інваліднасці, хоць мама 8 месяцаў увогуле не ўставала з ложка. Па законе маме павінен даплачваць віноўнік аварыі да сярэдняга заробку. Але вось ужо хутка 2 гады, а мама ніяк не даб'ецца, каб закон ажыццявіўся. Справу некалькі разоў закрывалі і адкрывалі пасля чарговых маміных лістоў у розныя інстанцыі. Мама ўжо напісала шмат лістоў, і ўсе яны вяртаюцца назад, і ў адказ на лісты прыходзяць адпіскі, што справа дадаткова расследуецца. Колькі ж будзе працягвацца дадатковае расследаванне? Няўжо расследаванні вядуць хутка і правільна адно ў кнігах, па радыё, тэлевізары, а на самай справе, калі ёсць у некага сувязі і знаёмствы, дык яму зусім і не прыходзіцца адказваць?

Да мамы ў бальніцу прыходзіў нехта Фанароў з прапановаю ўзяць 500 рублёў і аформіць траўму хатняю. Прыходзіў шмат разоў і настойваў, каб мама ўзяла грошы, сцвярджаў, што справу тэрмінова перададуць у суд 19 снежня 1987 года, а ўжо ліпень 1989 г., а справа так і не даведзена да канца. Работнікі міліцыі не перадаюць яе ў суд.

Маму ж збіла машына былога дырэктара інструментальнага завода, а цяперашняга намесніка дырэктара Белкаапсаюза Сашанкі В. Н., а Фанароў ехаў з ім у машыне. Вядома, у намесніка дырэктара ёсць сувязі і знаёмствы, якія дапамагаюць яго выгарадзіць. Мая мама як напіша, што яе збіла машына намесніка дырэктара, дык нават ніякага адказу не атрымлівае. Выходзіць, мая хворая, бездапаможная мама нікому не патрэбна?! І ёй без знаёмстваў і сувязей справядлівасці не дамагчыся?!

Мама цяпер па стане здароўя не можа нікуды выйсці з дому. Пенсіі яна атрымлівае 69 руб. 72 кап., і даплата 20 руб. на трох дзяцей, плюс 50—60 руб. аліментаў. Вось так і жывём мы ўчатырох. А маме патрэбны дарагія лекі, добрае харчаванне, і нас траіх пракарміць, адзець, абуць, бацька пра сваіх дзяцей зусім не думае, п'е, тыднямі не бывае дома.

Перасылаць мой ліст па месцы жыхарства бессэнсоўна. Я вам высылаю квітанцыі, з якіх відаць, куды мы звярталіся па дапамогу, і то гэта толькі малая частка з усіх квітанцый, усе нават у канверт не змяшчаюцца.

І вось прашу дапамогі ў вас, хоць ужо не ўпэўнена, што атрымаю яе і што маё пісьмо не апынецца ў карзіне пад смецце, а на яго прыйдзе адказ.

## Давайце пабудуем карабель!

Крыніца — найчысцейшая вада. Крыніца — найхаладнейшая і найсвяжэйшая вада. «Крыніца» — і чысціня, і прамата, і шчырасць, і боль. Не магу пакінуць па-за ўвагаю ліст Волгінай Таццяны (№ 5, стар. 3, 1989 г.), якая **закрычала**, колькі лістоў, колькі слоў-крыкаў, якія іншы раз клічуць і адштурхоўваюць. «За» і «супраць», на «так» і «не». А крык гэты, як папяровы караблік, кінуты незнарок хлопчыкам з лужыны, выштанай босымі нагамі ля берага мора, на набягаючую хвалю. І якім бездапаможным і вартым жалю здаецца ён у параўнанні з параходам, што разразае хвалі ўдалечыні. У лужыне, з ножку 18-га памеру, з думкамі ператварыць калі-небудзь гэты караблік у карабель, стаць капітанам далёкага плавання, абарваліся мары дзіцяці... Гіне караблік, і няма сэнсу вылоўліваць і сушыць яго разарваныя барты і рапараваць мачты.

Мне не хочацца прамаўляць словы «панкі», «люберы», «нішчякі» і іншыя (пра якія з такой нянавісцю кажа Таццяна). Можа, таму, што проста не сустракала іх. Якія яны? З імі можна сутыкнуцца ў натоўпе? Доўгія валасы, пракляпаныя курткі, штаны? Але ж у сучасных рок-гуртах можна і страшнейшае ўгледзець. Балюча і страшна чуць пра згвалтаванні, забойствы, крадзяжы, здзекі. Ці ж не тыя гэта **іншыя**? Можа, гэты «гора-панк» яшчэ вышэйшы за «сынка-паіньку», што жыве двайным жыццём дома і за межамі двара?

Маленькая групка качуе, як цыганы па вакзале. Тут ужо «няма «за» і няма «супраць».

Ведаю, што ў нас ёсць праблемы па барацьбе з наркаманіяй, пра якую апошнім часам нешта нічога не чуваць. Ведаю, што людзі страцілі веру, затапталі самае светлае пачуццё — каханне, многія зачыняюцца ў кватэрах «ад няма чаго рабіць» і лечацца сном. Некаторыя, як я, нешта пішуць. Некаторыя чытаюць.

Людзі заходзяць у краму «Абутак» і выходзяць з апушчанымі вачыма, перакошанымі тварамі. Усё лета ходзяць у «мыльніцах», якія ахова здароўя забараняе насіць штодзённа.

Раней «бабуль» на кірмашы ганялі за спекуляцыю, а цяпер гэтая бабуля — гераіня, бо яна нясе карзіну барахла не куды-небудзь, а ў ЦУМ, у кааператыўны аддзел. Колькі маладзі кветачкі прадаюць, прапаноўваюць з добрымі словамі, адпраўляюць з пашанаю. А калі б зазірнулі ў студэнцкі кашалёк хоць раз — можа, і задумаліся б на секунду.

Не ведаюць людзі, куды сілы прыкласці. Колькі талентаў у парку Чалюскінцаў, ля «Мастацкага салону» стаяць над карцінамі і партрэтамі, якія заслугоўваюць месца ў лепшых выставачных залах і музеях? Колькі можа працягвацца праблема дэфіцыту на дзіцячыя цацкі, калготкі, трусікі?

Давайце размалюем аўтобусы дзеля дзяцей, будзем рабіць маражанае рознага колеру і рознае формы, прадаваць на кожным рагу надзьмутыя паветрам шары. Няхай працуюць усе атракцыёны ў парках, іграе музыка.

Няхай адчуваецца лета. І тады не трэба будзе, Танечка, гаварыць пра тое, каб расстраляць за сцены садзіць. Не «панкі», не «іншыя» перафарбоўваюць сцены ў шэры колер. Проста забыліся мы сёння на словы дапамогі, разумення, павагі.

Не моршчы лоб, хлопчык! Усе разам пабудуем чароўны, найпрыгажэйшы карабель ДЗЯЦІНСТВА, карабель ЮНАЦТВА, карабель ШЧАСЦЯ.

**БАРЫСЕВІЧ Святлана,**
**студэнтка МДПІ імя Горкага**





Святлана АЛЕКСІЕВІЧ

# ДВА ГАЛАСЫ

**Фрагменты з новай кнігі «Цынкавыя хлопчыкі»**

*«Гісторыя схлусіць»*
*Б. ШОУ.*



Я бачыла гэтую вайну тут, у сябе дома. На лесвічнай пляцоўцы, калі падымалі цынкавую труну, якая не жадала змясціцца ў пенальных памерах «хрушчоўкі». На вясковых могілках, калі маладыя маці стаялі на ўсколенцах ля маладых магіл. У школах, калі прыйшоўшыя салдаты прыносілі гітары, каб праспяваць аб тым, аб чым трэба крычаць. У вясковых і гарадскіх дамах, дзе ляжаць у чырвоных кніжачках чырвоныя ордэны. Чаму ў іх колер крыві?

Я бачыла гэтую вайну там, на зямлі Афганістана. Дзе таксама плачуць маці. Дзе застаюцца скалечаныя немаўляты, якія яшчэ ні перад кім не маюць віны, дзе ляжаць забітыя кішлакі, падобныя на ўзараныя палі, і змярцвелая гліна нядаўняга людскога жылля жахлівейшая за начную цемру, адкуль у цябе могуць стрэліць.

Таню Белазёрскіх я сустрэла там. Валодзю Панкратава — тут. Два галасы: мужчынскі і жаночы. Адна вайна.

### ГОЛАС ЖАНОЧЫ

Як я сюды трапіла? Вельмі проста. Верыла ўсяму, аб чым пісалі ў газетах. Я сабе казала: «Раней подзвігі рабілі, былі здольныя на самаахвяраванне, а зараз наша моладзь нікуды не вартая. І я такая ж. Там ваююць, а я сабе сукенку шыю, прычоску новую прыдумляю». Маці плакала: «Паміраць буду — не дарую. Я не для таго вас нарадзіла, каб хаваць рукі, ногі паасобку».

Першыя ўражанні? Перасылка ў Кабуле — калючы дрот, салдаты з аўтаматамі, сабакі брэшуць. Адны жанчыны, сотні жанчын. Прыходзяць афіцэры, выбіраюць каторая прыгажэйшая, маладзейшая. Не тоячыся. Мяне падазваў маёр:

— Давай завязу ў свой батальён, калі цябе не бянтэжыць мая машына.

— Якая машына?

— З-пад «грузу дзвесце»...

Я ўжо ведала, што «груз дзвесце» — гэта забітыя, гэта труны.

— Труны ёсць?

— Зараз выгрузяць.

Звычайны КамАЗ з брызентам. Труны кідалі як скрыні з патронамі. Я жахнулася. Салдаты зразумелі: новенькая. Прыехалі ў часць. Спякота, шэсцьдзесят пяць градусаў. У прыбіральні мух столькі, што могуць прыўзняць цябе на крылах. Душа няма. Я адзіная жанчына.

Праз два тыдні выклікаў камбат:

— Ты будзеш жыць са мной...

Два месяцы адбівалася. Аднойчы ледзь гранатай не кінула, другім разам — за нож ухапілася. Наслухалася: «Выбіраеш з вышэйшымі зоркамі... Гарбаты з маслам захочаш — сама прыйдзеш...» Раней ніколі не мацюкалася, а тут:

— Ды валі ты адсюль...

У мяне мат-перамат, агрубела. Перавялі ў Кабул, дзяжурнай у гасцініцу. Першым часам на ўсіх нібы звер кідалася. Глядзелі як на вар'ятку.

— Чаго ты кідаешся? Мы ж цябе не кусаем.

А я інакш не магла. Прывыкла бараніцца. Пакуль у мяне не з'явіўся мой... Каханне? Такіх слоў тут не кажуць. Знаёміць з сябрамі:

— Мая жонка.

А я яму на вуха:

— Афганская?..

Ехалі на бэтээры. Я яго сабою закрыла, але балазе куля — у люк. А ён сядзеў спінаю. Вярнуліся, напісаў жонцы пра мяне. Два месяцы не атрымлівае лістоў з дому.

Люблю хадзіць пастраляць. Цалкам увесь магазін выпускаю, адной чаргой. Мне робіцца лягчэй.

Аднаго духа сама забіла. Паехалі ў горы пыдыхаць паветрам, палюбавацца. Шоргат за каменем, мяне токам назад, і я — чаргу. Першая. Падышла, паглядзела: дужы, прыгожы мужчына ляжаў...

— З табой можна ў разведку,— сказалі хлопцы.

Я нос задзерла. Ім яшчэ спадабалася, што я не палезла да яго ў сумку па рэчы, а толькі пісталет узяла. Потым яны мяне ўсю дарогу сцераглі — раптам млосна зробіцца, ванітаваць пачну. Нічога...

Прыйшла, адчыніла халадзільнік і шмат з'ела, так шмат, што іншым разам мне б гэтага на тыдзень хапіла. Нервовае расстройства. Прынеслі бутэльку гарэлкі. Піла — не п'янела. Жудасна рабілася: каб я не пацэліла, мая матуля атрымала б «груз дзвесце». Я

хацела быць на вайне, але ж не на гэтай, а на Вялікай Айчыннай.

Адкуль бралася нянавісць? Вельмі проста. Забілі таварыша, а ты быў з ім побач, еў з аднаго кацялка. І вось ён ляжыць увесь абгарэлы, падсмалены. Адразу ўсё зразумела. Тут будзеш страляць, страляць да вар'яцтва. Мы не прывыклі думаць аб вялікіх пытаннях: хто гэта распачаў? Хто вінаваты? Улюбёны наш анекдот на гэтую тэму. У армянскага радыё пытаюцца, што такое палітыка. Армянскае радыё адказвае: вы чулі, як мочыцца камар? Дык палітыка — гэта яшчэ танчэй. Няхай урад палітыкай займаецца, а тут людзі бачаць кроў і звяраюць... Бачаць, як абгарэлая скура згортваецца трубкай, бы лопнутая капронавая панчоха... Жуда, калі жывёлін забіваюць... Расстрэльвалі караван, ён вёз зброю. Людзей расстралялі асобна, ішакоў — асобна. Яны аднолькава маўчалі і чакалі смерці. Паранены ішак крычаў, быццам па жалезу цягнулі чымсьці такім жалезным. Рыпуча гэтак.



У мяне тут іншае аблічча, іншы голас. Можаце ўявіць, якія мы тут, якімі робімся, калі мы, дзяўчаты, гаворым:

— Ну і дурань! Пасварыўся з сяржантам і пайшоў да духаў. Стрэльнуў бы дый усё. Спісалі б на баявыя страты.

Звычайная размова, як мае быць. Шмат якія афіцэры думалі, што тут як у Саюзе: можна выцяць салдата, зняважыць... Такіх знаходзілі забітымі... У баі ў спіну страляць... Паспрабуй дакажы...

На заставах у гарах хлопцы гадамі нікога не бачаць. Верталёт тры разы на тыдзень. Я прыехала. Падышоў капітан:

— Дзяўчына, здыміце фуражку.— А ў мяне былі доўгія валасы.— Я цэлы год не бачыў жанчыны.

Усе салдаты высыпалі з траншэяў, глядзяць.

А ў баі мяне закрыў сабою адзін салдат. Колькі жыць буду, не забуду яго. Ён мяне не ведаў, ён гэта зрабіў толькі таму, што я — жанчына. Ці на такое забудзешся? І дзе ў звычайным жыцці даведацца, ці здолее чалавек закрыць цябе сабою? Тут лепшае яшчэ лепшае, горшае — яшчэ горшае. Абстрэльваюць... І салдат кідае мне знявагу. Брыдкую. І яго забіла, абрэзала палову галавы, палову тулава... На маіх вачах... Мяне затрэсла, бы ў малярыі. Хоць раней я бачыла вялікія поліэтыленавыя мяшкі з трупамі... Трупы загорнутыя ў фальгу, як вялікія цацкі... Але каб мяне калаціла, такога не здаралася... А тут я не магла супакоіцца...

Не заўважала, каб дзяўчаты тут насілі баявыя ўзнагароды. Нават калі яны іх маюць. Адна надзела медаль «За баявыя заслугі» — усе кпілі: «За палавыя заслугі...» Таму што ўсе ведаюць: медаль можна атрымаць за скрыню тушонкі, за ноч з камбатам... Чаму жанчыны тут? Што, без іх нельга было абысціся? Чаму жанчыны сюды імкнуцца? Грошы... Купіш магнітафон, рэчы, вернешся дадому — прадасі: у Саюзе столькі не заробіш, як тут, у Афгане. За рэчы (у нас жа шчырая размова) нашы жанчыны прадаюцца духаншчыкам проста ў духанах, у падсобках, а яны ж такія невялічкія... Зойдзеш у духан, бачаты крычаць: «Ханум, джык-джык»...— ды паказваюць на падсобку. Свае афіцэры разлічваюцца чэкамі, так і кажуць: «Пайду да «чэкісткі»... Усё гэта таксама праўда. Як і гэты анекдот. У Кабуле на перасылачным пункце сустрэліся: Змей Гарыныч, Кашч Бессмяротны ды Баба Яга. Усе едуць абараняць рэвалюцыю. Праз два гады ўбачылі адзін аднаго па дарозе дамоў: у Змея Гарыныча толькі адна галава засталася, астатнія знесла, Кашч Бессмяротны ледзьве жывы застаўся, таму што бессмяротны, а Баба Яга ўся ў «мантане», мармурка на ёй. Вясёлая, задаволеная:

— А я на трэці год афармляюся.

— Ты з глузду з'ехала, Баба Яга!

— Гэта ў Саюзе я Баба Яга, а тут — Васіліса Прыгожая.

Так, паламаныя людзі адсюль выходзяць. Асабліва салдаты, хлапчукі год васемнаццаці — дзевятнаццаці. Яны ўбачылі тут, як усё прадаецца... Шмат чаго... Не трэба здзіўляцца, што яны сябе потым нейк інакш паводзяць у Саюзе. У іх іншы вопыт. Яны прызвычаліся вырашаць усё аўтаматам, сілаю. Духаншчык прадаваў кавуны, адзін кавун — сто афгашак. Нашы салдаты хацелі танней. Ён адмовіў. Ах, гэтак?! — адзін узяў ды расстраляў з аўтамата ўсе кавуны, цэлую гару кавуноў. Паспрабуй такому ў тралейбусе стаць на нагу або не прапусціць яго ў чарзе...

Марыла: вярнуся дахаты, вынесу раскладушку ў садочак дый засну пад яблынямі... А зараз баюся... Шмат ад каго можна пачуць, асабліва цяпер, перад вывадам нашых войскаў: «Я баюся вяртацца ў Саюз». Чаму? Вельмі проста. Мы прыедзем, а там усё змянілася: іншая мода за гэтыя два гады, іншая музыка, іншыя вуліцы... Іншыя адносіны да гэтае вайны... Мы будзем, як белыя вароны...

Таня Белазёрскіх,
служачая.

## ГОЛАС МУЖЧЫНСКІ

Прывезлі нас у Самарканд. Стаяць дзве палаткі. У адной мы скідвалі з сябе ўсё цывільнае, хто разумнейшы — паспеў па дарозе куртку, світэр прадаць, купіць віна напаследак; у другой выдавалі салдацкія «бэу» (бывшие в употреблении) — гімнасцёркі сорак пятага года, «кірзачы», анучы. Пакажы гэткія «кірзачы» звыкламу да спякоты негру — прытомнасць страціць... У слабаразвітых афрыканскіх краінах у салдат лёгкія чаравікі, курткі, порткі, кепі, а мы ў страі, з песняю, па саракаградуснай спякоце — ногі варацца. Першы тыдзень на заводзе халадзільнікаў разгружалі шклавату. На гандлёвай базе цягалі скрыні з ліманадам. Пасылалі да афіцэраў дамоў, у аднаго я хату цэглаю абкладваў. Тыдні два дах на свінушніку крылі: тры лісты шыферу заб'еш, два сплавіш за бутэльку. Дошкі заганялі па цане: адзін метр — адзін рубель. Напярэдадні прысягі два разы завялі на палігон, першага разу далі дзевяць патронаў, другога разу — мы кінулі па гранаце.

Пастроілі на пляцы і зачыталі загад: накіроўваецеся ў ДРА выконваць інтэрнацыянальны абавязак. Хто не жадае — два крокі наперад. Тры чалавекі выйшлі. Камандзір часці вярнуў іх у строй выспяткам: маўляў, правяралі ваш баявы настрой. Сухпаёк на два дні, скураны рэмень ды ў дарогу. Усе ехалі, усе маўчалі. Здалося, доўга. Убачыў праз ілюмінатары горы: прыгожыя! Раней ніколі гор не бачыў, мы — пскоўскія, у нас паляны ды лясок. Высадзіліся ў Шынданце. Памятаю дзень, месяц: дзевятнаццатага снежня тысяча дзевяцьсот васьмідзесятага года...

Зірнулі на мяне:

— Метр восемдзесят... У разведроту. Там такія хлопцы патрэбныя.

З Шынданта — у Герат. А там будоўля. Будавалі палігон. Капалі зямлю, цягалі каменне на падмурак. Я крыў дах шыферам, цяслярыў. Некаторыя нават не стралялі да першага бою. Есці хацелася ўвесь час. На кухні два бачкі на пяцьдзесят літраў: адзін для першай стравы — капуста з вадою, мяса не зловіш, другі для другой — клейстар (сушаная бульба) або ячная каша без масла. На чатырох ставілі бляшанку скумбрыі з этыкеткаю: год вырабу — тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят шосты, тэрмін захоўвання — адзін год і шэсць месяцаў. За паўтары гады я толькі аднойчы перастаў хацець есці, калі мяне паранілі. А так увесь час ходзіш ды думаеш: дзе б чаго здабыць, украсці, каб паесці. У сады да афганцаў лазілі, яны стралялі. На міну можна было натыхнуцца. Але так хацелася яблыкаў, груш, якой-небудзь садавіны. Прасілі ў бацькоў лімонную кіслату, яны прысылалі ў пісьмах. Разводзілі яе ў вадзе ды пілі. Кісленькая. Палілі сабе страўнікі. Напярэдадні першага бою ўключылі Гімн Савецкага Саюза. Гаварыў нампаліт. Я запомніў, што мы на адну гадзіну апярэдзілі амерыканцаў і дома нас чакаюць як герояў.

Як я буду забіваць, я сабе не ўяўляў. Да арміі займаўся веласпортам, мускулы накачаў сабе такія, што мяне баяліся, не чапаў ніхто. Я нават бойкі не бачыў, каб з нажом, з крывёю. Тут мы ехалі на бэтээрах. Дагэтуль з Шынданту ў Герат нас прывезлі аўтобусам, яшчэ аднаго разу выязджаў з гарнізона на ЗІЛе. На брані, са зброяй, рукавы загорнутыя да локцяў... Было новае пачуццё, незнаёмае: пачуццё ўлады, моцы і ўласнае бяспекі. Кішлакі адразу сталі нізкімі, арыкі плыткімі, дрэвы рэдкімі. Праз паўгадзіны так супакоіліся, што адчуў сябе турыстам. Разглядаў чужую краіну — экзотыка! Якія дрэвы, якія птушкі, якія кветкі! Калючку першы раз бачыў. Пра вайну забыўся.

Праехалі цераз арык, па гліняным мосціку, які, на маё здзіўленне, вытрымаў некалькі тон металу. Раптам выбух: па пярэднім бэтээры ўдарылі ва ўпор з гранатамёта. Вось ужо нясуць на руках знаёмых хлопцаў... Без галоў... Нібыта нейкія пудзілы... Кардонныя мішэні... Рукі матляюцца... Розум не здолеў адразу ўключыцца ў гэтае новае і страшэннае жыццё... Загад: разгарнуць мінамёты («васількі» мы іх звалі) — сто дваццаць стрэлаў у хвіліну. Усе міны — у кішлак, адкуль стралялі, у кожны двор — па некалькі мін. Сваіх жа па кусках складвалі пасля бою, лыжкаю саскрэбвалі з брані. Смяротных медальёнаў не было, разаслалі брызент — брацкая магіла... Адшукай дзе чыя нага, дзе чый кавалак чэрапа. Медальёнаў не выдавалі... Незнарок у чужыя рукі трапяць... Імя, прозвішча, адрас... Як у песні: «Наш адрес не дом и не улица, наш адрес — Советский Союз»... Вайна ж неабвешчаная... Мы былі на вайне, якой не было.

Вярталіся моўчкі. Быццам з другога свету. Пашаравалі зброю. Тады сталі гаварыць.

— Касячок заб'еш? — прапаноўвалі «дзяды».

— Не хачу.

Я не хацеў курыць наркотыкі, баяўся, што не кіну. Да іх прызвычайваешся, патрэбна моцная воля, каб кінуць. Потым усе курылі — інакш не вытрымаеш. У плоў наркотыкі сыпалі, у кашу. Вочы — па паўрублю. Уначы бачыш бы кот... Лёгкі быццам кажан... Былі б наркомаўскія сто грамаў, як у тую вайну... Не дазвалялася... Сухі закон... Але ж трэба зняць напругу, чымсьці кампенсаваць выдаткі. Забыцца...

Разведчыкі памятаюць, каго забілі. Яны забіваюць не ў баі, а зблізку. Не аўтаматам, а фінкаю, штыком, каб ціха, нячутна. Я хутка навучыўся гэта рабіць, уцягнуўся. Першы забіты? Каго блізка забіў? Памятаю... Падышлі да кішлака, у біноклі начное бачнасці прыкмецілі: ля дрэва свеціць маленькі ліхтарык, стаіць вінтоўка, і ён штосьці адкопвае. Я аддаў таварышу аўтамат, сам наблізіўся на адлегласць скачка і скокнуў, збіў яго з ног. Каб не крычаў, запхнуў у рот чалму. Нож мы з сабой не ўзялі, цяжка несці. Быў у мяне сцізорык, якім бляшанкі адкрывалі. Звычайны сцізорык. Ён ужо ляжаў... Адцягнуў за бараду, валасы жорсткія — і перарэзаў горла. Скура нацягнулася лёгка. Крыві наглядзеўся...



Быў я на пасадзе старшага разведчыка. Выходзілі звычайна ўначы... З нажом стаіш за дрэвам... Яны ідуць... Наперадзе — дазорны, дазорнага трэба зняць. Здымалі па чарзе... Мая чарга... Дазорны параўнаўся з табою — крыху прапусціш і скочыш ззаду. Галоўнае — схапіць леваю рукою за галаву і горла ўверх, каб не крыкнуў. Праваю рукою — нож у спіну. Пад печань... І праткнуць наскрозь... У мяне потым быў трафей... Японскі нож, даўжыня — трыццаць адзін сантыметр. Гэты лёгка ў чалавека ўваходзіў. Патузаецца дый упадзе, не ўскрыкне. У звычайным жыцці цяжка нават жывёліну забіць. Труса, курыцу... Ёсць страх. А мясніку не страшна, у яго работа такая. Прызвычайваешся... Псіхалагічна не так было цяжка, як тэхнічна. Каб трапіць у верхнюю костку пазваночніка... У сэрца... У печань... Мы на палонных прыёмы адпрацоўвалі. Каратэ вучыліся. Скруціць, звязаць. Знайсці балявыя кропкі: нос, вушы, над павекамі — дакладна ўдарыць. Торкнуць нажом таксама трэба ведаць куды...

Аднаго разу ўнутры штосьці падалося, цокнула. Стала жудасна. Прачэсвалі кішлак. Звычайна адчынялі дзверы і перад тым, як увайсці, кідаеш гранату, каб на аўтаматную чаргу не наскочыць. Навошта рызыкаваць, так надзейней. Кінуў гранату, перачакаў выбух і заходжу: ляжаць жанчыны, двое хлопцаў трохі большых і немаўля. У нейкай скрыначцы... Замест калыскі...

Каб зараз не звар'яцець, трэба апраўдаць сябе. А калі гэта праўда, што душы забітых глядзяць на нас зверху?

Я вярнуўся дамоў, я хацеў быць добрым. Але часам у мяне з'яўляецца жаданне перагрызці горла. Я вярнуўся сляпы. Куля знесла сятчатку з вачэй. Увайшла ў левую скроню, з правай выйшла. Адрозніваю толькі святло і цені. Але тых, каму трэба перагрызці горла, я ведаю... Каму шкада каменя на магілы для нашых хлопцаў. Каму не хочацца даваць нам кватэры: «Я вас у Афганістан не пасылаў». Каму няма да нас справы... Ува мне ўсё кіпіць, тое, што было. Без вачэй я болей адзін, болей у сабе. Калі б у мяне адабралі мінулае? Не, не аддам. Я толькі гэтым жыву.

Навучыўся хадзіць не бачачы. Хаджу па горадзе сам, сам у метро, сам на пераходах. Сам гатую, жонка здзіўляецца: я гатую смачней за яе. Я ніколі не бачыў сваю жонку, але ведаю, якая яна. Якога колеру ейныя валасы, які нос, якія вусны... Я чую рукамі, целам... Маё цела бачыць. Я ведаю, які ў мяне сын... Спавіваў яго маленькага, пялюшкі мыў... Зараз нашу на плячах... Часам мне здаецца, што вочы непатрэбныя. Вы, пэўна, заплюшчваеце вочы, калі самае галоўнае адбываецца. Калі вам добра. Вочы патрэбныя мастаку, таму што гэта ягоная прафесія. А я навучыўся жыць без вачэй. Я адчуваю свет... Я яго чую... Для мяне слова значыць болей, чым для тых, хто мае вочы.

Для шмат каго я чалавек, у якога ўсё ў мінулым: маўляў, адваяваўся хлопец. Як Юрый Гагарын пасля палёту. Не, самае галоўнае ў мяне — наперадзе. Я гэта ведаю. Целу не трэба надаваць большае значэнне, чым веласіпеду, а я ў мінулым веласіпедыст, у гонках браў удзел. Цела — гэта інструмент, станок, на якім мы працуем, не болей... Гэта я зразумеў... Столькі відушчых не бачаць. З вачыма я быў больш сляпы, чым зараз. Хочацца ад усяго ачысціцца. Ад усяго гэтага бруду, у які нас уцягнулі. Толькі маці нас зараз разумеюць і бароняць. Вы не ведаеце, як страшна бывае начамі? Калі зноў, ужо каторы раз кідаешся з нажом на чалавека... І толькі ў сне я бываю дзіцём... Дзіця кроў не страшыць, яно яе не баіцца, таму што яму невядома, што гэта такое. Чырвоная вадзіца... Дзеці — даследчыкі прыроды, ім ахвота ўсё разабраць, зразумець, як і што ўладкавана. Пачуў, як на двары хлапчукі па частках раздзіраюць ката,— закрычаў! Я цяпер і ў сне крыві баюся...

Уладзімір ПАНКРАТАЎ,
радавы, разведчык.

Пераклаў Уладзімір СЕРПІКАЎ

Людміла СІЛЬНОВА

## РЫСАСЛОВЫ

Творы Людмілы Сільновай, якія мы прапануем увазе чытачоў, у рускай паэзіі маюць жанравае вызначэнне — изостихи. А як па-беларуску? На дапамогу нам прыйшоў Алесь Разанаў. «Малюдкі,— сказаў паэт.— Малюнкі Людкі». Паэт, вядома, жартаваў. «А наогул,— сказаў ён,— прапаную слова «рысаслоў», «рыслоў». Падабаецца?»

Нам спадабалася. Такім чынам, прапануючы вашай увазе творы Л. Сільновай, мы надаем ім жанравае вызначэнне — рысасловы.








# СНІД: ЧАГО НАМ БАЯЦЦА

## Маральныя і этычныя праблемы новай эпідэміі

У вывучэнні СНІДА кожны год прыносіць нешта новае. Яшчэ нядаўна многія спецыялісты крытыкавалі тых медыкаў, якія лічылі, што ўсіх, хто заражаны вірусам, чакае смерць. Цяпер аптымістаў стала значна менш. Гэтаксама ж выпарылася нядаўняя ўпэўненасць у хуткім стварэнні эфектыўнай вакцыны: вучоныя прадказалі яе з'яўленне да 1995 года. Аптымістаў амаль не засталося. З другога боку, распрацаваны метады лячэння, якія дазваляюць пры наяўнасці моцнае волі саміх пацыентаў і пры падтрымцы сям'і прадоўжыць жыццё хворым на СНІД. І яшчэ адна змена ў масавай свядомасці: хвароба пагражае не толькі тым, хто ўваходзіць у групы рызыкі — гомасексуалістам, прастытуткам, наркаманам — хвароба пагражае ўсім.

Тым часам грамадская нецярпімасць знайшла ў ЗША спрыяльную глебу. Узаемныя абвінавачанні так і сыплюцца: амерыканцы абвінавачваюць гомасексуалістаў і гаіцянцаў, еўрапейцы кляймяць афрыканцаў, азіяты — амерыканскіх маракоў. Гэтыя абвінавачанні прыводзяць да дыскрымінацыі тых, хто ўжо хворы на СНІД, ці заражаны вірусам, ці належыць да групы рызыкі.

Джонатан Ман, кіраўнік праграмы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя па барацьбе са СНІДам, лічыць: «Многія спрабуюць супрацьпастаўляць «правa большасці» не заразіцца «праву меншасці» — інакш кажучы, тых, хто ўжо заражаны вірусам. Гэта памылковае проціпастаўленне. Бяспека большасці залежыць ад забеспячэння правоў заражаных і захавання іх годнасці». Такога ж пункту погляду прытрымліваецца і кіраўнік амерыканскай прэзідэнцкай камісіі па СНІДу: «Дыскрымінацыя заражаных вірусам СНІДа падрывае здольнасць нашай нацыі абмежаваць распаўсюджванне эпідэміі».

Выяўленне віруса імунадэфіцыту ў крыві прымушае чалавека выпрацоўваць адпаведныя антыцелы. З невядомых пакуль прычын яны не наносяць шкоды самому вірусу, але адкрываюць магчымасць ягонай дыягностыкі. Прысутнасць антыцелаў азначае, што ў чалавека можа развіцца СНІД.

Праўда, ёсць людзі, чый арганізм ніколі не выпрацоўвае антыцелаў на гэты вірус. Вядомыя выпадкі, калі такія антыцелы зніклі. Так што застаецца магчымасць памылак у дыягностыцы. Цяпер распрацоўваецца новы метад вызначэння наяўнасці віруса ў крыві, які дазваляе абавязкова выявіць яго.

У ЗША пасля атрымання серапазітыўнай рэакцыі неадкладна робіцца другі тэст — па іншай методыцы. Толькі ў выпадку станоўчага выніку наяўнасць віруса лічыцца даказанай. Кошт тэсту — ад аднаго да пяці долараў, паўторнага — ад 30 да 75 долараў. Тэсты для 3,2 мільёнаў рэкрутаў абышліся дзяржаўнаму бюджэту ЗША ў 43 мільёны долараў.

З'яўленне СНІДу апрача ўласна медыцынскіх праблем паставіла перад намі і праблемы маральныя. Ці павінны ўлады падвяргаць абавязковаму тэстыраванню ўсіх замежнікаў, каб перашкодзіць «імпарту» захворвання? Ці не варта падвергнуць прэвентыўнай ізаляцыі ўсіх тых, хто можа стаць разносчыкам віруса — напрыклад, прастытутак? Які тып сексуальных паводзін дапусцімы і ці можна ўвогуле ўмешвацца ў такую інтымную сферу?

Ускладаць усю віну на іншых людзей замест таго, каб заняцца рашэннем праблемы — тыповая чалавечая рыса. Пошук ворага ці віноўніка грамадскіх бедаў не вымагае на самай справе фактаў і доказаў. На ролю віноўніка запрашаюць звычайна тых, хто нечым адрозніваецца ад большасці, найчасцей гаворка ідзе пра нацыянальныя меншасці. Эпідэміі — ад чумы да інфлюэнцы — масавая свядомасць заўсёды схільная была прыпісваць «благім паводзінам якіхсьці людзей... Заканчвалася заўсёды гэта крывёю.

У сярэдзіне 1982 года Цэнтр па кантролю за эпідэміямі ЗША паведаміў, што сімптомы новай загадкавай хваробы выяўлены ў значнай колькасці выхадцаў з Гаіці, якія адмаўлялі, што займаюцца гомасексуалізмам і наркаманіяй. Ці ж не ключ гэта да паходжання хваробы? Гаіцяне былі названы сярод іншых груп рызыкі — разам з гомасексуалістамі, хворымі на гемафілію і наркаманамі, якія рабілі ўнутрывенныя ін'екцыі. Праз год некалькі дактароў выступілі з абвяржэннем: сярод хворых на СНІД гаіцян было ўсяго 6 працэнтаў, іншыя этнічныя групы не маглі пахваліцца меншым працэнтам. Што ж датычыць нежадання гаіцян прызнаць сваё захапленне наркотыкамі ці гомасексуалізмам, дык прычына тут у нацыянальных традыцыях: гаіцяне ніколі не гавораць пра такія рэчы.

Цэнтр па кантролі за эпідэміямі выкрэсліў гаіцян з пераліку груп рызыкі, аднак яны па-ранейшаму не маюць права здаваць кроў на тэрыторыі Злучаных Штатаў.

Апытанні грамадскае думкі паказваюць, што большасць людзей не жадала б працаваць з хворым на СНІД. Паліцэйскія патрабуюць права выкарыстоўваць усе сродкі, якія толькі маюць, каб не даць хвораму на СНІД дакрануцца да іх... У аснове, ведама ж, ляжыць страх заразіцца. Але ўладальнікі кампаній яшчэ і не хочуць несці расходы, аплачваючы бюлетэні асуджаных на смерць людзей.

Аднак некаторыя кампаніі заявілі, што гатовыя паклапаціцца аб тым, каб хворыя мелі магчымасць працаваць у іхніх сценах. У 1988 годзе ўрад ЗША зацвердзіў наступныя рэкамендацыі: адміністрацыя павінна разумець страх людзей заразіцца СНІДам і паклапаціцца пра тое, каб усе ўсвядомілі немагчымасць гэтага ў працэсе сумеснае працы; хворы на СНІД павінен працаваць да тае пары, пакуль гэта магчыма па медыцынскіх меркаваннях; да тых, хто адмовіцца працаваць з ім, прымяняць дысцыплінарныя меры.

Нежаданне мець справу з хворымі ўзнікае і сярод медыцынскага персаналу. У розных краінах вядомыя выпадкі, калі хворым адмаўлялі ў медыцынскай дапамозе. Амерыканская медыцынская асацыяцыя прыняла спецыяльнае рашэнне: урачы, медыцынскія сёстры і іншыя работнікі аховы здароўя, якія адмаўляюцца дапамагчы хвораму на той падставе, што ён хворы на СНІД ці ў яго знойдзены вірус імунадэфіцыту чалавека, здзяйсняюць прафесійнае злачынства.

Вядома толькі некалькі выпадкаў заражэння вірусам пры выкананні службовых абавязкаў. Кожны раз у выніку ўласнае неасцярожнасці, невыканання гігіенічных мераў пры рабоце з аналізамі крыві і ніколі з-за кантакту з целам хворага.

У час камандзіроўкі ў Францыю я сустрэўся з двума медыкамі, якія займаюцца праблемамі СНІДу. Доктар Франсуа Дэніё працуе ў інстытуце Пастэра. Атрымаўшы медыцынскую адукацыю, ён практыкаваў у сан-францыскай клініцы, дзе лячыліся хворыя на СНІД.

—Ці можна назваць СНІД чумою XX стагоддзя?

— З медыцынскага пункту погляду чума была страшнейшая для чалавецтва. Праз тагачасныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы яна знішчыла вялікую колькасць людзей; з-за нізкага ўзроўню медыцыны прафілактыка знаходзілася ў зачатачным стане. Таму чума і знішчыла велізарныя масы людзей.

Але апрача медыцынскага ёсць яшчэ і псіхалагічны аспект. Першыя хворыя на СНІД адчувалі сябе так, як некалі хворыя на чуму: яны пакутавалі ад дыскрымінацыі бліжніх. Але цяпер, ва ўсякім выпадку, у Францыі, становішча робіцца лепшае. Мы пастараліся данесці інфармацыю пра СНІД да кожнага француза. Людзі ведаюць ступень рызыкі, спосабы перадачы віруса і разумеюць, што ў штодзённым жыцці заражэнне немагчымае.

— Ці падвяргаюцца рызыцы самі дактары?

— Мы не ведаем аніводнага выпадку заражэння дактароў у выніку агляду хворых. Існуе пэўная ступень рызыкі для тых, хто бярэ кроў, робіць аналізы, аперыруе. Неакуратнасць можа прывесці да заражэння: дастаткова, каб кропля крыві трапіла на скуру. Дактары павінны працаваць у пальчатках, засце-

Заканчэнне на стар. 16.







**Павел ЯКУБОВІЧ**

# ЗА МЯЖОЮ ЖЫЦЦЯ

**Адной з найвастрэйшых тэмаў апошнім часам была такая — ці патрэбна смяротнае пакаранне? Зразумела, чаму гэтае пытанне так хвалюе грамадскасць.**

Бо ж з аднаго боку, калі ўсё болей і болей прыадчыняюцца таямніцы масавых рэпрэсій сталінскае эпохі, а ўжо блакітныя кніжкі «Нового мира» данеслі да нас салжаніцынскі «Архипелаг ГУЛАГ», і кожны разумны чалавек усведамляе, што наяўнасць у крымінальным кодэксе «выключнае меры пакарання» можа аднаго дня пераўтварыць яе з «выключнае» ў вельмі і вельмі распаўсюджаную. Дагэтуль жывуць у народнае памяці масавыя «кашкецінскія расстрэлы», Курапаты, Быкоўня — усе гэтыя і іншыя незлічоныя сімвалы з часоў пазасудовых «чрезвычаек» і змрочных сутарэнняў НКУС узрошчваюць у нас імунітэт супраць расстрэльных артыкулаў кодэкса. Бо ж і зусім не старыя людзі памятаюць, як падвялі «пад вышку» ў 60-я гады Рокатава і Файбішанку за злачынства, якое сёння, досыць верагодна, і не лічылася б злачынствам. Словам, гаворка ідзе не толькі аб расправах на палітычных матывах, але і аб дамоклавым мячы, што вісіць над любым грамадзянінам, які трапіў у калясніцу следча-судовых органаў, не застрахаваных ад памылак, органаў, якія валодаюць такой зброяю, як вынясенне смяротных прысудаў. Згадаем нядобрым словам крывавага следчага Жаўнеровіча, які адправіў у суд нявінных ахвяр сваёй падазронасці, і суддзяў, якія бяздумна і жорстка праштампавалі абвінаваўчыя заключэнні, напісаныя Жаўнеровічам.

Хвалююць, апрача ўласна практычных пытанняў, і такія далікатныя праблемы, як, скажам, праблема ка́таў. Бо чалавек, нават калі ён знаходзіцца на дзяржаўнай службе і прыводзіць у выкананне кімсьці зацверджаныя прысуды, усё роўна міжволі распаўсюджвае вакол сябе міязму жорсткасці. Дарэчы, ці ж не таму мы адчуваем цяпер вынікі бесчалавечнасці 30-х і 40-х гадоў, што тысячы расстрэльшчыкаў НКУС-МДБ, закончыўшы службу і растварыўшыся сярод добрачынных грамадзян, прынеслі ў грамадства абыякавасць да чалавечага жыцця.

Вось у некалькіх словах квінтэсенцыя разваг тых, хто лічыць, што смяротнае пакаранне неабходна неадкладна адмяніць. Свае пасылы яны, натуральна, падмацоўваюць статыстыкай і лічбамі, вопытам замежных краін і іншымі, з іхняга пункту погляду, эфектыўнымі аргументамі.

Але ўсе гэтыя аргументы і спасылкі на айчынную і замежную гісторыю абвяргаюцца тымі, хто мае іншы пункт гледжання і лічыць, што смяротнае пакаранне, як сродак пакарання і запалохвання — неабходнае!

Пры гэтым у якасці аргумента прыводзіцца галоўны: «А калі б па-звярынаму забілі вашу маці? Як бы вы рэагавалі асабіста?»

...Я вельмі доўга дамагаўся гэтае сустрэчы. Фармальнасцей было шмат, што, зрэшты, нядзіўна: гаворка ж ішла пра спатканне з забойцаю, асуджаным да выключнае меры пакарання, які чакаў начнога стуку ў камеру, пасля чаго павінна было закончыцца ягонае зямное жыццё. Дзякуй богу, пасля дакументальнага фільма Герца Франка мы прыкладна ведаем, як усё гэта выглядае. Але ідучы на дазволенае ў рэшце рэшт спатканне ў турмовую камеру смяротнікаў, я згадваў усе вядомыя мне метады пакарання. Згадзіцеся, што такія змрочныя ўспаміны былі натуральнымі перад такой незвычайнай нават для журналіста сустрэчай.

У арабскіх эміратах дагэтуль злавесны абрад выконваецца катам у масцы, які адсякае галаву клінком з дамаскае сталі. У Іране забіваюць спецыяльнай, асвечанай муламі, дубінаю. Дагэтуль прысуд прыводзіцца ў выкананне «каменнай» смерцю — на Бліжнім Усходзе захаваўся такі від пакарання — асуджанага апускаюць у вузкую яміну, і кожны праўнаверны павінен кінуць туды камень — пакуль на гэтым месцы не вырасце гара крывавага камення. А ёсць яшчэ і «кол», калі асуджаны пакутуе на гэтам ражне, яшчэ некалькі гадзін усё бачыць і адчувае...

Але гэта, натуральна, атавізмы сярэдневяковае жорсткасці.

У цывілізаваных ЗША, дзе грамадскасць даўно непакоілі пытанні гуманізацыі, смяротныя прысуды прыводзяцца ў розных штатах па-рознаму. Сям-там суды асуджаюць да павешання. Як на думку заканадаўцаў штата, дык гэты спосаб, магчыма, і не зусім гуманны, але наводзіць страх... Затое ў большасці штатаў выкарыстоўваюць дасягненні тэхнікі. Самае старое — электрычнае крэсла. За некалькі дзён асуджанаму паведамляюць пра дзень пакарання. Затым да яго перапыняюць доступ адваката і дазваляюць апошняе спатканне з раднёю. Пасля гэтага яму аб'яўляюць, што наступны сняданак апошні ў ягоным жыцці. Спецыяльны супрацоўнік турмы тлумачыць, як будзе праходзіць пакаранне. Цырульнік голіць патыліцу і галёнку — менавіта сюды будуць прымацаваныя меркі, якія паняўсць электроды. І нарэшце асуджанага вядуць у пакой, дзе стаіць металічнае крэсла, даюць яму магчымасць сказаць апошняе слова, прымацоўваюць электроды, прышпільваюць да крэсла, ізаляцыйнай стужкай закрываюць вочы і рот. Манцёр уключае рубільнік...

У некаторых штатах для прывядзення прысуду выкарыстоўваецца газавая камера, а ў некаторых — спецыяльны катэтэр, па якім у вену падаюць атруту — забівае яна імгненна.

Зрэшты, усё гэта ў іх, а ў нас дагэтуль рахункі з жыццём вырашае банальная куля, дзевяць грамаў свінца. Так, ва ўсякім выпадку, распавядаюць легенды, бо тыя, хто «прыводзіць у выкананне», дагэтуль найстражэйшым чынам засакрэчаныя, а іхнія «кліенты» нічога расказаць ужо не могуць.

Узбагачаны такой вось інфармацыяй, я нарэшце прыбыў у турму, з маладым франтаватым, што асабліва кантрастна кідалася ў вочы (на фоне шэрых і змрочных сцэнаў), капітанам пад стук металічных дзвярэй прайшоў некалькі паверхаў і спыніўся ля камеры.

— Тут,— сказаў капітан, а старшына па ягонай камандзе адчыніў дзверы, і мы ўвайшлі ў невялікі пакой, дзе замест акна палыхала лямпачка, а прывінчаны да сцяны ложак нагадваў пра ўтульнасць. Не надавала ўтульнасці і пасудзіна, усенародна вядомая як «параша». І ён, прыціснуўшыся да сцяны, у наручніках, акідваў нас нейкім дзіўным поглядам, у якім спалучаліся і абыякавасць, і трывога.

Злачынства, якое зрабіў гэты чалавек, уразіла бязмежна не толькі мяне, але, здаецца, і суддзяў, якія выносілі прысуд. Я потым некалькі разоў яшчэ глядзеў на справу «асуджанага Харчанку В. І., 1954 года нараджэння, не жанатага, раней шмат разоў судзімага» і, дальбог, іншы раз пачынаў разумець, што выраз «валасы дыбам» — зусім не банальны літаратурны штамп. Вось што зрабіў Харчанка.

Адбываючы пакаранне ў адной калоніі, ён вырашыў уцячы. Але шанцаў на ўсе традыцыйныя метады было мала, надта ўжо ў аддаленай зоне ён сядзеў. Салдаты неслі службу пільна, спецыяльная тэхніка папярэджвала пра набліжэнне да «запретки» за некалькі крокаў. І Харчанка прыдумаў.

Карыстаючыся ведамі, атрыманымі ў юнацтве ў медвучылішчы, ён уявіў, што поспех уцёкаў можа залежыць ад удала праведзенай пластычнай аперацыі. Праўда, меўся на ўвазе не ён сам, а нехта іншы. Дачакаўшыся, калі вольнанаёмны шафер грузавіка, які штодня прыязджаў у прамзону, адышоў ад машыны, Харчанка падышоў да яго.

— Слухай, браток, штурхні лісточак на волю. Жонка, разумееш, занудзілася, а ў мяне дазвол на ліст адно праз месяц. Я аддзячу.

Харчанка дастаў з ватніка сторублёвую паперу і, хутка азірнуўшыся, сунуў шафёру.

— Годзе, давай тваю ксіву,— самаўпэўнена мовіў шафёр.

— Разумееш, браток, яна ў мяне ў кацельнай. Цынкануў ад мянтоў. Ідзем, уручу.

Грошы зрабілі сваю справу. Дбайна праінструктаваны шафёр забыўся на ўсе наказы начальства і пайшоў за Харчанкам. У кацельнай Харчанка ўдарыў вадзіцеля нажом, а затым зрабіў аперацыю, якая па сваёй пачварнай жорсткасці непараўнальная ні з чым раней чутым мною. Брытваю ён надрэзаў скуру сваёй ахвяры, затым вывярнуў як панчоху і надзеў на сябе. Уяўляеце? Дыпламаваныя хірургі і паталагаанатомы, якія праводзілі затым следчы эксперымент і ўсялякія экспертызы, адно разводзілі рукамі. Пра падобныя рэчы яны толькі чулі...

Як бы там ні было, «надзеўшы» на сябе скуру, разам са скальпам і тварам няшчаснага вадзіцеля, Харчанка ў адзежы шафёра выйшаў з кацельнай, сеў за руль і пакаціў да вахты. Кантралёр КПП, малады сяржант, ужо падняў быў шлагбаум, як раптам згадаў нешта і падышоў да машыны.

— Пятровіч, дай закурыць, а то мае кончыліся.

Ён адчыніў дзверы, і позірк ягоны ўпаў на боты, якія тырчэлі з-пад плашча.

— Пятровіч,— збянтэжана сказаў сяржант,— ты што, свае чаравікі зэкам загнаў?

Праз імгненне цікаўны кантралёр катаўся па зямлі пасля ўдару манціроўкаю, а машына, узроўшы, ударыла ў шлагбаум, юзам пакацілася ўбок і заглухла. Харчанка выскачыў, але сяржант, саўладаўшы з болем, дастаў пісталет і стрэліў. Усё сарвалася. Засталося адно пазбавіцца ад доказаў, і Харчанка сутаргава пачаў за валасы скідваць з сябе чужую скуру. За гэтым і заспеў яго самлелы ад жаху нарад.

Абласны суд асудзіў яго да ВМП, выключнае меры пакарання, і Харчанка чакаў цяпер, што адкажа на ягоную просьбу аб памілаванні Вярхоўны Савет.

Цяжкая была наша размова. Харчанка то раптам пачынаў чытаць урыўкі нейкіх вершаў, то зацягваў раз'юшана песню, то прасіў закурыць, і капітан заціскаў цыгарэту і саваў яму яе ў рот — Харчанка прагна зацягваўся і касавурыўся на свае рукі, перахопленыя ззаду нікеліраванымі бранзалетамі.

— Не ведаю, грамадзянін карэспандэнт, як гэта здарылася. Калі мяне памілуюць, зямлю буду грызці, усё жыццё на дзяцей гэтага шаферугі гарбаціцца буду. Адно б даравалі. Я ж жыць хачу!

Потым, у рэдакцыі, я яшчэ не раз пракручваў свой «Панасонік», і перад вачыма стаяў Харчанка, вочы ў яго ліхаманкава блішчэлі, і ён усё паўтараў і паўтараў, як заведзены: «Адно б даравалі... Я ж яшчэ малады...»

Праз год я патэлефанаваў капітану з паліцчасці, захацелася зверыць сякія-такія дэталі. У яго адбыліся перамены ў службе — стаў маёрам, намеснікам начальніка. Але Харчанку добра памятаў:

— Памілавалі яго, а літаральна некалькі дзён назад асабіста падпісаў рапарт аб пакаранні. Вызначыў дзесяць сутак карцэра.

— За што? — ашаломлена спытаўся я. Бо спадзяваўся ж атрымаць зусім іншую інфармацыю.

— Пабіў суседа па камеры, прымушаў яго гвалтам жыць з ім. Пакутуем з ім. Праўда, хутка этап. Так што спадзяёмся сплавіць нягодніка як надалей.

— А як раскаянне, слёзы? Памятаеце?

— Кракадзілавы слёзы,— уздыхнуў на другім канцы, за тысячу кіламетраў ад мяне, маёр.— Ледзь толькі начальнік зачытаў паперу аб памілаванні, Харчанка зароў мацюкамі: «Мянты, я вам зараз дам копаці». І дае. Ужо лепш бы яго... Не зайздрошчу я калегам. Дый асуджаным, да якіх прыбудзе хутка гэты звер.

Я паклаў трубку, уключыў магнітафон.

І зноў нібыта побач зазвінеў ягоны голас: «Адно б даравалі. Зямлю буду грызці...»

Дык ці ж патрэбнае ўсё ж смяротнае пакаранне ці вышэйшыя інтарэсы гуманізму патрабуюць развітацца з правам суда на чыёсьці жыццё? А што вы, чытач, думаеце?

# У ПРАЎДЫ НЯМА АЛЬТЭРНАТЫВЫ, або 5 «ЧАМУ» РАБОЧАГА Паўла ШВЯЦОВА

## ЧАМУ Я ВЫЙШАЎ З СПК?

Усё было як звычайна. Па стандарту. Па даўно адпрацаванай сістэме. Сабралі нас, як сказалі, «лепшых з лепшых», і кажуць: «Пойдзеце дэлегатамі на канферэнцыю. Будзеце там галасаваць за савет працоўнага калектыву». Прыйшлі. Паслухалі. Галасуем. Нечакана для сябе пачуў сваё прозвішча. І за мяне прагаласавалі. Так я стаў членам СПК. А старшынёй выбралі генеральнага дырэктара нашага аб'яднання.

Калі мы — рабочая ўлада, дык нешта трэба рабіць для іх дабрабыту. Шукаць болевыя кропкі няма патрэбы, а самая болевая з іх — рабочая субота. На Баранавіцкім баваўняным аб'яднанні ў асноўным працуюць жанчыны. Чаго варта пазбавіць іх выхаднога дня — няма гаворкі. Вось мы і прапанавалі скасаваць рабочую суботу. А генеральны ні ў якую: нельга, бо ляснуць і план, і заробак, і прэміі. А за гэта ніхто нам дзякуй не скажа. Трэба неяк пратрымацца да канца пяцігодкі. Пераканаў савет генеральны дырэктар, і другія аўтарытэтныя людзі сказалі свае важкія словы. Я ад галасавання ўстрымаўся. Не на месцы, як кажуць, была душа. З аднаго боку, нельга не паверыць таму, што чуў,— відаць, яны ўсё разлічылі як след, не з пальца ж высмакталі лічбы, а з другога,— інтарэсы рабочых мы не здолелі адстаяць...

Вядома, аб гэтым усе даведаліся. І ніхто ўсур'ёз не ўспрыняў тлумачэння наконт заробку, прэмій, плана. «Усё гэта — лухта,— казалі нам у вочы.— І калі вы пагадзіліся з адміністрацыяй, скакалі пад яе дудку, здаліся без бою — не той вы савет». Пачалі звяртацца людзі ў розныя інстанцыі, пісаць калектыўныя пісьмы.

Быў у нас і намеснік міністра лёгкай прамысловасці, пацвердзіў словы генеральнага дырэктара — нельга, немагчыма... Бачу, што савет наш існуе сам па сабе. Не патрэбен ён людзям. Мы — як нейкі буфер паміж рабочымі і адміністрацыяй, як гумовая пракладка. На адным пасяджэнні я прапанаваў вызваліць мяне ад абавязкаў члена СПК. «Чаму?» — запыталіся ў мяне са здзіўленнем. «А таму,— адказваю,— што нельга ў вачах рабочых загубіць дрэннай работай добрую ідэю. Ведаеце, як наш савет называюць? Флюгер. Куды вецер адміністрацыі падзьме — туды і хілімся. Людзі прапануюць распусціць савет. А вось мае думкі наконт выбараў новага...»

Ніхто асабліва слухаць мяне не стаў, а з савета вывелі. Я лічу, што так павінна быць на ўсіх паверхах улады. Калі ты не здолееш апраўдаць давер людзей — прасі адстаўкі. Няхай тваё месца зойме чалавек больш таленавіты, настойлівы і кампетэнтны. А калі большасць нашых кіраўнікоў так учапілася за свае крэслы, што адарваць іх магчыма хіба што з мясам, якая ж тут перабудова...

Выбралі новы СПК. Узначаліў яго не генеральны дырэктар, а рабочы, дарэчы, народны дэпутат краіны. Разабраліся па-сапраўднаму і з суботамі. Выявілася, што ніхто дакладныя разлікі не рабіў. Так, прыкінулі збольшага і паставілі на гэтым кропку. Цяпер у нас рабочая субота — раз у два месяцы. Значыць, калі не аглядвацца па баках, як спужаны заяц, не заглядваць у рот тым, ад каго нейкім чынам залежыць твой лёс, дбаць не пра сябе, а пра тых, хто на цябе разлічвае,— будзе справа. Абавязкова будзе.

## ЧАМУ ПЛАТФОРМЫ МНОГІХ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ ПАДОБНЫЯ НА ПАПЛАЎКІ?

Ведаеце, чаму я даў згоду на вылучэнне мяне кандыдатам у народныя дэпутаты? На фоне таго эмацыянальнага ўсплёску, які высокай хваляй пракаціўся, як кажуць, ад краю да краю, мне здалося, што я змагу зрабіць не менш і не горш за іншых кандыдатаў. За плячыма ў мяне — і армія, і БАМ, і не адзін год працы на камбінаце. А што датычыць розных грамадскіх даручэнняў, дык іх у мяне заўсёды хапала. Так я апынуўся на пленуме ЦК камсамола рэспублікі, які вылучаў сваіх кандыдатаў.

Дзве акалічнасці ўразілі мяне надзвычай. Васіль Гурын, былы першы сакратар ЦК камсамола, назваў лічбы камсамольскіх узносаў па краіне: 337 мільёнаў. На ўтрыманне ж камсамольскага апарату ідзе 307 мільёнаў. Мяне не так здзівілі лічбы, як рэакцыя залы. Нават шумок не пракаціўся: успрынялі як належнае. Выходзіць, мы на сваім карку ўтрымліваем апарат, у якім не заўсёды ёсць патрэба, ды яшчэ павінны гэтаму радавацца... І другая акалічнасць: ніколі не думаў, што на такім узроўні, як пленум ЦК, можна так абыякава аднесціся да выступаючых. Шум, гоман, воплескі, каб заглушыць голас, амаль тупаценне нагамі... Тое, што я не прайшоў, мяне не вельмі засмуціла. Пазней я нават быў удзячны за гэта, а вось на душы нейкі непрыемны асадак доўга заставаўся... Ці не таму, што і тут адчуваўся дэфіцыт шчырасці? На паперы перад сваімі выбаршчыкамі можна намаляваць залатыя горы — толькі людзям якая з гэтага карысць? Даволі і так наслухаліся прыгожых казак... Асобныя кандыдаты ад народа на гэтым і будавалі свой разлік. Як мага больш паабяцаць, а там — што будзе, тое і будзе... На жаль, тут не абышлося без выпадковасці. Няма пакуль што такога прыбора, які здолеў бы дакладна вызначыць, дзе шчырасць, а дзе кан'юнктура, свая, асабістая мэта. Кажу аб гэтым з трывогай, бо не за гарамі выбары ў мясцовыя Саветы. А калі вось тут не будзе Савецкай улады, дык не дачакацца яе і зверху...

Чаму ж платформы многіх народных дэпутатаў падобны на паплаўкі? Па-першае, ад сваёй бездапаможнасці. Ужо на з'ездзе многія народныя дэпутаты зразумелі, што іх шчодрыя абяцанні, якія раздаваліся налева і направа, проста невыканальныя. А па-другое, многім народным дэпутатам да сапраўдных парламентарыяў — як ад зямлі да блакітнай зоркі на небе. Яны, па сутнасці,— цэгла-сырэц. А з яе дом, як вядома, не пабудуеш. І чакаць, пакуль яна загартуецца, няма часу. Трэба дзейнічаць.

Што па-сапраўднаму радуе, дык гэта тое, што ў нашай краіне столькі светлых галоў. І такія вось светлыя галовы, шчырыя людзі з дзяржаўным мысленнем, а не салаўі перабудовы, павінны прадстаўляць Савецкую ўладу ў кожным кутку нашай краіны. І калі нарэшце кіраваць краінай, пачынаючы з мясцовых Саветаў, будзе не апарат функцыянераў, а сапраўды народ, вось тады мы адчуем, што ў нас улада належыць Саветам.

## ЧАМУ Я ВЕРУ Ў ПАРТЫЮ?

У партыю я ўступіў у 1988 годзе, калі даволі многа начытаўся і наслухаўся аб чорных плямах з яе мінулага. Ведаў я таксама, што многія выходзяць з яе радоў. А партыя для мяне — не чорныя плямы на яе сумленні, і не партапарат, які часцей за ўсё дзейнічае сам па сабе і дзеля сябе. Партыя — гэта людзі, якія знайшлі ў сабе сілы пачаць перабудову, мужна сказаць усю горкую праўду пра далёкае і зусім блізкае мінулае. А паколькі я веру ім, дык веру і ў партыю.

Па Статуту меншасць падпарадкоўваецца большасці. Гэта так. Але нідзе не сказана, што ў камуніста не павінна быць свайго асабістага погляду. Мне па душы такія людзі, якія здольныя выказаць сваю думку і змагацца за яе, нягледзячы на тое, хто перад імі. Нават калі і Генеральны сакратар нашай партыі.

Перабудова пакуль што, на жаль, нам больш не дала, чым дала. Толькі многае з таго, што яна дала, хоць і не пакладзеш у кішэню, але і не захочаш мяняць ні на якія матэрыяльныя даброты. Хіба не лягчэй нам стала дыхаць? Хіба не сталі мы пазбаўляцца (няхай і не адразу, паволі — але ж пазбаўляцца) страху? Хіба не распрамляюцца нашыя душы ад гнёту, зневажання чалавечага ў чалавеку?

Калі я ўступаў у партыю, мяне спыталі: «Як ты, камуніст, павядзеш за сабой людзей? І ці пойдуць яны за табой?» — «Асабістым прыкладам,— адказваю я на пытанне.— Аб партыі людзі, якія працуюць побач са мной, будуць рабіць вывад па маіх паводзінах. І калі я нешта зраблю дрэннае, абавязкова скажуць: «Вось, бачыш, што камуністы вырабляюць»...

Аднойчы мяне спыталі...

— Вось ты, Паша, камуніст. А ці верыш ты ў камунізм?

— Не, не веру.

— Як гэта? Камуніст — і не верыш?

— А вось паслухайце. Калі падымалі цаліну, асушалі балоты, будавалі хімічныя і іншыя гіганты — што казалі? Дзеля чаго ўсё гэта? Дзеля дабрабыту народа. Гэта значыць — спачатку нашых бацькоў, потым нас, нарэшце дзяцей нашых — калі ёсць і якія яшчэ будуць. Дзеля светлага будучага. І дабудаваліся, даасушаліся да таго, што хутка глыток чыстага паветра стане раскошаю. Дык што ж гэта за светлае будучае і каму яно патрэбна? Не, штосьці тут не так... Верыць трэба ў разумную і добрую рэальнасць, а не ў прыгожую казку.

...Вось так я і адказаў. Ці, можа, лепш было б схлусіць? Толькі ж людзі не дурні, што-што, а хлусню здолеюць адрозніць ад праўды і шчырасці. А ў праўды няма альтэрнатывы. Адну толькі няпраўду можна зразумець і не асуджаць: няпраўду ўрача смяротна хвораму чалавеку.

## ЧАМУ Ў ПЕРАБУДОВЫ ЦЯЖКІЯ КРОКІ?

Усе нашы жыццёвыя праблемы напрамую звязаны з абстаноўкай у краіне. Што тут казаць, зручна было суцяшаць сябе думкай, што я, маўляў, чалавек маленькі, хто і як кіруе наверсе — не майго розуму справа. Галоўнае, каб мне добра жылося. А як можна добра жыць тут, калі там было зусім дрэнна? Вось мы сёння і пажынаем плады таго «мудрага» кіраўніцтва. Разлічваемся разбуранай эканомікай, падарванай верай у лепшае жыццё, нарэшце сваім здароўем. І толькі недалёкія людзі могуць не разумець гэтага і, як папугаі, паўтараць: «Пры Брэжневу было лепей, бо ў магазінах можна было купіць і тое, і пятае-дзесятае»... І, відаць, нікому лягчэй не будзе ад бясконцых пошукаў вінаватых. І колькі нарэшце можна біць усё той жа бюракратычны апарат, якому, дарэчы, ад гэтага ні горача, ні халодна. Ён як быў у добрым здароўі, так і працягвае жыць прыпяваючы.

Большасць нашых бедаў — ад нашай жа маўклівай згоды. Калі б мы, каго звычайна называюць простымі людзьмі (і тут не абышлося без саслоўя: па адзін бок — людзі простыя, а па другі, выходзіць,— складаныя, да якіх нам няма ходу), былі не такімі згаворлівымі, дык з намі вымушаны былі б лічыцца. І тады шмат што магло стаць інакшым. А пакуль яшчэ сядзіць у нашых душах гэтая рабская маўклівая згода, у перабудовы будуць цяжкія крокі...

Што не мяняецца, тое не жыве. Людзі многае паспрабавалі на сабе. Ім столькі разоў хлусілі, што многія цяпер нават праўдзе не вераць. І гэта, мне здаецца, у нашым грамадстве самае трывожнае. Бо калі няма веры, няма жадання перамен, губляецца і сэнс жыцця.

## ЧАМУ Я НЕ ХАЧУ БЫЦЬ БАГАТЫМ?

Па турысцкай пуцёўцы быў я ў Італіі. Звярнуў увагу (як, дарэчы, і ўсе савецкія людзі), што спіртное прадаецца з адкрыцця магазінаў і да самай ночы. Нават і ноччу. Прычым, на самы розны густ і на розныя магчымасці. А п'яных няма. Чаму ж так усё прыстойна ў гэтым, як нам заўсёды тлумачылі, чужым свеце? Як тут не задумацца? Вось там, напрыклад, селянін мае кавалак зямлі. Ён ставіць перад сабой мэту: назапасіць грошай і купіць яшчэ адзін кавалак. Навошта? Каб быць больш багатым і незалежным. Тады і канкурэнтам яго не спалохаць. А навошта мне багацце? Ну, сабраў я некалькі тысяч — хачу машыну купіць. Дачу пабудаваць. Па-першае, машыну чакаць прыйдзецца не адзін год. А дачу — тым больш. Пакуль пабудуеш — і здароўе згубіш, і праклянеш усё на свеце. Вось і атрымоўваецца, што грошы, зароблены маім потам і мазалямі, не маюць сапраўднай каштоўнасці. Яны толькі паперкі, якім не проста знайсці прымяненне. А калі ў чалавека няма выразна акрэсленай мэты, тым больш — упэўненасці, што яе можна здзейсніць — ці не адсюль п'янства, злачынствы і многае іншае, што нашага сучасніка ператварае ў пячорнага чалавека?

**Запісаў Леанід ЕКЕЛЬ**

# ПРЫВІТАННЕ, ЧЫТАЧ!

Калі адной працы аказалася недастаткова для доказу перавагі чалавека над жывёлай, на дапамогу яму прыйшла мова. З таго часу, баючыся страціць такога цудоўнага саюзніка, людзі бесперапынна гавораць, пішуць і друкуюць. Ледзь не сцвердзілася думка, што мнагаслоўнасць забяспечыць поспех кожнаму, хто ёй валодае. Але аказалася: уражвае той, хто гаворыць коратка і дакладна. Менавіта так нараджаецца к р ы л а т а е  с л о в а. Яно не плод доўгага роздуму, а яркае азарэнне розуму, іскра, выкрасаная сутыкненнем свавольнага таленту адзіночкі з велізарнай масай папярэдняга чалавечага вопыту. Часта гэта ерэтычная думка, што імкнецца ўзарваць рэлігію ўстойлівых меркаванняў, альбо маленькая пракламацыя, якая штурхае да рэвалюцыі ў імперыі кананізаваных каштоўнасцей.

Крылатыя словы — афарызмы, сентэнцыі, каламбуры, трапныя параўнанні і іншыя вострыя прыправы да будзённай стравы людскіх размоў — звычайна засведчаны аўтарамі. Але ёсць і іншыя шэдэўры гэтай партатыўнай мудрасці: прыказкі і прымаўкі. Тыя, хто пусціў іх па свеце, з-за сваёй неадольнай сціпласці пажадалі застацца невядомымі. Аднак пра што б ні мовіла крылатае слова, у цэнтры яго — чалавек.

І ўсё-ткі, для якой бясконцай мэты створаны чалавек? Што перамянілася ў ім? Магчыма, яго недахопы і слабасці, падобныя вартасцям, таксама спрадвечныя? Раздумваючы над гэтым, загляніце ў нашу «Бібліятэку дасціпнасці». Можа быць, яна нешта праясніць у вашых думках. А найбольш выпрабаваных у гэтай справе папярэджваем пра адсутнасць гарантый ад нечаканых сустрэч з невядомымі праявамі прадстаўленага жанру, як і ад з'яўлення іх у будучым.

**РАМОН ГОМЕС ДЭ ЛА СЕРНА**
**1888 — 1963**

Творчае жыццё іспанскага пісьменніка Гомеса дэ ла Серны пачалося ў родным Мадрыдзе, скончылася ў Аргенціне, куды ён эміграваў, з'яўляючыся праціўнікам франкісцкага рэжыму. Рамон, які вырас у літаратурных колах, атрымаў юрыдычную адукацыю, але мантыю адваката надзеў толькі для таго, каб сфатаграфавацца для памяці. А затым цалкам аддаўся літаратуры. Яго рукапісы, традыцыйна пісаныя чырвоным чарнілам, уражвалі незвычайнасцю: усё, што трапляла аўтару на вочы, адразу ж рабілася дзейнай асобаю. Тут уладарыў закон ірэальнасці і неабавязковасці, нярэдка розныя істоты і нават звычайныя рэчы апераджалі ў мудрасці людзей.

Калі ён паспеў напісаць гэтую сотню кніжак з гакам, Рамон і сам не мог добра растлумачыць. Ён прагна вывучаў жыццё з самых нечаканых бакоў, штурхаючыся на аукцыёнах, барахолках, наведваючы ці не ўсе тэатры, выставы, кафэ, паркі, цыркавыя прадстаўленні, блукаючы па дзённых і начных вуліцах. Мудра здзекуючыся ў імя дабра з людзей, сам тварыў дабро. Але ўсё большую ўвагу яго прыцягвалі тыя простыя рэчы, якія побач з чалавекам. «Калі я зразумеў, што людзі сталі заваднымі цацкамі, я палюбіў рэчы». Вялікі казачнік Андарсен ажывіў некалі неадухоўленыя прадметы, Гомес дэ ла Серна навучыў іх філасофіі. Іспанскі пісьменнік улавіў невыразны крык рэчаў і істот, якія зыходзіў з невядомых глыбінь. Ён назваў гэтую з'яву грэгерыяй. «Грэгерыя — дзічка, нечаканы выпадак. Грэгерыя гаворыць дзёрзкасці і — баіцца... Грэгерыя — гэта неабходная змена пункту гледжання». Менавіта гэты наноў адкрыты стан ірэальнай афарыстыкі і праславіў аўтара — Рамона Гомеса дэ ла Серну.

Калі збіраешся па шчасце, прыхапі парасон.
Памятайце: меч — анёльскае вынаходніцтва.
Жавальная гумка для двух — ёсць такія пацалункі.
А думаеце лёгка кату прыладзіць сямёра кацянят, народжаных кошкаю?
Камяні ўмеюць чакаць.
Калі на портках не хапае гузіка, хада змяняецца.
Вы разбудзілі жанчыну, і яна стрывала — значыць, гэта каханне.



Абернуты келіх тушыць застольныя страсці.
Калі ўдава выходзіць за ўдаўца, нараджаюцца дзеці ў жалобе.
Кот узлазіць на дрэва нацешыцца незалежнасцю.
Нутрыя — пацук у манто.
Рэкі не ведаюць сваіх імёнаў.
На паляванне заўсёды прыхопліваюць нікчэмнага баязлівага малога — гэта дэлегат ад зайцоў.
Правядзеш цераз вуліцу сляпога — і сам ніякавееш і нават быццам бы горш бачыш.
Муха заляцела ў натарыяльную кантору выказаць апошнюю волю.
Раптоўнае жаданне зрабіць часовае вечным нараджае каханне.
Як ранкам пантофлі пляскаюць падлогу па шчоках!
Кат паглядае на застолле так, быццам размова навявае на яго смяротную нудоту.
Кій сляпога вымярае тэмпературу чалавечай абыякавасці.
Якая знявага — чухаць за вухам заднюю лапай! І ўсё ж гэта сабака разумее.
Яна глянула на мяне, як на незанятае таксі.
Птушкі на тратуары гуляюць у класікі.
Прыйшоў з дажджу — твар, як мокрая шклянка.
Хуткі цягнік, гнаны рэўнасцю.
Матацыкл — шалёная каза.
Мікрафон — вуха ўсеагульнага карыстання.
8 — пясочны гадзіннік арыфметыкі.
Жанчыны думаюць, што ўсе мужчыны аднолькавыя, і ў гэтым іхняя моц;
мужчыны ўпэўнены, што ўсе жанчыны розныя,— гэта іх губіць.
Аблысеў і адпусціў бараду — закон захавання матэрыі.
Не смаркайцеся ў насатку, якою толькі што махалі, развітваючыся!
Аловак піша цені слоў.
Шчасце — гэта калі нешчаслівы думае, што ён шчаслівы.
Пачапельнік пакрыўджаны — яго ніколі не бяруць на шпацыр.
Жанчына настолькі кемлівая, што ўраз здагадаецца, з грады гароднiна ці са слоіка.
Калі б ведалі веласіпедысты, наколькі крохкая аснова чэрапа!
Кава з малаком — напой для мулатаў.





Мал. Алеся КРУТОГА

Са звяроў толькі леў ведае гісторыю.
Дзень быў такі добры, што нават ключы выйшлі на пагулянку.
Філатэліст лістуецца з мінулым.
Людзі любяць прымаць запрашэнні — ім здаецца, так яны аваладваюць будучым.
Карыя вочы запрашаюць увайсці, блакітныя трымаюць на парозе.
Мы смяротныя, і толькі таму навучыліся плакаць.
Нічога не кідаюць з такой годнасцю, як фальгу ад шакаладкі.
Калі б не авоська мерыдыянаў, зямны шар упаў бы і разбіўся.
Медыцына абяцае вылечыць праз сто гадоў тых, хто памірае сёння.
Старая пішучая машынка лепшая за новую, яна больш вопытная і пісьменная.
Хіба не згодна жанчына на сівізну, калі гэта сівізна чарнабуркі?
У ільва заўсёды пры сабе рупар.
Мацней за ўсё рукі мерзнуць ад усведамлення, што пальчаткі забытыя.
У яе гадзінніку было так мала часу, што яна нікуды не паспявала.
Самае непрыемнае, што доктар глядзіць на вас так, як быццам сумняваецца — вы гэта ці не вы.
З той пары, як яблык пачуў, што Адаму сказала Ева, яблыкі чырванеюць.
Парнік — узорная турма для кветак.
Мастак з палітрай падобны да птушкі з адным крылом.
Помнікам неабходна б размнажацца і пладзіць на свет помнічкі.
Пацалункі — як паштовыя маркі. Адны прыклейваюцца, другія не.
Дрэнь справы ў пудзіла, калі птушка села яму на плячо.
Схіліўшы спіну, воін вынайшаў серп — і пачалася эра земляробства.
Паміж рэйкамі растуць кветкі-самазабойцы.
Наждачная папера — карта пустыні.
Хто сапраўды змяняе твар планеты, ходзіць за плугам.
На арэну тыгры выходзяць так, быццам вылазяць з-пад ложка.
Бубнар — кухар аркестра: толькі ён б'е талеркі.
Малпы не сівеюць — ім няма пра што думаць.
Усім добрыя нудзісты, вось толькі прыліпаюць да крэслаў.
Так і здаецца, што ў лебедзя пад крылом — сшытак з вершамі.
Хіба нацешышся спевамі салаўя, калі ўвесь час думаеш: «Няўжо праўда — салавей?»
Да мора трэба вяртацца не толькі таму, што яго нельга забыць, яго нельга запомніць.
Думаць лёгка. Пісаць цяжка.
Мацней усяго грэе футра тую, якая аб ім марыць.
Жырафа — конь, пераўтвораны цікаўнасцю.
Ноччу вуліцы даўжэйшыя, чым днём.
Опера — праўда хлусні, а кіно — хлусня праўды.
Зусім не істотна, ёсць у вас мікробы ці не. Ці прыручаныя яны — вось у чым пытанне.
І нават не ў тым драма, што паляўнічы забівае пташку,— ён забівае палёт.
Муж і жонка заўсёды елі грыбы разам — каб не памерці паасобку.
Асёл усё ўзважвае на шалях вушэй.
Ключ дурыць нас, прыкідваючыся, што ён не ад гэтых дзвярэй.
Стаімо над безданню старасці, а дзеці набягаюць ззаду і штурхаюць нас да стромы.
Калі чалавек зразумеў, што сабака хоча піць, і даў ёй напіцца — гэта добры чалавек.
Асліны роў — самы шчыры крык на зямлі.
Пісьменнік стварае ману, а піша праўду.
Сон — склад страт.
Калі бачыш, як малпа абірае банан, разумееш, што мы з ёй родзічы.

**Публікацыю падрыхтаваў**
**Леў КАЗЛОЎ**



# СНІД:
## чаго нам баяцца

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9



Фота Васіля ЦІТОВА

рагальных акулярах і масках. І стаматолагі павінны быць пільныя.

— А цалавацца таксама небяспечна?

— У сліне выдзелены вірус, аднак канцэнтрацыя яго надта малая, каб заражэнне сапраўды адбылося. Для заражэння трэба 2—3 літры сліны. Вірус жа павінен трапіць абавязкова ў кроў, прычым у дастатковай канцэнтрацыі.

— Ці шмат людзей звяртаюцца з просьбаю зрабіць аналіз?

— Мы не ведаем. Ніхто не абавязвае доктара даваць адпаведныя лічбы.

— Растлумачце чытачам розніцу паміж тымі, хто хворы на СНІД, і тымі, хто заражаны вірусам СНІДу.

— Пасля таго, як чалавек заразіўся вірусам, нейкі час ён застаецца практычна здаровы. Працягласць гэтага перыяду залежыць ад асаблівасцей арганізма. Захворваюць прыкладна 35 працэнтаў заражаных. Частка носьбітаў застаюцца здаровыя. На які час — пакуль невядома. У іншых развіваюцца неспецыфічныя сімптомы. Хуткі прагрэс хваробы — апошняя форма заражэння вірусам СНІДу. Сімптомы бываюць розныя. Яшчэ трэба класіфікаваць усе хваробы, да якіх прыводзіць заражэнне вірусам.

— Як павінен паводзіць сябе доктар, даведаўшыся, што яго пацыент заражаны вірусам СНІДу?

— Доктар не мае права паведамляць нікому, апрача іншых дактароў (у выпадку неабходнасці), пра хваробу свайго пацыента. Ён абавязаны захоўваць дактарскую тайну. Парушэнне — немагчымае. Кіраўнікі некаторых фірмаў спрабавалі даведацца пра вынікі тэстаў, якія рабілі іхнія службоўцы. Гэтае беззаконне было перапынена. Я ведаю, што ў ЗША страхавыя кампаніі стараюцца ўведаць вынікі тэстаў, каб своечасова скасаваць дамову страхавання з чалавекам, заражаным вірусам.

— У якой галіне дактары шукаюць лекі ад СНІДу?

— Ёсць розныя накірункі пошуку. Шукаем адначасна вакцыну ад віруса і сродкі, здольныя яго знішчыць ці блакіраваць ягоную дзейнасць. Вывучаецца цячэнне самой хваробы.

— Адкуль можа прыйсці выратаванне?

— Здаровым патрэбна вакцына, хворым — лекі. Не думаю, што гэтыя сродкі мы атрымаем хутка.

— Як французскае грамадства ставіцца да хворых на СНІД? Ці не лічаць іх злачынцамі, якія могуць заразіць усё грамадства?

— Ад гэтага агіднага стэрэатыпу трэба імкліва пазбаўляцца. Грамадству патрэбная талерантнасць увогуле, а ў дадзеным выпадку — асаблівая. Мы ж разумеем, што наркаманам цяжка адмовіцца ад наркотыка. У нас усюды можна купіць аднаразавыя шпрыцы — спецыяльна, каб папярэдзіць заражэнне. Асобыя меры стэрылізацыі прыняты ў дачыненні да медыцынскай тэхнікі ў лячэбных установах. Патрэбна шматгадзінная апрацоўка. Неабходна ўвесці ва ўжытак прэзерватывы. У ЗША гэта не праблема, а французы з іхнім тэмпераментам чамусьці грэбуюць імі. Цяпер прэзерватывы можна купіць не толькі ў аптэцы, дзе ўсе бачаць і чуюць, што ты просіш, а ў магазінах самаабслугі, дзе гэта зусім непрыкметна.

Марк Жэнцiліні, буйнейшы спецыяліст у галіне трапічных хвароб, лечыць хворых на СНІД у парыжскай бальніцы Піцье-Сальпетрыер.

— Колькі ў вашым аддзяленні хворых на СНІД?

— У нас сорак ложкаў. Цяпер занята трыццаць. Апрача таго, частка хворых лечыцца амбулаторна, прыходзіць на працэдуры. Першы хворы паступіў да нас у 1982 годзе.

— Якая смяротнасць?

— Кожныя тры дні нехта памірае.

— Калі, вы мяркуеце, будзе знойдзены сродак ад СНІДу?

— Адзін Бог ведае.

— Як шырока распаўсюджаны вірус у свеце?

— Толькі палітыкі вераць у існаванне межаў. Вірус спыніць немагчыма.

— Ці не загіне ў такім выпадку ўсё чалавецтва?

— Вядома, не. Людзі, якія займаюцца статыстыкай, запалохалі грамадства. Катастрофы не будзе. Эпідэміі, як паказвае гісторыя, вычэрпваюць сябе. Вірус стаў небяспечны для чалавека ў выніку мутацыі. Але працэс мутацыі няспынны, і ён можа зноў зрабіць вірус бясшкодным. Дый чалавечы арганізм здольны стварыць у сабе магутныя сродкі супраціўляльнасці.

— Вы не падвяргаецеся небяспецы заражэння?

— Я ж не сплю са сваімі пацыентамі.

— Як грамадства павінна ставіцца да хворых да СНІД?

— Наша грамадства вельмі талерантнае ў дачыненні да гэтых няшчасных, якія маюць патрэбу ў падтрымцы і спачуванні. Месца СНІДу павінна быць дакладна вызначана ў сістэме захворванняў, сярод якіх ёсць страшнейшыя па маштабах смяротнасці.

**Леанід МЛЕЧЫН,**
**член рэдкалегіі часопіса «Новое время»**
(спецыяльна для «Крыніцы»)





Уладзіслаў **АХРОМЕНКА**

# РОКАВЫ КОРПУС У АКЛАХОМЕ-НА-ДНЯПРЫ, АБО ВУДСТОК ПРАЗ ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ

## Днепрадзяржынскі фестываль «Рок-багема-89»

*Назіранні і роздум*

### 1. «ДОБРАЕ РАНІЦЫ, АПОШНІ ГЕРОЙ!..»

Айчынны рок-н-рол, як вядома, перажывае сёння не лепшыя часы. Прычын на тое некалькі.

З аднаго боку, рок-н-рол больш амаль не рэкрутуе пад свае штандарты сапраўдных свабодалюбцаў і бунтароў духу. Свабодалюбцы і бунтары апынуліся сёння альбо ў народных франтах, альбо ў аб'яднаннях маладых літаратараў, альбо, на благі канец, у забастовачных камітэтах. Эпоха падвальных герояў — рок-н-рольшчыкаў з гітарамі наперавес — закончылася, хочам мы таго ці не — шлюзы адчыненыя на ўсе чатыры бакі, але рака пацякла ў іншым рэчышчы. Спяваць сёння можна як хочаце і пра што хочаце, бо кананізаванае іншадумства больш нікога не здзіўляе. Грымасы часу: калі даць веры вызначэнню, што панк-культура — гэта «сцябалава чыстае вады», дык кампазіцыі Хрэннікава, налбандзянаўскія карціны і часопіс «Политический собеседник» могуць быць далучаны да панку хутчэй, ніж джэнтльменскі набор скуранак з заклёпкамі, камплект металічных забавак і ўскалмачаных фіялетавых фрызур, якія сталі сёння элементам папсы.

З другога боку, рок-пралетарыят, якому, вядома, няма чаго губляць, апрача сумлення, імкліва асімілюецца з музычна-забаўляльнай індустрыяй. Кааператыўныя цэны білетаў на стадыённыя канцэрты «ДДТ», «Кіно», «Алісы» — відавочнае таму сведчанне, гэтаксама ж як і пэўны ўхіл апошнім часам гэтых гуртоў у спецыфічную рокавую папсу. Раней умовы мастаку дыктавалі чыноўнікі, цяпер — попыт. Не ўсе вытрымліваюць спакусу, і ў выніку сістэма каштоўнасцей ператвараецца ў сістэму цэн. «Вышэйшая ліга» айчыннага музычнага андэграўнду разбэшчана празмернай, як на маю думку, увагаю Захаду (там гэта пакуль такая ж экзотыка, як самавар, лапці і шчы з прусакамі), разбэшчана Цэнтральным тэлебачаннем, высокімі касавымі зборамі і серыямі заказных публікацый прадажных журналістаў. Як вынік: адзін найвядомейшы «незалежны» рокмэн дэкларуе: «Я ў горад не паеду, там няма спорткомплексу, мы там нічога не заробім», другі, не менш вядомы, кажа заезджаму варажскаму рок-н-рольнаму госцю: «Ты казёл, ты не разумееш, што такое руская туга!»; а трэці вядомы проста пускаецца ў ціхі запой, які доўжыцца вось ужо некалькі гадоў.

Апрача таго, народ стаміўся ад пастаяннага «вырыгвання хулы» ў адрас айчыннага таталітарызму, «уладу маючых», арміі, міліцыі і любераў ад культуры. У тым самым Піцеры, скажам, «гранды» ўжо не такія папулярныя, як раней, досыць згадаць летні паўправал «Тэлевізара» ў «Юбілейным». Сёння народ абжэрся андэграўндам, і яго пацягнула лавіць свой кайф і весела бавіць вольны час.

Рок-н-рольшчыкі з пакалення «маладое шпаны, што сатрэ нас з твару зямлі»,— з'яўленне, якое БГ (Барыс Грабеншчыкоў) прадказваў яшчэ на пачатку 80-х,— «Нуль», «Аб'ект насмешак», «В.В», «Мроя», «Час кахаць» — апошнія героі рок-эпохі, якая ўжо адыходзіць. І наўрад ці хто-небудзь роўнавялікі прыйдзе пасля іх, прынамсі, у бліжэйшы час. Так што, добрае раніцы, апошнія героі рок-н-ролу, хоць варта было б сказаць — добры вечар.

### 2. «АКЛАХОМА, ЯКАЯ ЯНА ЁСЦЬ».

— Добрае раніцы! — вітаў мяне вакаліст «Мроі» Лявон Вольскі ў плацкартным вагоне пасажырскага цягніка «Мінск — Днепрапятроўск», куды я па неасцярожнасці сеў разам з мінскімі рок-н-рольшчыкамі. «Мроя» ўсю дарогу «адцягвалася» ў нерабочым тамбуры, я ж аддаваўся самотнаму роздуму на тэму: што нас чакае наперадзе. А наперадзе нас чакала маленькая ўкраінская Аклахома — горад Днепрадзяржынск.

Недасведчаным: «Аклахома» — назва амерыканскага штата на Дзікім Захадзе, якая стала пасля пракату фільма «Аклахома, якая яна ёсць» імем агульным. Гэта сінонім своеасаблівага адасобленага маленькага свету са сваімі інтарэсамі, норавамі, сваім ладам жыцця і тутэйшымі вартасцямі. Правінцыя, зрэшты. Вартасці амерыканскае Аклахомы — кактусы, прэрыі, ранча, тупаватыя каўбоі і нафтавыя вежы. Вартасці Аклахомы-на-Дняпры — чорныя заводскія коміны ў цэнтры горада.

Любой Аклахоме, якая паважае сябе, уласціва гігантаманія: калі завод — дык абавязкова найвялікшы, калі дым з коміна — дык абавязкова найгусцейшы і найчарнейшы, калі рок-фестываль — дык абавязкова міжнародны. Гэтым імкненнем і прадыктавана, як на маю думку, злучальная ідэя днепрадзяржынскага сэйшна, якую я вызначыў для сябе так: «Рок-н-рольшчыкі ўсіх краін, яднайцеся!» З замежнага легіёна чакаліся нейкія амерыканцы і дзве польскія каманды. Амерыканцаў я так і не пачуў, а палякі мяне дык і зусім расчаравалі. Але пра гэта трохі пазней.

Непрыемнае ўражанне пакінуў камерцыйны налёт: практыка спонсарства не абмінула і рок-багему. У якасці такіх выступалі: 1. Нейкія страхавыя агенцтвы. 2. Баклейскі коксахімічны завод (галоўны атручальнік горада). 3. Вагонабудаўнічы завод. 4. МА «Радуга».

Нічога не маю супраць ідэі спонсарства: калі адміністрацыя днепрадзяржынскіх вагонабудаўнікоў і праўда хоча, каб тутэйшы пралетарыят развіваўся ў раскаваным рок-н-рольным асяродку, дык няхай дае грошы. Непрыемна іншае — калі пасля чарговае кампазіцыі на сцэну выходзіць дама-бухгалтар і агітуе хіпімеламанаў страхаваць сябе ад няшчасных выпадкаў толькі ў Прыдняпроўскім страхавым аддзяленні Дзяржбанка, ці калі ў час крутога гітарнага «паліву» погляд твой падае на велізарны стэнд з літарамі БКХЗ (Баклейскі коксахімічны завод) і ты з агідаю ўсведамляеш, што запомніў гэтую абрэвіятуру на ўсё астатняе жыццё. Няблага было б выдаваць рокмэнам маечкі з рэкламаю «Вышэйшая якасць», «Перадавая тэхналогія», «Надзейнасць». У кантэксце суцэльнае неканкурэнтназдольнасці савецкіх вырабаў на Захадзе гэта выглядала б сапраўдным панкам...

### 3. «ДРЭННЫ РОК-Н-РОЛ» (пачатак)

Глыбока перакананы, што самі выканаўцы не з'яўляюцца галоўнымі героямі рок-н-ролу. Галоўныя дзейныя асобы — гэта слухачы. Адкінем схаластычнае вызначэнне рок-н-ролу як простае песенькі, пабудаванае на «квадратах». Рок-н-рол — паняцце больш ёмістае. Гэта і пэўны культурны зрэз, і пэўны псіхічны стан. Галоўнае не «квадраты», а асноватворная ідэя. Падпал Неронам Рыма — рок-н-рол? Вядома. Спакушэнне змеем Адама і Евы? Безумоўна. Чарга на каўбасу «сабачая радасць»? Несумненна. Начная прагулка па гарэлку да таксістаў? Гэтаксама. Бо ва ўсіх чатырох сітуацыях навідавоку такія ўласцівыя рок-н-ролу псіхалагічны пад'ём, канфліктнасць і момант абсурду. А вось студэнцкі інтэрнат напярэдадні сесіі —

гэта ўжо не рок-н-рол. Гэта псіхадэлік.

Выканаўца — толькі вяршыня велізарнага рок-н-рольнага айсберга, а слухач — ягоная галоўная частка. Слухач стварае агульную атмасферу, дамінуючыя матывы і фон. Выканаўца выступае адно ў ролі музычнага ўвасабляльніка грамадскае свядомасці на цяперашні момант, праламляючы яго скрозь прызму ўласнае індывідуальнасці. Выканаўца, аднак, заўсёды вымушаны балансаваць. З аднаго боку, пагражае небяспека трапіць у татальную залежнасць ад слухача, і тады замест вызвалення прыходзіць занявольванне і, як вынік, страта гэтае самае індывідуальнасці. Узнікае паталагічнае жаданне любой цаною падабацца як мага большай колькасці слухачоў (момант аплаты мае тут не апошнюю ролю: чым большай колькасці ты падабаешся, тым больш табе плоцяць за канцэрты). А гэта і ёсць папса. З другога боку — выканаўца залішне індывідуальны, залішне складаны для ўспрыняцця заўсёды рызыкуе застацца незразумелым сярэдняй большасцю. А большасць, як вядома, заўжды мае рацыю.

Абсалютная большасць айчынных музыкантаў пайшла сёння па першым шляху, па шляху дрэннага рок-н-ролу, а Днепрадзяржынскі Вудсток лішні раз гэта прадэманстраваў.

## 4. «ГУЛЯЙ, ХЛОПЦЫ!»

Свярдлоўскае «Адлюстраванне» (не блытаць з мазырскім), якое адкрывала фестываль сваёй кампазіцыяй «Благое выхаванне», прадэманстравала своеасаблівую эстэтыку уралмашаўскага гопніка — «нявымытыя рукі», «соплі», «свінарнік» і інш. Дэманстрацыя, зрэшты, прайшла без асаблівага поспеху — ці то ў днепрадзяржынскіх гопнікаў іншыя эстэтычныя погляды, ці то зала яшчэ не паспела «дагнацца» — першую песню сустрэлі досыць холадна. Наступная песня — поўны запалохвання рэтытатыў «Пра таварыша Сталіна» і «нашых ідэолагаў» прайшоў з яшчэ меншым поспехам. Калі ж па зале папоўз густы, як смог, змрочны гук «Бугі-вугі часоў культу асобы», слухачоў ахапіла пачуццё тупой маніякальнай тугі. Адчуўшы, што справы кепскія і што абструкцыі не пазбегнуць, «Адлюстраванне» грымнула на заканчэнне забойны класічны рок-н-рол. Публіка ажывілася і нават трохі паапладзіравала на развітанне. Леваруч ад мяне сядзеў, «блажэнна» ўсміхаючыся, Лявон Вольскі, ад яго так і нёсся водар напоя «Бураціна», праваруч — астатнія «мроеўцы», ад якіх чуўся той самы пах.

Кайфныя крывարожскія постпанкеры з «Шо?!», узмоцненыя добраахвотнікамі з «Вулічнай барыкады», купілі залу адмысловай ідэяй — сінтэзам класічнага постпанку і ўкраінскага дзіцячага фальклору:

Купыла мама коныка,
А коньік без ногы.
Яка чудовна йграшка,
Гы-гы, гы-гы, гы-гы.

Музыка «Шо?!» надзіва чыстая і вясёлая, а «гы-гы» ў прыпеве проста падкупляюць сваім непасрэдным дзіцячым дэбілізмам. «Мроевец» Вольскі, які сядзеў злева, ажно засоп ад задавальнення. Астатняя «Мроя» (апрача У. Давыдоўскага) ажывілася і пацягнулася да сумак, што так і звінелі «Бураціна».

Небанальныя прыклады любоўнае лірыкі крыварожцаў таксама паверглі залу ў прыемнае здзіўленне:

Ведь ты же прекрасно знаешь,
Какие чувства во мне ты
вызываешь!
Ведь ты же прекрасно знаешь,
Чем меня можно достать!
Ведь ты же прекрасно знаешь,
Чего я хочу!

Што ж, пажадаем «гарным парубкам» з Крывога Рогу не зацыклівацца на аднойчы знойдзеных удалых прыёмах, а прадоўжыць свой пошук, а таксама — цалкам перайсці на ўкраінскую мову, бо прынцып афіцыйнага «двухмоўя» ў рок-н-роле наўрад ці апраўданы.

Ленінградская група з выдатнай рок-н-рольнай назваю «Небяспечныя суседзі» выглядала відавочна стомленай сумеснымі летнімі «сэйшнамі» з «ДДТ» (45 канцэртаў). Апошнім часам у рок-тусоўках стала прыкметаю добрага тону лаяць Піцер. Я, аднак, устрымліваюся ад ганьбавання «Небяспечных суседзяў»: іхняя музыка — досыць самавітыя і вельмі прафесійна зробленыя рок-н-ролы — заводзілі залу на «ўра». У той самы час мяне падкупіла заява вакаліста «суседзяў» Глеба Малечкіна: «Мы граем толькі тое, што падабаецца нам».— «А калі гэта не падабаецца слухачам?» — пацікавіўся я. «Усё роўна граем. Крытэрый — гэта мы самі»,— адрэзаў Глеб. Застаецца дадаць, што «суседзі» ўсё-такі падабаюцца слухачам. Гэта, відаць, і ёсць тая «залатая сярэдзіна» (не блытаць з брэсцкай) рок-н-ролу. Ці доўга «суседзі» на ёй пратрымаюцца? Хто ведае...

Выступ маскоўскага хіпі-барда па мянушцы «Сабака» (прозвішча я так і не высветліў) быў асвечаны арбацкай музаю. Сабака так і сказаў: «Мы — унукі Арбата». «Унук» адразу ж выказаў надзею, што «зала тырчыць не на іголцы, бо на іголцы — уся Расія». Кампазіцыі лагічна падзяляліся на два раздзелы: А) Паталагічная міліцыянерафобія («Стрёмный флэт, открыта дверь. На пороге что за зверь? Ба, да это мент в натуре...») і г. д. Б) Інфантыльны падлеткавы нігілізм у дачыненні да ўсіх: тэкст выступу больш падыходзіў для лістоўкі маскоўскага «Дэмакратычнага саюза», чым для рок-сэйшн.

Зала, складзеная пераважна з хіпі-рэцыдывістаў, вітала Сабаку захопленымі завываннямі. Сабака ішоў на павадку ў залы і стараўся з усяе сілы, гэтаксама ж, зрэшты, як і ніжгародскі бард Злыдзень (прозвішчаў яны чамусьці не любяць). Злыдзень выконваў пад гітару вершы алкагалічнага і наркатычнага зместу і чамусьці на матыў «Варшавянкі». Музыка слаўнае рэвалюцыйнае мінуўшчыны гучала з прыпевам: «Нету нигде ни вина, ни перцовки». Пад канец ніжгародзец абвёў мутным вокам залу і прамовіў у мікрафон: «Мы славяне, у нас агульныя ворагі!» Бедныя нацменшасці паўцягвалі галовы ў плечы.

Што ж, рускія барды падзяляюцца на дзве катэгорыі, на афіцыйна-прыдворных (Дольскі, Нікіціны) і на пад'ездных. Сабака і Злыдзень— відавочна з другой. Пра музыку ж я і гаварыць не стану. У Маскве любы, хто ўмее браць на гітары больш як тры акорды, лічыць сябе бардам. Калі не верыце, прыходзьце ў суботу на Арбат і паслухайце.

Днепрабітлаўскія-днепрадзяржынскія «Камандор танцуе танга» і палякі з «Манкэй-бізнес» асаблівага ўражання не зрабілі. У аклахомскіх чытачоў Ільфа і Пятрова праграма выглядала залішне сырою, палякі ж проста «здымалі» Бі-Бі-Кінга і Ван Хэйлэна. А гэта мы ўжо чулі.

Вечар рок-н-рольшчыкі прабавілі ў загарадным пансіянаце, адцягваючыся там на поўны рост. Тусавалася тут і мінская «Мроя», палохаючы ўсіх сваімі шэрымі тварамі і артадаксальнай беларускай моваю, гэтак нязвыклай для Аклахомы-на-Дняпры. «Мроя» тусавалася разам з палякамі з «Вольнае Еўропы», музыкі былі відавочна ва ўдары. Пасля сумеснага тоста за Леха Валенсу і Зянона Пазняка вакаліст палякаў з крыкам «За нашую і вашую волю!» зваліўся пад стол і заснуў. Так скончыўся першы дзень фестывалю.

Апошнія два дні былі менш цікавыя на падзеі. Рускамоўныя «Членскія ўзносы» з Запарожжа? Сінтэз кабацкае музыкі 50-х і кінчаўскага «жгі-гуляй-біту». У час выступа «ўзносаў» тэнт над музыкантамі загарэўся, і агульная панарама стала падобная на газавую атаку немцаў пры Іпры ў 1915 годзе. Мне запомніліся адно клубы белага дыму, але ніяк не музыка. Жудасны днепрапятроўскі «Рэпартаж»? Жахлівы гук, які нагадваў шараванне кавалкам пенапласту па шкле і бяздарныя тэксты, дзе фраза «Я не хаю сацыялізм» — самая неблагая з пачутага — выглядала адкрыццём Заратустры на фоне астатняга. Свярдлоўскі «Красавіцкі марш»? Нядрэнна, але вельмі ўжо нагадвае позні «Кінг Крымсан». Маскоўскі «Па банку»? Залішне папсова. Мінская «Мроя»? Ну так, мінская «Мроя»...

Мінская «Мроя» прывезла ў Днепрадзяржынск абсалютна новую праграму. Мяркуючы па ўсім, у вядучых беларускіх рок-н-рольшчыкаў настаў прыступ «хітавасці». Прынамсі, бяспройгрышныя хіты «Ма-ма-мама-мафія» і «Аўстралійская полька» ўмацавалі мяне ў той самай думцы. Думкі зала падзяліліся на дзве няраўнавялікія часткі: «мроеўская» рок-мама Крыпі (партыйная мянушка Віты Раманенкі, вядомай беларускім чытачам публікацыямі ў «Бярозцы» пра славянскае паганства і гурт «Мясцовы час») сказала: «Гідка, тупа і неінтэлектуальна. Мне сорамна, што я маю да ўсяго гэтага дачыненне»,— узнялася і пайшла. Астатнія слухачы паставіліся да «Мроі» досыць спачувальна: фанатыкі кідалі ў Лявона, падобнага на сцэне да героя фільма жахаў, бенгальскія агні, два аклахомскія гопнікі, якія сядзелі непадалёк, з натугаю рвалі глоткі: «Давай, бульбашы!..» (гэта пра нас, значыцца). У час выканання «Мафіі», дзе ёсць такія словы:

Я да жартаў вялікі майстар,
Заўсёды пры мне трафейны
«шмайстэр»,

у падпалкоўніка МУС, які сядзеў побач, пачаўся нервовы цік. Гэта быў поспех!

## 5. «ДРЭННЫ РОК-Н-РОЛ» (заканчэнне)

Навідавоку аксіёма: арыентацыя рок-н-рольшчыкаў толькі на слухача непазбежна вядзе ў творчы і інтэлектуальны тупік. Выбар: рок-н-рольная тусоўка альбо ўзрываецца знутры і распадаецца, альбо пераходзіць у іншую якасць — камерцыйную. Упэўнены, што і «Алісу», і «Кіно», і «Тэлевізар», і многіх іншых (а мажліва, і «Мрою») не абміне гэтая доля. Рок-н-рольны айсберг будзе паступова раставаць, а «новае хвалі» трэба чакаць не хутка.

Альтэрнатыва: большасць у мастацтве мае рацыю не заўсёды, часцей за ўсё якраз не мае рацыі; арыентацыя не на поспех у натоўпу, а цалкам на ўласныя ідэі, асабістае разуменне Музыкі. Іншымі словамі — мастацтва дзеля мастацтва. Бо ёсць жа Роберт Фрып, Браян Іна, Лаура Андэрсэн і да іх падобныя. Ці інтэлектуальны рок магчымы толькі на Захадзе?..

У. А.

Фота В. КАЛЕНІК

Фота Валерыя ШКІДЗІНЫ *(г. Днепрапятроўск)*

**«Вольная Еўропа».** *Польшча*

**«Пятля Несцерава».** *Ленінград*

## КАРОТКІ СЛОЎНІК МУЗЫЧНЫХ І ІНШЫХ ТЭРМІНАЎ — НЕДАСВЕДЧАНЫМ

**АНДЭГРАЎНД —** падпольная маладзёжная субкультура, альтэрнатыўная афіцыёзнай.

**НА ПОЎНЫ РОСТ —** ад душы.

**ГОПНІКІ —** кепска выхаваныя маладыя людзі. Сінонім слова гопнікі — хамы, жлабы, урла. Гл. альбом «Белая палоса» гр. «Заапарк», кампазіцыю «Гопнікі».

**«ЖГІ-ГУЛЯЙ-БІТ» —** тэрмін, які характарызуе стылістыку «Алісы», уведзены ў сучаснае музыказнаўства К. Кінчавым.

**АДЦЯЖКА —** расслабленне нервовай сістэмы пры дапамозе алкагольных напояў. Заўвага: рок-гурт «Мроя» адцягваецца выключна напоем «Бураціна».

**ПАПСА —** прадукт імкнення падабацца найбольшай колькасці публікі пры найменшых інтэлектуальных затратах.

**СЦЯБАЛАВА —** здзек, даведзены да абсурду. Гл. часопіс «Политический собеседник».

**«СТРЁМНЫЙ» —** небяспечны.

**ФЛЭТ —** кватэра.

**ХІПІ —** моладзь, якая выказвае тэатралізаваны пратэст супраць забюракратызаванага грамадства. Гл. апавяданне Адама Глобуса «Сістэма».



Яраслаў КАСТРАВІЦКІ

# ПАНО БЕЗ РАМЫ

## НАТАТКА ПРА ПЕРШУЮ РЭСПУБЛІКАНСКУЮ ВЫСТАВУ НЕТРАДЫЦЫЙНАГА МАСТАЦТВА «ПАНАРАМА».

Калі стаць на гары, спінаю да гатэля «Беларусь», і глянуць у бок Кафедральнага мінскага сабора — разгорнецца панарама. А ў ёй пад залатакрыжымі саборнымі вежамі можна ўгледзець брудна-жоўты трохпавярховы дамок, нераўнуючы, што жабрак-выродак на цвінтары. Вось у гэтым будынку і ладзілі выставу «Панарама» больш як пяцьдзесят нетрадыцыяналістаў. Частка з іх выступала камандамі, частка паасобку. Было і выключэнне...

Віталь Ражкоў склаў гратэсковы маніфест, абвясціў назоў групы — «БІСМАРК», але так і не знайшоў аднадумцаў, якія пажадалі б слухаць нямецкую мову са старога паціфона і сядзець на кукішках у пакоі бітма набітым рознымі рознасцямі, накшталт аэразольных балончыкаў з фотапартрэтамі таго ж Ражкова.

Пад штандарам арт-лабараторыі «ГАЛІНА» Алесь Тарановіч назбіраў ажно дванаццаць паплечнікаў, якія раскавана эксперыментавалі з сімволікаю ўсіх часоў і народаў. Нават на штандары ў «ГАЛІНЫ» аб'ядналіся і бел-чырвона-белы сцяг і пацыфік і зялёны лісток.

Згуртаванне з асацыятыўнаю назваю «БЛО» выкарыстала звыштрадыцыйныя матэрыялы — палатно, алей, папера, туш. Наватарства «блоўцаў» таілася ў ігнараванні тэхнікі жывапісу ды няўменні рабіць рамы.

Прызнаная за межамі Беларусі група «ФОРМА» прэтэндавала вялікімі памерамі «Калектыўнай інсталяцыі» на лідэрства ў «Панараме», нераўнуючы як недабудаваны палац каля музея Вялікай Айчыннай вайны. Толькі інсталяцыя так арганічна ўлілася ў напаўразбураныя інтэр'еры, што страціла не толькі маштаб, але і метафарычнасць.

На радзіме генія самвыдата Скарыны група «4—63» (Полацк) бясспрэчна выглядала б авангардам, а ў сталіцы іх творы навяваюць лёгкія настальгічныя ўспаміны пра майстэрні мастацкай вучэльні канца 60-х — пачатку 70-х гадоў.

Група «ПЛЮРАЛІЗ» пазнаёміла патрабавальнага гледача з пярфомансам Ігара Кашкурэвіча і Людмілы Русавай, кампазіцыямі № 1 — № 6 Сяргея Малішэўскага, а непатрабавальнага — з творамі Катранкова, Жданава ды Іванова.

Што да творчага аб'яднання «КВАДРАТ» (Віцебск), дык яно, відавочна, не ўлічвае чацвёртага значэння сваёй назвы. 1 — раўнастаронні прамавугольнік. 2 — здабытак ад памнажэння якога-небудзь ліку на самога сябе. 3 — вульгарызаваны назоў палатна Казіміра Малевіча «Чорны квадрат» (1913 г.). 4 — чалавек, які не разумее сітуацыі (у часы бітнікаў «квадратамі» клікалі людзей, што выступалі супраць рок-музыкі).

Два пакойчыкі, што займала група «КОМІ-КОН», розніліся як лістападаўская зямля і красавіцкае неба. Бо ў адным віселі дылетанцкія палотны, а ў другім зіхацела па-афарміцельску суперпрафесійная кампазіцыя «План эвакуацыі» Кастуся Гарэцкага, Ірыны Рыжковай, Алены Жданені.

А з асобных удзельнікаў вылучаўся сціпласцю і эканамічным выкарыстаннем фарбы хіба што Эдуард Бохан (1971 г.). Тут, пэўна, узрост адыграў сваю ролю.

Каб заставацца гжэчным, трэба сказаць «дзякуй» арганізатарам выставы і за тое, што ўваход каштаваў толькі адзін рубель, а не два, як на выставу «Міс фота». А цяпер можна вярнуцца да гатэля «Беларусь» і бясплатна сузіраць панараму.



Леанід ШЧАМЯЛЁЎ
народны мастак Беларусі

# СУЛАДДЗЕ

Карані дзівоснага вечнажывога дрэва народнай культуры, народнага мастацтва сягаюць у сівую мінуўшчыну. На нашай зямлі здаўна жылі таленавітыя паэты, дойліды, мастакі. Пра гэта сведчыць надзвычай багаты беларускі фальклор, рэшткі нашай цудам ацалелай у полымі войнаў архітэктуры (нездарма ж у мінулыя стагоддзі Беларусь называлі краінай замкаў і палацаў), а таксама творы народнай скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — і створаныя параўнаўча нядаўна, і тыя, што знаходзяць археолагі ў курганах і на дзядзінцах былых гарадоў. Міналі часы, мяняўся лад жыцця, але духоўныя скарбы, створаныя і назапашаныя ім, не знікалі бясследна, не сыходзілі ў нябыт, яны знаходзілі новыя, невядомыя дагэтуль формы выказвання. Менавіта сам час паклікаў да жыцця такую мастацкую форму, як маляваны дыван. Нягледзячы на цяжкія галодныя трыццатыя — саракавыя гады, беларускі вясковы люд імкнуўся да хараства, ён ствараў яго сваімі рукамі. І невыпадкова, што ў народнае мастацтва прыйшла, каб ужо назаўсёды застацца ў ім, Алена Кіш — гэтая добрая чараўніца з язычніцкім светапоглядам, якая бачыла ў прыродзе найперш гармонію, суладдзе, што і выяўляла так ярка ў сваіх непаўторных дыванах.

Творчасць Алены Кіш мае вялікае эстэтычнае і культурна-асветніцкае значэнне, бо ў ёй надзвычай глыбока выявіліся і народнае светаадчуванне, і народнае разуменне прыгожага.



Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# АЛЕНІН РАЙ

Які там рай, калі на зямлі пекла?

А яна, трошкі накульгваючы, усё брыла, як цень... Ад вёскі да вёскі. Ад хаты і да хаты. І не было на Случчыне дарогі ці сцяжыны, што не помнілі б яе нястомных, босых ног.

Для ўсіх — і старых і малых — яна была проста Аленай. Хоць мела прозвішча. Нязвыклае для Беларусі — Кіш.

Адразу пасля вайны яна жыла ў мястэчку Грозава, што на Случчыне. У сваёй малодшай сястры. Ізноў вандроўкі. За плячыма ў торбе, акрамя фарбаў і начыння, цяжкім каменем ляжала старасць. Неўладкаваная, як і ў вайну, нікому не патрэбная. Хіба адным фінагентам. Хто палічыў, колькі разоў яны цягалі мастачку ў міліцыю і ўсё патрабавалі заплаціць патэнт за індывідуальную працоўную дзейнасць!..

Летам 1949 года яна яго заплаціла. Утапілася ў ручаіне, што і сёння, здаецца, цячэ яшчэ каля Грозава, бо тады ў ёй вады было па калена. Праўду кажуць, што можна ўтапіць і ў лыжцы.

Не буду шмат гаварыць пра яе творы. Яны перад вамі. Найперш дзякуючы Уладзіміру Басалыгу, які сабраў іх часам з-пад нашых ног. Неўзабаве ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе альбом. Сціплы па аб'ёме, але куды ўвайшло ўсё, што на сённяшні дзень знойдзена са спадчыны Алены Кіш. Мне ж думаецца, што нават адной яе маляванкі дастаткова, каб успомніць Русо, Пірасмані, Генераліча, Белакур...



ШЧАСЛІВАЕ ЗДАРЭННЕ!



Ядзвіга ПАПЛАЎСКАЯ і Аляксандр ЦІХАНОВІЧ.



«Майстар».
Фота Сяргея БАРЫСАВА
*г. Масква*



# СПЯВАЕ ЎЛАДЗІМІР ПРАВАЛІНСКІ

Хвалі крышыліся аб сопку, а пырскі, ледзь толькі траплялі на бетон пірсу, ператвараліся ў лёд. Марская служба на Паўночным флоце суровая, але двойчы суровая яна для тых, каго называюць «падплаў» — маракоў падводных лодак. Па паўгода цягнуцца баявыя вахты ў шматметровых глыбінях халодных водаў, у металічных адсеках баявых пастоў, у вузкіх каютах, дзе ніколі не бывае самага простага — сонечнага зайчыка.

Для маракоў-падводнікаў таму ўдвая прыемныя сустрэчы з артыстамі, людзьмі ад мастацтва. Але, шчыра кажучы, мала хто наважыцца ехаць палярнай зімой у далёкія гарнізоны. Бо славы ніякай, а здароўя пакладзеш шмат. Так што на Паўночны флот ездзяць самыя смелыя артысты...

Вось і Уладзімір Правалінскі не так даўно вярнуўся з чарговай паўночнай творчай камандыроўкі. Як заўсёды стрыманы, але ўражанняў шмат. Даваў імправізаваныя канцэрты, спяваў для маракоў проста на караблях, сустрэў старых знаёмых, выпрабаваных марынараў.

Цікавы чалавек Уладзімір Правалінскі! Прырода шчодра адарыла яго талентамі. У юнацтве ён меў папулярнасць як баец сярод аматараў бокса, потым змяніў прыхільнасці і цяпер працуе намеснікам дырэктара аднаго буйнога і вельмі сур'ёзнага акадэмічнага інстытута. Але галоўная любоў Уладзіміра Правалінскага — песня! Ей ён служыць як рыцар: аддана і верна. Шчыры голас беларускага спевака гучаў на самых вялікіх і прэстыжных канцэртных пляцоўках краіны. Яго сустракалі воплескамі залы Польшчы, Чэхаславакіі і ГДР. Знаўцы эстрады нездарма ставяць ягонае імя побач з імёнамі вядучых салістаў.

Але не толькі аматары прэстыжных залаў ведаюць Правалінскага. Ён быў сярод першых, тых, хто прыехаў і выступіў у Хойніцкім і Брагінскім раёнах. Разам з Ігарам Лучанком ён нярэдкі госць у тых, каму патрабуецца міласэрнасць і ўвага — у сірот, выхаванцаў дамоў-інтэрнатаў.

Уладзімір Правалінскі спявае аб тым, што яго хвалюе, аб самым галоўным у жыцці — вернасці і любові — адвечных каштоўнасцях нашага быцця. Калі вы ўбачыце на афішах прозвішча гэтага спевака — прыходзьце! Вы пазнаёміцеся з таленавітым і добрым чалавекам.








Упершыню за апошнія гады адмоўлена ў правядзенні фестывалю «Монстры року» ў Вялікабрытаніі. Прычына — трагічная смерць некалькіх фанатаў «металічнага рок-н-ролу» на апошнім сэйшне. Спонсары «Монстраў» адмовілі ў грошах, матывуючы сваё рашэнне «амаральнасцю субсідавання мерапрыемстваў, на якіх бессэнсова гінуць людзі».

Білі Джоэлю зрабілі цяжкую аперацыю, і з гэтае нагоды еўрапейскае турнэ спевака, прысвечанае рэкламе новага дыску «Штармавы фронт», адкладаецца на няпэўны тэрмін.

Лідэр італьянскай пап-групы «Навахуданосар» Марыо Мандзоні пакінуў эстраду і ўступіў у манашаскі ордэн святога Францыска.

«Кіс» вяртаюцца! Менавіта так расцаніла замежная пап-крытыка з'яўленне новага дыску групы «Спёка ў цэню» (1989). Новыя песні «кісоў», зрэшты, прыняты публікай без асаблівага энтузіязму.

Заходнегерманскі хэві-металічны гурт «Грэйф Дыгер» («Далакоп»), які развалiўся ў 1987 годзе, сабраўся зноў, каб запісаць чарговы альбом.

Запіс новай пласцінкі пачалі «Скорпіёнз». Упершыню за ўсю гісторыю групы дыск запісваецца ў ЗША. Папярэдні альбом «скарпоў» — «Дзікае захапленне» — быў успрыняты музычнай крытыкай як малацікавы. На думку музыкаў, менавіта амерыканскае рок-н-рольнае асяроддзе павінна даць групе і новы творчы імпульс, і свежыя ідэі.

З шалёным поспехам прайшлі рымскія гастролі Пола Макартні. Стадыённыя канцэнты экс-«бітла», якія ішлі па 2—3 гадзіны, збіралі 18—20-тысячную аўдыторыю. Канцэрты былі высока ацэнены італьянскім друкам.

У замежных пап-музыкаў зноў з'явілася цікавасць да лацінаамерыканскай музыкі. Найбольш яскравы прыклад сінтэза еўрапейскага і лацінаамерыканскага пачатку за апошні час — альбом групы «Джыбсі Кінгс» пад характэрнаю назваю «Басамба». На думку Дэвіда Бёрні, які таксама эксперыментуе з бразільскім фальклорам, менавіта лацінаамерыканскія рытмы павінны вывесці заходнюю рок- і пап-музыку з перадкрызіснага стану.

Сінгапурскія паліцэйскія службы абвесцілі татальную вайну «музычным піратам», якія зарабляюць гандлем нелегальных канцэртных запісаў эстрадных пап-зорак. За апошнія пяць месяцаў выяўлена і знішчана колькі дзесяткаў тысяч дыскаў з нелегальнымі запісамі канцэртаў Майкла Джэксана, Джорджа Майкла, Сандры...

Амерыканскі рок-бард Піт Колінз (Не блытаць з Мэлам Колінзам з «Кінг Крымсан» і Філам Колінзам з «Джэнэзіс») памёр у кастрычніку 1989 года ад віруса СНІД. Па чутках, у апошні час Піт Колінз вёў даволі разбэсны лад жыцця. Мінздраў ЗША папярэджвае: сцеражыцеся выпадковых сувязей!

У 1989 годзе у Лас-Анджэлесе выйшаў з друку зборнік паэзіі Джымі Морысана, легендарнага лідэра «Дорз». Гэта даволі слушна: Морысана называлі і сексуальным апосталам Амерыкі, і бунтаром, і нават другім Хрыстом. Але спявак хацеў, каб яго звалі паэтам...

Працягваецца канцэртнае турнэ Філа Колінза па краінах Заходняй Еўропы. Пакуль у канцэртных арганізацыях СССР аб мэтазгоднасці запрашэння Колінза і «Джэнэзіс» ідуць дэбаты, музыкі наведалі Галандыю, Бельгію і ФРГ.

Ленінградскі рок-гурт «Сілікатная цэгла» запрошаны амерыканскімі кінематаграфістамі для ўдзелу ў здымках кінастужкі аб савецкай моладзі.

Эстонскі панк-гурт «Імкэ» запісаў свой першы дыск. Па айчыннай рок-н-рольнай традыцыі, дыск выйшаў па-за межамі СССР — у Швецыі.

У Чарнаўцах адбыўся фестываль украінскамоўнага року, у якім узялі ўдзел «В. В.« («Лямант Відаплясава»), «Шо?!», «Каму наніз?», «Браты Гадзюкіны», «Вулічная барыкада»... У якасці ганаровых гасцей выступілі і беларускія каманды — «Мроя» і «Уліс».

У Ленінградскім цэнтральным парку культуры і адпачынку адбыўся грандыёзны рок-фестываль, які быў арганізаваны пры ўдзеле мясцовага часопіса «Аврора». Сярод удзельнікаў — а іх было больш за шэсцьдзесят — выступілі магаданскі «Усходні сіндром», «Чай-ф» са Свярдлоўска, ленінградскія «Небяспечныя суседзі», «НЭП», «Павуціннe», «Грамадзянская абарона».

Айчынны кінематограф працягвае эксплуатацыю залатаноснае жылы — тыражавання кінастужак «для тынейджараў» з удзелам зорак некалі альтэрнатыўнага рок-н-ролу. Не паспеў народ супакоіцца пасля «Узломшчыка», «Ассы», «Іголкі», як з'явілася новае насланнё — фільм пад доўгай і прэтэнцыёзнаю назваю «Чорная ружа эмблема нуды, чырвоная ружа эмблема кахання». Рэжысёр кінастужкі — Сяргей Салаўёў, сумна вядомы па «Ассе», аўтар музыкі — Барыс Грабеншчыкоў. Спадзяюся, што на гэты раз Барыс Барысавіч не стане выдаваць чужыя песні за свае, як гэта было з «Горадам залатым» (сапраўдны аўтар музыкі — італьянскі кампазітар XVI стагоддзя Франчэска ды Мілана, на кампазіцыю якога маскоўскі паэт Хвасценка паклаў уласны верш «Горад»), і як гэта мела месца з песняй «Плоскасць» (музыка якой падазрона нагадвае адну з кампазіцый Браяна Іна за 1977 год).*

«Чорная ружа...» хутка з'явіцца на экранах. Хто наступны?

Падрыхтаваў
Уладзімір КВЯТКОВІЧ

---

* У бліжэйшых нумарах чытайце артыкул Уладзіслава Ахроменкі пра БГ і «Акварыум».

Усевалад ІГНАТОЎСКІ




## ПЕРШЫ ПЕРЫЯД БЕЛАРУСКАЕ ГІСТОРЫІ (IX—XIII стст.)

Чытачы «Крыніцы» просяць апублікаваць сістэматычны курс гісторыі Беларусі, бо падручнік для школы пад рэдакцыяй Л. Абецадарскага іх не задавальняе. Нам не засталося нічога іншага, як звярнуцца да старых папулярных кніг па гісторыі роднага краю. Іх было няшмат. І найлепшай з іх была, як мы думаем, кніга Усевалада Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі».

Больш падрабязна пра У. Ігнатоўскага можна прачытаць у № 5 часопіса «Полымя» за 1988 год. Адзін з першых гісторыкаў-марксістаў на Беларусі, У. Ігнатоўскі прайшоў цяжкі і складаны шлях. Сын праваслаўнага святара, ён пры цары быў выкладчыкам гісторыі. У час першай сусветнай вайны заснаваў арганізацыю «Маладая Беларусь», якая потым далучыцца да Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). Калі Беларусь захапілі белапольскія акупанты, У. Ігнатоўскі і ягоныя аднадумцы выйшлі з партыі беларускіх эсэраў і стварылі Беларускую камуністычную арганізацыю, якая вяла партызанскую барацьбу супраць белапалякаў. Пасля аднаўлення Савецкай улады на Беларусі У. Ігнатоўскі стаў членам Камуністычнай партыі. Яго прызначылі народным камісарам земляробства, а затым — народным камісарам асветы БССР. Ён быў членам Бюро ЦК КП(б)Б, членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР, першым прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук (так спачатку называлася АН БССР). Калі пачаўся «вялікі пералом», У. Ігнатоўскі быў аб'яўлены нацдэмам, яго называлі правакатарам і агентам польскага фашызму. Увесну 1931 года пасля аднаго з допытаў ён скончыў сваё жыццё самагубствам.

«Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» быў напісаны ў 1919 годзе, у час белапольскай акупацыі. Захопнікі спачатку вымазалі ў кнізе шмат якія мясціны, а потым і наогул забаранілі яе. Па гэтай кнізе гісторыю роднага краю вывучалі школьнікі ў БССР і Заходняй Беларусі. Яе некалькі разоў перавыдавалі ў Менску і ў Вільні. Пасля смерці У. Ігнатоўскага яе зноў забаранілі.

Друкуючы кнігу У. Ігнатоўскага, мы ўсведамляем, што яна — на цяперашні погляд — недасканалая. Так, у першай частцы, якую мы прапануем увазе чытачоў, не гаворыцца пра тое, што галоўнаю прычынай узнікнення дзяржавы было развіццё прадукцыйных сіл, у выніку чаго з роду вылучылася сям'я і ўзнікла прыватная ўласнасць. За шэсцьдзесят гадоў гісторыкамі выяўлены багаты эмпірычны матэрыял, новыя факты. Таму кожны чарговы ўрывак з кнігі У. Ігнатоўскага будзе суправаджацца каментарыем і тлумачэннямі.

Можна прачытаць, што перыядызацыя гісторыі Беларусі, прапанаваная У. Ігнатоўскім, ненавуковая. Гісторык, маўляў, кіруецца дзяржаўніцкім прынцыпам і таму вылучае пяць перыядаў: 1) полацкі; 2) літоўска-беларускі; 3) Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай; 4) Беларусь у складзе Расійскай імперыі; 5) савецкі перыяд. Калі прыгледзецца пільна, дык у кожны з гэтых перыядаў уваходзяць пэўныя этапы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. Так, першы перыяд, перыяд полацкі, ахоплівае эпоху ранняга феадалізму. Другі, літоўска-беларускі, перыяд ахоплівае эпоху фарміравання сталага феадалізму. І г. д.

Мы друкуем тут толькі раздзелы, прысвечаныя тром першым перыядам гісторыі Беларусі.

* * *

Гісторыю старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве пісаць вельмі цяжка. Перш-наперш таму, што розныя пісьмовыя крыніцы часта пярэчаць адна другой. Тым не менш можна лічыць, што аб'яднанне ўсходнеславянскіх земляў вакол Кіева было пачата пры Алегу (882—912). Яго людзі сядзелі ў Смаленску. Ці залежаў ад Кіева Полацк, сказаць цяжка. Ва ўсякім разе можна лічыць, што ён быў саюзнікам Кіева. Радзімічы, якія раней плацілі даніну хазарам, сталі плаціць яе Алегу. Не будзе памылковым сцвярджэнне, што і дрыгвічы плацілі даніну кіеўскаму князю.

У. Ігнатоўскі піша, што пры Ігары (912—945), Вользе (945—964) і Святаславе (964—972) залежнасць Полацка ад Кіева паступова падае. Ігар і Святаслаў былі занятыя войнамі з Візантыяй і качэўнікамі. Святаслаў наогул хацеў перанесці сталіцу з Кіева ў Балгарыю. У гэты час Полацк, верагодна, і ўмацоўвае свае пазіцыі на зямлі дрыгвічоў. Есць звесткі пра тое, што заснавальнік горада Турава — легендарны князь Тур — быў адным з ваяводаў у полацкага князя Рагвалода. Але звестак пра тое, што Тураўская зямля належала Полацку, няма. Вядома таксама, што Рагвалод у канцы свайго княжэння меў прэтэнзіі на ноўгарадскія землі, што і было ж адной з прычын канфлікту паміж ім і Уладзімірам Святаслававічам, які быў у той час князем у Ноўгарадзе. Не выключана таксама, што Полацк імкнуўся ў той час пашырыць свой уплыў і на балцкія землі.

Нанова фарміраваць «імперыю Рурыкавічаў» пачаў Уладзімір Святаслававіч Чырвонае Сонейка (980—1015). У прыватнасці, у 980 г. ён сілаю далучыў да Кіева Полацк, у 983 г. хадзіў на яцвягаў і падпарадкаваў заходнія землі цяперашняй Беларусі; у 984 г. кіеўскі ваявода Воўчы Хвост зламаў супраціўленне радзімічаў.

## СТАРАЖЫТНЫЯ НАСЕЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ

Каля часоў IX стагоддзя землі, занятыя ўсходнімі, рускімі славянамі, дзяліліся паводле рачных сістэм і гандлёвых цэнтраў на чатыры тэрыторыі. На поўначы, сярод азёр, балот і лясоў, цэнтруючыся вакол Ільмена, лягла зямля ноўгарадскіх славян. Далёка на ўсход цягнуліся гэтыя землі, даходзячы аж да Уральскіх гор. Кіраваў імі «господин Великий Новгород». Пад усходнімі землямі Ноўгарада, паміж Волгаю і Акою, ляглі землі, што цягнуліся ад Растова Вялікага і да Суздаля. Значную ролю будуць мець гэтыя землі толькі з пачатку XIII стагоддзя. На поўдні, па сярэднім і ніжнім Дняпры, уваходзячы аж у стэпы, легла Дняпроўская Русь, сцэнтраваная вакол багатага Кіева. Гісторыя гэтае зямлі нам добра вядома з агульных курсаў расійскай гісторыі... Паміж заходнімі ноўгарадскімі і кіеўскімі землямі, па верхняй Заходняй Дзвіне і Верхнім Дняпры з Прыпяццю, Бярэзінаю і Сожам ляглі землі будучай Беларусі, якія цэнтраваліся вакол горада Полацка. Гэта ёсць так званая Полацкая Русь.

Насельнікамі вышэйпаказанай тэрыторыі (Полацкай) былі тры ўсходнеславянскія, рускія плямёны: крывічы, дрыгвічы і радзімічы. Сярод крывічоў і дрыгвічоў жылі яшчэ літвіны, напрыклад, яцвягі.

Найвялікшым племем былі крывічы, якія жылі на вышнявінах рэк — Заходняй Дзвіны, Дняпра і Ловаці. (...) Дрыгвічы рассяліліся паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіною. Сярэдзіна рассялення дрыгвічоў супадае з нашай Меншчынай . Яны жылі пасярод лясоў і балот, дзе шмат было багнін, інакш кажучы дрыгвы. Адсюль і пайшло іх імя. Пасля іх толькі ў Меншчыне засталося больш як 30 тысяч курганоў-магільнікаў. Радзімічы былі невялікім племем і жылі на абодвух берагах Сожа. Яны прыйшлі сюды пазней ад крывічоў і дрыгвічоў з ляшскай (польскай) стараны. Летапіс гаворыць аб іх так: «Бяста бо два брата в Лясех: Радим, а другій Вятко, и пришедша седоста Радим на Соже, и прозвашася Радимичи, Вятко седе с родом своим по Оце, от него ж прозвашася Вятичи».

(...) З раскопак мы бачым, што плямёны будучага беларускага народа, нягледзячы на блізкасць па крыві і суседства, мелі не зусім сходныя звычаі. Так, напрыклад, кожнае з іх паводле ўласнага звычаю хавала нябожчыкаў. Крывічы палілі труп, попел збіралі ў пасудзіну, якую потым пакрывалі насыпам. Вакол насыпу капалі раўчак, а курган абводзілі стужкай з каменю. Дрыгвічы клалі сваіх нябожчыкаў на зямлі і насыпалі над імі курганы. Радзімічы да X стагоддзя сваіх нябожчыкаў палілі, а пасля гэтага часу клалі нябожчыка на ложка, пасыпанае попелам, і над ім рабілі наспу. Уклад хаўтурны крывіцкі быў найскладанейшы; гэта гаворыць аб тым, што і культура іх павінна была быць вышэйшаю.

Па тых рэчах, што знаходзяцца ў курганах, ясна, што дзяды нашы не сквапныя былі да вайны, ім больш падабалася мірная праца: земляробства, звералоўства і гандаль. Яны ўмелі ўжо ткаць на кроснах, ведалі бандарную і ганчарную справу. Былі сярод іх людзі заможныя, якія любілі хараша прыбрацца. На шыі яны насілі маністы з шкляных пацерак, часам бронзавых і срэбных з разнаітымі падвескамі, добра апрацаванымі. Відаць, што пацеркі, вельмі штучна зробленыя, дзесь купляліся.(...) Прафесар Завітневіч аб курганавых рэчах гаворыць так: «Курганные предметы Полесья по своему материалу ценнее, а по форме разнообразнее, затейливее, а иногда изящнее нынешних». І няма тут ніякага дзіва. Нашу бацькаўшчыну багаціў вялікі водны шлях з Варагаў у Візантыю, па якім ішоў сусветны гандаль таго часу. У гэтым гандлі працавалі і мелі немалы заробак і нашы прародзічы. Цікава тое, што некаторыя рэчы, якія ўжываліся тады, ужываюцца і цяпер беларусамі іншага часу. Жыхар кургановага Палесся меў звычай падпярэзвацца раменным паскам з скураным кашэлікам, у якім ён хаваў крэсіва, крамень, губку і ножык. Наш беларус некаторых паветаў Гарадзеншчыны, Магілеўшчыны і Меншчыны таксама носіць пры сабе ў кашэліку на раменным паску тыя самыя рэчы; толькі ён дадаў да іх, як чалавек нашае культуры, яшчэ тытунь і люльку.(...)

## ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД

З сярэдзіны IX стагоддзя сярод усіх усходніх славян пачынаецца дзяржаўна-грамадская арганізацыя. Плямёны крывічоў, дрыгвічоў і радзімічаў ідуць па тым жа гістарычным шляху. Будуецца гаспадарства [2] й тут. Яшчэ да заклікання вядомых нам князёў-варагаў (862) пачалі тут складвацца валасці-княствы. Вёскі валасцей цягнулі, як да цэнтру, да бліжэйшага горада. Чым большы і багацейшы быў горад, тым большую тэрыторыю вясковую канцэнтраваў ён вакол сябе. Зразумела, што валасці былі розныя, паводле абшараў сваіх тэрыторый. Найвялікшымі паміж імі лічыліся: Полацкая, Смаленская [3] і Тураўская. У летапісе, апроч іх, успамінаюцца яшчэ і іншыя валасці з меншай тэрыторыяй, напрыклад: Віцебская, Аршанская, Друцкая, Мсціслаўская, Ізяслаўская, Слуцкая, Наваградская, Нясвіжская, Менская, Пінская, Мазырская, Свіслацкая і іншыя.

Кожная валасць кіравалася з боку ўстаноўча-заканадаўчага — вечам, а з боку выканаўчага — князем і яго дружынаю. Адкуль і як ўзяліся князі ў Полацкай Русі? Магчыма думаць, што ўлада князя ў розных мясцінах вынікала з розных крыніц. Часам князь быў адным з роданачальнікаў [4] племя. Энергія і здольнасці, асабліва ў ваяўніцкіх справах, выстаўлялі яго наперад з агульнай масы старшынь. У некаторых мясцінах, дзе жыццё было спакайнейшае, ён станавіўся першым проста на аснове родавага старшынства па гадах. Князі, што выйшлі з роданачальнікаў, былі, такім чынам, элементам мясцовым. Апроч гэтых князёў мясцовай фармацыі, у Полацкай Русі, як і ў Кіеўскай, былі князі прышлыя. Яны вербаваліся з тых нармана-варажскіх элементаў, якія часта праходзілі праз Русь з поўначы на поўдзень і часта асядалі ў гарадах. Як вербаваўся ў князі гэты прышлы элемент, можна бачыць, напрыклад, з летапіснага падання аб запрашэнні князёў-варагаў Рурыка, Сінявуса і Трувора. Маглі быць выпадкі, калі варагі бралі на сябе ўладу і без запрашэння, проста сілаю зброі. У Полацкую Русь варагі траплялі як з поўначы, так і з захаду, ідучы сюды з дружынамі па Заходняй Дзвіне. Валасныя князі, як ужо было сказана вышэй, мелі выканаўчую ўладу ў сваёй валасці. Найчасцей ім прыходзілася весці ваяўніцкую працу: яны баранілі тэрыторыю валасці і яе маёмасць ад ворага і рабілі з сваёй дружынаю паходы на суседнія варожыя валасці і на чужаземныя краі. Апроч таго, князь з дружынаю рабіў адміністрацыйную работу, чыніў суд і расправу і павінен быў пільнаваць гандлёвыя шляхі й караваны, якія ішлі праз яго валасць.

Заканадаўчая ўлада ў валасці належала вечу, або народнаму сходу. Веча збіралася ў найгалоўнейшым горадзе валасці-княства. Веча запрашала князя, гадзілася з ім; калі князь парушаў пастаўленыя яму ўмовы, яно «показывало князю путь», іначай кажучы адбірала ў яго княжую ўладу. Веча выдавала ўсялякія пастановы для насельнікаў валасці, абірала ўраднікаў [5] на патрэбныя пасады. Веча абвяшчала войны і рабіла згоду з суседзямі. Улада веча шырылася не толькі на горад, але й на ўсю валасць, якая цэнтравалася вакол горада і вёскі, якія параскіданы па ўсім княстве. Пры гэтым меншыя ў валасці гарады лічыліся прыгарадамі галоўнага горада. Кіеўскі летапісец так гаворыць аб уладзе веча: «Новгородци изначала, и смольняне, и кияне, и полочане, и вся власти (валасці.— У. І.), яко же на думу, на веча сходятся, на что же старейшии сдумают, на том и пригороды станут». Веча ў валасці мела магутную моц. Усякі жыхар валасці павінен быў слухаць яго голасу, у тым ліку і князь, які быў, як мы казалі вышэй, толькі наймітам веча.

Звычай вечавога народапраўства [6] існаваў як у Кіеўшчыне, так і ў Полаччыне з незапомных часоў. Як рабіліся справы на вечах, мы мала ведаем, бо ад вечавых сходаў не засталося да нашага часу аніякіх пісаных дакументаў. (...) Права голасу на сходзе мелі ўсе вольныя дарослыя людзі, незалежныя гаспадары. На вечы найперш дакладвалася аб той справе, на якую веча павінна было даць той ці іншы адказ. Даклад аб справе рабіўся ці князем, ці ўраднікамі, ці проста якім-небудзь старым чалавекам. Затым ішло абгаворванне справы. Веча адказвала прамоўцам гоманам. Пэўна, што асобных галасоў не лічылі, а толькі на слых адгадвалі, што ўхваляе веча. Іншы раз выпадала так, што большасць веча была нязначная і меншасць не хацела адступіцца ад сваёй думкі. Тады справа даходзіла да бойкі і аднагалоснасць дасягалася сілком; меншасці затыкалі рот кулаком, і яе галасоў не было чутна.

З усіх валасцей наймагутнейшым веча было ў Полацку. Тут яно існавала з незапомных часоў і вяло сваю ўстаноўча-заканадаўчую працу аж да самага канца 15 стагоддзя (1498 г.), калі гораду было даравана магдэбургскае права. Яно выступала тут

ва ўсе больш-менш рызыкоўныя моманты жыцця як рашучая сіла. Яно прымала і выганяла сваіх князёў: у 1151 годзе яно, напрыклад, «паказала пуць» адразу і князю Рагвалоду Барысавічу і пасадніку[7] Расціславу Глебавічу. Яно заключала дагаворы з князямі іншых валасцей: вядомы дагаворы полацкага веча з Ольгавічамі і з літоўскімі князямі. Полацкаму вечу прад'яўляліся прэтэнзіі на дзейнасць полацкіх князёў, як гэта было, напрыклад, у 1127 годзе з боку кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча. Князь у Полацку заўжды ведаў сваё месца і юрыдычна не меў вялікай сілы. Улада яго грунтавалася на яго індывідуальных здольнасцях. Ён і яго дружына жылі асобным жыццём ад горада і змяшчаліся не ў самім горадзе, а за некалькі вёрст ад горада, у вёсцы Бельчыцы, дзе былі пабудаваны для князя з дружынаю палацы. Апрача таго, вядома, што князь і яго дружына не мелі нават права купляць і валодаць у Полацку нерухомую маемасць. Таксама было ў Ноўгарадзе і Пскове. Трэба сказаць, што становішча ноўгарадскіх князёў было больш паўнае, чым князёў полацкіх. Справа ў тым, што веча ў Ноўгарадзе звычайна абірала сабе князя з роду кіеўскіх Яраславічаў[8]. Пакрыўджаны ноўгарадскі князь мог знайсці сабе дапамогу ў сваіх кіеўскіх родзічаў і ў кіеўскага вялікага князя, які быў найстаршым у родзе і павінен быў бараніць малодшых сваіх родзічаў. Што датычыць полацкіх князёў, дык яны нікому ніколі не маглі паскардзіцца на сваю крыўду. Жылі яны асобным ад кіеўскіх князёў жыццём і нават найчасцей былі ў спрэчках з імі. Згубіўшы па якіх-колечы прычынах свой пасад у Полацкай воласці, князь павінен быў бегчы на чужую старану, да чужых людзей. Такою стараною звычайна была суседняя Літва. Трэба ўсё ж такі сказаць, што полацкія князі ўмелі зжывацца з полацкім насельніцтвам, былі папулярныя ў Полацку, і палачане падтрымлівалі сваіх князёў Ізяславічаў[9] і баранілі іх, а разам з імі і сябе, ад крыўды князёў чужога роду, напрыклад, Яраславічаў Кіеўскіх.

Полацк быў найгалоўнейшым горадам у воласці. Усе іншыя гарады воласці былі залежныя ад Полацка і лічыліся яго прыгарадамі. Такімі прыгарадамі былі, напрыклад, Менск, Віцебск, Барысаў, Стрэжаў, Усвят, Друцк і інш. Гэтая залежнасць адносілася толькі да знешніх спраў. У сваіх унутраных справах усе прыгарады былі незалежнымі і кіраваліся сваімі вечамі і князямі.

## ЗМАГАННЕ ПОЛАЧЧЫНЫ З КІЕЎШЧЫНАЙ

Больш-менш каля часу закліку ў Ноўгарадскую Русь варагаў (862) Полаччына мела сваіх мясцовых князёў, пра якіх успамінае адна з скандынаўскіх саг. Эймундава сага. Гэтых князёў назваць па імёнах мы не маем магчымасці. Вядома, што ўжо ў тыя старыя часы былі нейкія непаразуменні паміж Полацкім і Кіеўскім цэнтрамі. Хутка пасля закліку князёў варагі-нарманы Аскольд і Дзір, родзічы прышлых з поўначы князёў — Рурыка, Сінявуса і Трувора — захапілі ўладу ў Кіеве. Асеўшы тут, яны адразу ўвайшлі ў мясцовыя інтарэсы і сталі ў варожыя адносіны да Полацкай Русі. У Ніканаўскім летапісе мы чытаем: «Аскольд и Дир воевавша полочан и многое зло им сотвориша».

Чым была выклікана вайна паміж Кіеўскім і Полацкім гандлёвымі цэнтрамі, мы не ведаем. Відаць толькі, што Полаччына ад гэтае вайны шмат пацярпела ўбыткаў.

Аскольд і Дзір доўга ў Кіеве не выседзелі. Род прышлых нарманскіх князёў Рурыкавічаў лічыў, што яны селі ў Кіеве незаконна. Іх змяніў апякун Рурыкавіча Ігара Алег (879—912). Гэты першы гістарычна праўдзівы кіеўскі князь пачаў цэнтраваць вакол Кіева розныя плямёны. Ён накладваў на іх даніну, адкуль і пайшло слова «падданыя». У ліку іншых падданых плямёнаў Іпацьеўскі летапіс называе і крывічоў. (...) «Олег прия город Смоленск и посади в нем муж свои». Аб падданні Алегу Полацка і дрыгвічоў у летапісе звестак няма, але магчыма думаць, што і гэтыя землі былі ў нейкай залежнасці ад Кіева. Так, напрыклад, летапіс, гаворачы аб «укладах», якія браў Алег з Візантыі, называе «ўклад» не толькі на Смаленск, але і на Полацк. «Укладам» завецца ваенны здабытак, які прысылаўся кіеўскаму князю з Візантыі. Звярнуўшы ўвагу на тое, што Смаленск і Полацк мелі свае асобныя ўклады, мы павінны прызнаць, што яны былі не рабамі Кіева, а яго супольнікамі ў змаганні з Візантыяй. Гэты факт пацвярджаецца тым, што ў паходах Алега ў 907 і 911 годзе на Візантыю, паводле летапісу, Смаленск і Полацк прымалі удзел. Праўда, Алег у далучаных гарадах ставіў сваіх «мужей», але яны былі не столькі ўраднікамі, колькі прадстаўнікамі эканамічных інтарэсаў кіеўскага князя. Справы гарадоў і валасцей па звычаі вялі мясцовыя вечы і князі «под Ольгом суўе».

Пры пераемніках Алега (Ігар, Вольга, Святаслаў) залежнасць Полацка ад Кіева паступова ўсё падае. У апошнюю чвэрць X стагоддзя ў Полацку ўжо незалежна княжыць Рагвалод.

Некаторыя вучоныя лічаць, што Рагвалод быў патомак нарманa-варажскіх князёў, што з'явіліся ў Полаччыну ў канцы IX стагоддзя адначасова з тымі, якія прыйшлі ў Ноўгарад. У той час, як апошнія прыйшлі з поўначы, продкі Рагвалода з'явіліся на Русь па Заходняй Дзвіне і тут аселі. Але магчыма думаць, што Рагвалод быў патомкам тых мясцовых князёў, якія раней былі ў Полацку. Гэта пацвярджаецца чыста славянскім імем самога Рагвалода і дачкі яго Рагнеды.

Рагвалод[10] скарыстаў слабасць Кіеўшчыны ў часы Ігара, Вольгі і Святаслава і стаў пашыраць свой уплыў на поўнач, стараючыся адарваць Ноўгарадчыну ад сувязі з аслабелай Кіеўшчынай. Апроч таго, у далейшыя часы ён выкарыстаў спрэчкі паміж сынамі Святаслава Кіеўскага — Яраполкам, Алегам і Уладзімірам. Ён значна пашырыў тэрыторыю полацкага ўплыву на поўдзень, атрымаўшы верх у Тураўскім княстве, якое дагэтуль цалкам залежала ад Кіеўшчыны.

Аднак моц Полаччыны хутка зменшылася. У час далейшай барацьбы сыны Святаслава, Яраполк і Уладзімір, шукалі сабе дапамогі з боку Рагвалода. Дзеля гэтай мэты абодва браты дамагаліся рукі Рагвалодавай Рагнеды, каб палітычны саюз зацвердзіць сваяцтвам. Маладыя князі заслалі сватоў да полацкай князёўны. Летапіс гаворыць, што Рагнеда, даведаўшыся, што Уладзімір быў сынам Святаслава і рабыні, не захацела быць жонкаю рабыніча і з пагардай адказала так: «Не хочю розути робичича, а за Ярополка иду». Калі Уладзіміру перадалі адказ Рагнеды, ён у 980 годзе пайшоў паходам на Полацк, разбіў полацкае войска, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў у Кіеў і прымусіў быць сваёю жонкаю. Ад яе ён меў чатырох сыноў і дзве дачкі, старшы з сыноў быў Ізяслаў[11].

Нават тут, у палацы кіеўскага князя, ішоў працяг спрэчкі паміж Полацкам і Кіевам. Водгукі гэтай спрэчкі адчуваюцца ў Кіеўскім летапісе. Паданне гаворыць аб тым, што Рагнеда не магла забыць сваёй крыўды і хацела раз забіць Уладзіміра. Ён хапіўся за меч, каб засячы гордую палачанку, але маленькі Ізяслаў стаў таксама з мечам на заслону сваёй маткі. Гэты маленькі абаронец так спадабаўся Уладзіміру, што ён даў яму дзедзічнае[12] Полацкае княства. А для Рагнеды ён збудаваў каля Менска новы горад Ізяслаўль[13] і адаслаў яе туды на жыццё (...) Ад Ізяслава і пачынаецца род гістарычных полацкіх князёў, якія завуцца Ізяславічамі. Поруч з гэтым часта летапіс называе полацкіх князёў «Рогволожими внуками».

Працяг будзе.

---

[1] У. Ігнатоўскі, верагодна, мае на ўвазе былую Мінскую губерню, у якую ўваходзілі Пінскі, Слуцкі ды іншыя паветы, дзе калісь жылі дрыгвічы.

[2] Слова «гаспадарства» (дзяржава) ідзе ад тытула «гаспадар», які належаў вялікаму князю літоўскаму. Параўнай: государь — государство.

[3] Смаленская зямля была заселена крывічамі. Як вынікае з аднаго летапісу, Смаленск знаходзіўся ў Полацкай воласці, г. зн. напачатку быў падпарадкаваны Полацку.

[4] Роданачальнік — тое ж, што і старэйшына роду. Некалькі родаў складалі племя.

[5] Ураднік — службовая асоба, чыноўнік. Адсюль слова «ўрад». У рускай мове слова «урядник» набыло абмежаваны сэнс.

[6] Гаварыць пра народапраўства (дэмакратыю) у старажытным Полацку не даводзіцца, бо, як далей піша сам У. Ігнатоўскі, на вечы галоўную ролю адыгрывалі «незалежныя гаспадары». Значная частка гарадскога насельніцтва была пазбаўлена права голасу.

[7] Пасаднік — вышэйшы ўраднік у Полацку і ў Ноўгарадзе, выбраны вечам.

[8] Яраславічы — дынастыя вялікіх кіеўскіх князёў, якая вяла свой род ад Яраслава Мудрага.

[9] Ізяславічы — дынастыя полацкіх князёў, якая вяла свой род ад Ізяслава, сына Рагнеды і вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Чырвонага Сонейка. Паколькі Рагнеда была дачкою Рагвалода, род гэты часта называюць Рагвалодавічамі. Ізяслаў быў родным братам Яраславу Мудраму.

[10] Тут больш правільна казаць не аб Рагвалодзе, а пра Полацк, бо малаверагодна, каб Рагвалод княжыў з 912 года да сваёй смерці ў 980 г.

[11] Другім сынам Рагнеды і Уладзіміра быў Яраслаў Мудры. Аб Рагнедзе можна больш падрабязна прачытаць у аповесці Канстанціна Тарасава «Три жизни Рогнеды» (кніга «Путешествие в тесном кругу»: «Мастацкая літаратура», 1986).

[12] Гэта значыць спадчыннае. Такім чынам Уладзімір прызнаў права старэйшага Рагвалодавага ўнука на дзедаў пасад.

[13] Цяпер горад Заслаўе Мінскага раёна.

**Падрыхтоўка тэксту і каментарыі Анатоля СІДАРЭВІЧА.**



# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР 1990 год

### СНЕЖАНЬ

1/19. П. Новы Год. Піліпаўка (да 5.01).
3/21. С. Пракоп.
6/24. Сб. Першая куцця. Пачатак каляд.
7/25. Н. Раство. Пачатак Каляднага Мясаеда (да 25.02).
8/26. П. Бабіны. Зімні Пакроўчык.
9/27. А. Сцяпан.
13/31. Сб. Шчодрая Куцця. Пачатак Шчодрага тыдня. Куготы.

### СТУДЗЕНЬ

14/1. Н. Новы Год (па ст. ст.). Святы Козлік. Васілле. «Засяванне».
15/2. П. Шчодры. Вадзяная Каляда.
19/6. Пт. Вадохрышча. Тры Каралі.
20/7. Сб. Лянівы Дзень. Пачатак Малой Вясельніцы (да Масленкі).
21/8. Н. Провады Каляд.
31/18. С. Апанасся.

### ЛЮТЫ

6/24. А. Аксіння.
9/27. Пт. Іван Залатавус.
10/29. Сб. Ігнат.
12/30. П. Тры Свяціцелі. Пачатак* Усеяднага тыдня.
13/31. А. Стрэчаньская Дзяды.

### ЛЮТЫ

14/1. Грамнічны Бацька.
15/2. Ч. Стрэчанне, Грамніцы.
16/3. Пт. Дзедава Пятніца.
17/4. Сб. Дзедава Субота.
18/5. Н. Агата.
19/6. Н. Вакулы. *Масленіца. *Гуканне Вясны.
22/9. Ч. *Крывы Чацвер. *Валосы.
24/11. Сб. Аўлас.
25/12. Н. *Масленыя Загавіны. *Гуканне Вясны.
26/13. П. *Паласказуб.
27/14. А. Фаціння.

### САКАВІК

3/18. Сб. *Зборава субота.
4/19. Н. Казімір. *Збор.
9/24. Ч. Абертас. Мацей.

### САКАВІК

14/1. С. Аўдоцця Вясноўка. Гуканне Вясны.
19/6. П. Пачатак *Крашчатага, Благавеснага тыдня.
21/8. С. *Серадапосце.
22/9. Ч. Саракі. Пліска.
24/11. Сб. Рыгор.
30/17. Пт. Аляксей Цёплы.

### КРАСАВІК

1/19. Н. Пачатак *Пахвальнага тыдня.
6/24. Пт. Камаедзіца. *Пахвальная Пятніца.
7/25. Сб. Благавешчанне. Гуканне Вясны. Пахвальная Субота.
8/26. Н. *Вербніца.
9/27. П. *Чысты Панядзелак.
10/29. С. *Чысты Аўторак.
11/29. С. *Дравяная Страсць.
12/30. Ч. *Вялікі Чацвер.
13/31. Пт. *Велікодная Пятніца.

### КРАСАВІК

14/1. Сб. Прабуджэнне Дамавіка. *Красная Субота.
15/2. Н. *Вялікадзень, Вялічка.
16/3. П. *Вялікі Панядзелак. Мікіта.
17/4. А. *Вялікі Аўторак.
18/5. С. Пачатак *Праводнага тыдня. *Градавая Серада.
19/6. Ч. *Вялікадне Мёртвых.
21/8. Сб. Руф.
23/10. П. Войцех. *Радунічныя Дзяды.
24/11. А. Анціп. *Радуніца, Радаўніца.
25/12. С. Марк.
28/15. Сб. Пуд.
30/17. П. Зосім. Андрыянава Ноч.

### МАЙ

5/22. Сб. Ляльнік.
6/23. Н. Юрый, Ягорый. «Страла».
7/24. П. Пачатак *Пераплаўнага, Чарвівага тыдня.
8/25. А. Станіслаў. Бабскія Розбрыкі.
9/26. С. *Градавая Серада, Перапалавенне.
10/27. Ч. Ярылавіца (да Пятроўкі).
11/28. Пт. Кірыла Тураўскі.

### МАЙ

14/1. П. Май. Макарэй.
15/2. А. Барыс.
21/8. П. Іван Веснавы, Мікольнік.
22/9. А. Мікола. Галена.
23/10. С. Зілот.
24/11. Ч. *Ушэсце. *«Страла».
27/14. Н. Сідар.
28/15. П. Пахом.
29/16. А. Ціхан.
30/17. С. *Крывавая Серада.
31/18. Ч. Шэсць Дзеў.

### ЧЭРВЕНЬ

1/19. Пт. *Сёмушныя, Траецкія Дзяды.
2/20. Сб. *Духавая Субота. Сёмка, Зялёныя Сваткі.
3/21. Н. *Сёмуха, Тройца. Алёна, Ульяна.
4/22. П. Васіліска. Пачатак *Граннага тыдня, Русальніца. «Куст».
5/23. А. Ефрасіння Полацкая. *Конскі Вялікдзень.
6/24. С. *Градабой. Серада Русаль.
7/25. Ч. *Наўскі Чацвер. *Абліваха.
10/28. Н. Пятроўскія Запускі.
11/29. П. *Розыгры. *Пятроўка.

### ЧЭРВЕНЬ

14/1. Ч. Юстын. Харытон. *Дзевятнік.
15/2. Пт. *Дзевятуха.
21/8. Ч. Тодар. *Дзесятуха. *Пяценка.
24/11. Н. Ян Купальны.
25/12. П. Анапрэй.
26/13. А. Акуліна Грэчышніца.
27/14. С. Алісей.
28/15. Ч. Амос.

Тут паказаны святы і прысвяткі, з якімі звязаны народныя звычаі і павер'і і якія ўвайшлі ў прыказкі, прымаўкі і песні. Зорачкай пазначаны каляндарныя дні, якія не маюць сталай даты. Штогод гэтыя даты залежаць ад таго, калі святкуюць Вялікдзень.

У календары даты дадзены паводле старога (лічнік) і новага (назоўнік) стыляў.

**Падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.**

Фота Цімура ГРЫБА

Дзмітрый
НОВІКАЎ

# ІНША-ПЛАНЕЦЯНЕ

## I. НЛА ў Беларусі

«...Усе выразна бачылі, як у ніжняй частцы шара адкрыўся люк, у прагале з'явілася нейкая істота. Яна была прыкладна трохмятровага росту з трыма вачыма, у серабрыстым камбінезоне і «ботах» бронзавага колеру, з нейкім дыскам на грудзях. «Істота», агледзеўшы мясцовасць, зачыніла люк, шар пачаў апускацца.

Аб'ект прызямліўся. Зноў адкрыўся люк, і выйшлі дзве «істоты» — адна, мусіць, робат. Першы нешта сказаў — на зямлі з'явіўся трохвугольнік, які свяціўся, памерам 30×40 сантыметраў, які неўзабаве знік... Іншапланецянін дакрануўся да грудзей робата — той пайшоў, як механічны.

У гэты час адзін з хлопчыкаў закрычаў ад жаху. Прышэлец паглядзеў на яго, і хлопчык знерухомеў. Вочы прышэльца пры гэтым свяціліся. Тут закрычалі ўсе прысутныя. Праз некаторы час шар і істоты зніклі...»

Гэта не ўрывак з навукова-фантастычнага рамана. Гэта фрагмент з рэпартажа «НЛА: і Варонеж дачакаўся?», надрукаванага 10 кастрычніка 1989 года ў газеце «Советская культура». Дзесяткі і сотні падобных матэрыялаў пра неапазнаныя лятаючыя аб'екты, а іншы раз (як у публікацыі «Советской культуры») і пра іх «пасажыраў» — сёлета літаральна захапілі сродкі масавай інфармацыі. Валагодская, Растоўская, Цюменская, Пермская вобласці, Фрунзе, Кіеў, Нальчык...

Адзін мой добры знаёмы, прачытаўшы чарговае паведамленне пра НЛА, спытаў у мяне іранічна: «Гэта як разумець: насельніцтва звар'яцела ці ваш брат журналіст з глузду з'ехаў?»

«Мяркую,— адказаў я,— ні тое, ні другое».

«Ну-ну»,— сказаў мой знаёмы і паківаў галавой.

Між тым, зрабіў ён гэта дарэмна. Бо НЛА — не трызненне псіхічна хворага і фантом-прывід, а аб'ектыўная рэальнасць, прызнаная такой ва ўсім свеце. Прадчуваю, як задаволена пацірае рукі чытач-скептык. І рыхтуе «забойнае» пытанне: а дзе ж тады раней былі гэтыя самыя «лятаючыя талеркі», чаму аб іх ніхто нічога не пісаў? Адказваю: там жа, дзе ў свой час былі генетыка і кібернетыка. Дадам да гэтага і яшчэ сёе-тое. А іменна: сёлетняе масавае з'яўленне НЛА над тэрыторыяй нашай краіны — ад Калінінграда да Уладывастока і ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Паміра — не нейкае выключэнне, а хутчэй заканамернасць. Справа ў тым, што падобныя «нашэсці» былі ўжо ў Савецкім Саюзе. У прыватнасці, апошнія два разы — у 1966—1967, 1977—1979 гадах. Толькі тады на паведамленні аб іх, як зрэшты, і на многае іншае, цэнзура накладвала безапеляцыйнае «вета». Вось і атрымлівалася, што з'ява ёсць, але яе як быццам і няма. Прычым «талерачкі» лёталі не толькі «недзе там, далёка». З'яўляліся яны і над нашымі беларускімі палямі і лясамі, гарадамі і вёскамі. Вось толькі некалькі вытрымак з матэрыялаў, якія захоўваюцца ў рэспубліканскім камітэце па энергаінфармацыйнаму абмену і асабістым архіве аўтара.

1976 год. Канец жніўня — пачатак верасня. Сігарападобнае цела пралятала над гомельскім гарадскім паркам.

1980 год. Верасень. Над Бабруйскам рухаўся прадмет, які меў форму расцягнутага каната. Канат нечакана ператварыўся ў кальцо, затым — у мудрагелістую спіраль, нарэшце — у набор нейкіх лічбаў, што потым «сціснуліся» і, узмыўшы ўверх, зніклі.

1985 год. 15 снежня. Экіпаж і пасажыры самалёта «Талін — Мінск» назіралі НЛА, якое нагадвала аўтамабільную фару. У ноч з 5 на 6 верасня над вёскай Канюхі Ляхавіцкага раёна то з'яўляючыся, то знікаючы, рухалася вялікая колькасць рознакаляровых кропак, спрасаваных у трохвугольнік.

1986 год. 27 верасня. У ваколіцах вёскі Амневічы Карэліцкага раёна «прызямліўся» блакітны шар з як бы прычэпленым да яго шасцікупальным «фургонам», каля якога з вялікай хуткасцю перамяшчаліся нейкія постаці з яркімі блакітнымі паскамі на верхняй частцы «цела».

1987 год. 8 верасня. Над адным з мінскіх паркаў павольна рухаўся вогненны шар.

1988 год. Чэрвень. Ярка-жоўты шар, моцна асвятляючы наваколле, праляцеў над вёскай Канавы Чачэрскага раёна.

Храналогія «беларускіх праяў» мінулага года (па меншай меры, згодна з фактамі, якія маюцца ў «дасье» аўтара) выглядае наступным чынам.

27 сакавіка. Вогненна-чырвоны шар з'явіўся над вёскай Беражнае Столінскага раёна.

Ліпень. Серабрыстае шарападобнае цела ўздымаецца над лесам пад Гомелем. Тады ж над тэрыторыяй Карэліцкага раёна пралятае незвычайная, быццам злепленая з трох частак — белай, жоўтай і аранжавай — «зорка».

17 верасня. Яркі чырвоны шар апускаецца на бераг Прыпяці каля Пінска. Пасля яго нечаканага знікнення (у адносінах да НЛА — амаль неад'емная дэталь) па наваколлю пранosіцца прыглушаны гук, падобны на гудзенне, якое зыходзіць ад трансфарматарнай будкі.

20 верасня. Над Вілейкай рухаецца круглы прадмет ліловага колеру з аранжавым промнем.

24 верасня. Яркі шар і чалавекападобная «істота» з'яўляецца над вёскай Катка Глускага раёна.

Многія газеты краіны перадрукавалі з латвійскай «Советской молодежи» артыкул рыжскага журналіста П. Мухартава «М-скі трохвугольнік або чужыя тут не ходзяць». Аўтар падрабязна расказвае пра адзін з раёнаў Пермскай вобласці, дзе рэгулярна з'яўляюцца «лятаючыя шары», а таксама апавядае аб сваіх «сустрэчах» з прадстаўнікамі незямной цывілізацыі, што, па яго словах, паведамляюць рэпарцеру, адкуль яны прыбылі, хто імі кіруе, а таксама падзяліліся інфармацыяй наконт будучых знамянальных падзей на планеце людзей (у прыватнасці, перадалі, што «у будучым годзе, у маі-чэрвені, Ісус Хрыстос — прадстаўнік планеты Трон — наведае Зямлю... Ен будзе «шкадаваць» нас»...

Да падобнага роду матэрыялаў можна ставіцца па-рознаму. Аднак існаванне своеасаблівых «пасадачных пляцовак» НЛА — факт, які цяжка абвергнуць. Напрыклад, у Беларусі такі «касмадром», напэўна, знаходзіцца на Вілейшчыне, а больш дакладна — у ваколіцах... маёй роднай вёскі Нясцёркі і суседняга Латыгаля. Мне, як журналісту, што займаецца «іншапланетнай» тэматыкай, неяк і пісаць пра гэта няёмка. Аднак факт ёсць факт. Менавіта ў мясцінах, якія некалі я басанож змераў уздоўж і ўпоперак, вось ужо паўтара года час ад часу (звычайна ўначы і раніцай) лятаюць гэтыя самыя шары. Калі б я нават быў самым вялікім скептыкам на свеце, сумнявацца ў псіхічным стане сваіх землякоў, сярод якіх я вырас і многіх з якіх я ведаю, што называецца, з пялюшак, а таксама — маіх сястры, жонкі і дачкі (яны таксама бачылі дзіва) — гэта, згадзіцеся, занадта. Да таго ж, пачуўшы аб незвычайных аб'ектах, што трывожаць спакой землякоў і пужаюць закаханых, я прапанаваў наведаць маю радзіму спецыялістам рэспубліканскага камітэта па энерга-інфармацыйнаму абмену ў прыродзе і мінскай групы па вывучэнні анамальных з'яў. Іх вывад адназначны: так, гэта НЛА. Прычым, як заявілі госці, па іх меркаванню, шароў у ваколіцах Нясцёрак і Латыгаля «прызямляецца» значна больш, чым сцвярджаюць відавочцы. Справа ў тым, што многія з іх... нябачныя для чалавечага вока. І зафіксаваць іх можна толькі пры спецыяльнай фотаздымцы або радыёлакатарамі.

Тут нецярплівы чытач, напэўна, спытае: адкуль жа бяруцца гэтыя самыя шары, а таксама іншыя НЛА, з якога варства яны складаюцца і, калі гэта сапраўды караблі «прышэльцаў», то з якой мэтай яны наведваюць нашу планету?

Ох, уж гэты цікаўны чытач! Усё яму падай на спадачку з блакітным шлячком. Гэта не так проста.

Сёння спецыялісты ўжо ведаюць, што з'яўленне неапазнаных лятаючых аб'ектаў (у прыватнасці, шароў) на Зямлі звычайна, як правіла, напрамую звязана, па меншай меры, з двума фактарамі. Наяўнасцю паблізу (у межах 5 кіламетраў) тэктанічнага разлому. (Упершыню гэтую заканамернасць выявілі французскія вучоныя, у нашай краіне аналагічныя вынікі атрымалі томскія і мінскія спецыялісты). І — рэзкімі зменамі ў дадзены час электрамагнітнага поля планеты (адкрыццё, зробленае ў Беларусі). Я не выпадкова падкрэсліў «на Зямлі». Справа ў тым, што яшчэ ў 1969 годзе амерыканскі астранаўт М. Колінз сфатаграфаваў НЛА (у выглядзе двух счэпленых шароў) над паверхняй Месяца. Здымак тады зрабіў сакрушальны удар па канцэпцыі вучоных, якія імкнуліся вытлумачыць феномен «лятаючых талерак» выключна з «зямных» пазіцый. Ну, а вось наконт паходжання, саставу НЛА, іх «мэты з'яўлення на нашай планеце», гэтаксама як і наконт «механікі» іх руху, раптоўнага знікнення і т. п., мусіць, думаецца, не зможа даць навукава абгрунтаванага тлумачэння ніводны чалавек.

Над гэтымі пытаннямі ўфолагі (спецыялісты, якія вывучаюць НЛА — Д. Н.) б'юцца ўжо больш як сорак гадоў. З таго самага часу, калі 24 чэрвеня 1947 года амерыканскі пілот А. Кэнэт, пралятаючы на прыватным самалёце над тэрыторыяй штата Вашынгтон, заўважыў у паветры дзевяць незвычайных дыскаў (адсюль «лятаючыя талеркі»), якія рухаліся. Паведамленне аб гэтым у розных інтэрпрэтацыях з'явілася ў прэсе, і вакол НЛА ўсчаўся сапраўдны бум.

Ен дасягнуў небывалых памераў яшчэ і таму, што неўзабаве ў сродкі масавай інфармацыі прасачылася неверагодная вестка: 2 ліпеня 1947 года каля горада Розуэла, што ў амерыканскім штаце Нью-Мексіка, разбіўся лятальны карабель незямнога паходжання, былі знойдзены яго рэшткі, а таксама чатыры нежывыя істоты, «біялагічна не падобныя на людзей», усё гэта «прыбрала» да сваіх рук ваеннае ведамства Злучаных Штатаў.

На працягу чатырох дзесяцігоддзяў уфолагі і журналісты неаднаразова спрабавалі прыадкрыць завесу тайны «трагедыі ля Розуэла». Аднак марна. Апошняя такая спроба была зроблена ў 1987 годзе на Міжнародным сімпозіуме па НЛА ў Вашынгтоне, удзельнікі якога афіцыйна звярнуліся ў ЦРУ з просьбай рассакрэціць дакументы па гэтай справе, на што атрымалі лаканічны адказ: «Дакументы знішчаны».

Магчыма, калі б пентагонаўскія генералы не былі такія «ўпартыя», мы ўжо сёння маглі б у многім спасцігнуць феномен НЛА. Пакуль жа... Пакуль наконт іх ёсць толькі гіпотэзы і здагадкі. Іх шмат, як шмат поглядаў на гэту праблему. Асабіста мне найбольш цікавымі ўяўляюцца дзве. Якія я і хачу прапанаваць вашай увазе.

Адразу зазначу, што некаторым яны здадуцца несур'ёзнымі, некаторым — абсурднымі, а то і ўвогуле — смешнымі. Аднак не трэба забываць, што іншы раз самыя неверагодныя здагадкі атрымлівалі ў рэшце рэшт бліскучае пацвярджэнне.

## 2. ГРОНКА ГІПОТЭЗ

Абедзве гіпотэзы аб НЛА, якія я хачу выкласці, цесна звязаны ў сваю чаргу з гіпотэзай аб так званай панспермії, згодна з якой жыццё на Зямлі не самазарадзілася, а было занесена «звонку» або «створана» штучным шляхам.

Дык вось, некаторыя спецыялісты мяркуюць, што першых людзей даставілі на нашу планету іншапланецяне. З таго часу яны ажыццяўляюць так званы «глабальны кантроль» за нашым развіццём, зрэдку «папярэджваючы», як кажуць, «не зарывацца». Гэта значыць, калі ў нейкай кропцы зямнога шара пачынаюцца канфлікты, падае маральнасць або адбываецца яшчэ што-небудзь, калі так можна сказаць, не зусім прыстойнае, гуманоіды неадкладна робяць адпаведныя захады. «Арганізуюць» катаклізмы (паводкі, землятрусы, ураганы і г. д. або катастрофы (накшталт Чарнобыльскай). Пасля такіх сатрасенняў людзі павінны задумацца і не рабіць глупства.

Але гэта яшчэ не ўсё. Час ад часу іншапланецяне забіраюць з са-

бой зямлян, так сказаць, «для падтрымання свайго «генафонду». Прычым, не абавязкова «жыўцом». Іншы раз — толькі «душы». Як правіла, найбольш «каштоўныя». У сувязі з гэтым звычайна ідуць спасылкі на заўчасныя смерці Пушкіна, Лермантава, Ясеніна, Маякоўскага і многіх іншых выдатных дзеячаў літаратуры, мастацтва, буйных вучоных накшталт, напрыклад, Каралёва. Часта ўспамінаецца таксама Гагарын.

Другая гіпотэза — аб «цёмных» і «светлых» прышэльцах. На ёй я спынюся больш падрабязна, бо у адрозненне ад меркавання-здагадкі аб «глабальным кантролі», яна даволі сур'ёзна аргументавана і ў ёй не так ўжо шмат фантастычнага, як можа паказацца на першы погляд.

Яна таксама мяркуе, што зямлян перасялілі на нашу планету або проста «стварылі» «светлыя». Пасля чаго ўзялі іх пад сваю «апеку». У «светлых» высакародная мэта: спрыяць людзям у дасягненні найвышэйшага ўзроўню развіцця, якое прадугледжвае поўнае спасціжэнне «касмічных» законаў, што дапаможа разарваць путы прасторы і часу, свабодна існаваць ва ўсіх вымярэннях Сусвету (іх, на думку прыхільнікаў гэтай гіпотэзы, не менш, як сем).

У старажытныя часы «светлыя» неаднаразова з'яўляліся на Зямлі у выглядзе багоў і прарокаў, якія пакідалі пасля сябе своеасаблівыя «маральныя кодэксы» ўдасканалення людзей, а таксама — першапачатковыя веды аб нашай планеце і Сусвеце. Дарэчы, доказам гэтага «пункту» гіпотэзы прысвечана кінастужка заходнегерманскага даследчыка Дэнікена, якая ў пачатку 70-х гадоў з вялікім поспехам дэманстравалася на экранах нашай краіны. Фільм той быў цікавы, арыгінальны, рамантычны. І застаецца толькі шкадаваць, што яго аўтара тады ж аб'явілі лжэвучоным і авантурыстам, а карціну «паклалі на паліцу».

Акрамя «прамога» з'яўлення «светлыя» дзейнічалі на людзей і ўскосна, выклікаючы ў некаторых так званае «азарэнне», гэта значыць «укладвалі» ў іх мозг адпаведную інфармацыю і кіравалі працэсам яе рэалізацыі. У тым жа накірунку дзейнічаюць яны і цяпер.

Трэба сказаць, што фактаў, на якіх пабудавана гіпотэза, нямала.

Напрыклад, з гісторыі шырока вядомае «азарэнне» прарока Мухамеда, калі неадукаваны пастух, пасля таго, як у сне яму з'явілася «бажаство», завалодаў розумам тысяч людзей. Тое ж самае адбылося з Жанай д'Арк, якая пасля «азарэння» заявіла, што «выратуе Францыю», назвала канкрэтны тэрмін і зрабіла гэта.

Менш грандыёзныя, але не менш цікаўныя выпадкі мы знаходзім і ў сучаснасці. Так, у інтэрв'ю Алана Чумака, якое было надрукавана ў газеце «Московские новости», на пытанне карэспандэнта: «Ці быў у вас канкрэтны настаўнік, які вас гэтаму вучыў?», той адказаў: «Не, я чую голас. Як хочаце, так і разумейце. Звычайна «сеансы сувязі», так я іх называю, ідуць ноччу з адзінаццаці вечара да чатырох раніцы. Я сяджу, а голас мне расказвае аб методыцы лячэння, аб энергіі, аб многім іншым. Голас унутры мяне. Я бачу малюнкі»...

Можна ўспрыняць усё гэта як проста словы. Але як быць, напрыклад, з выпадкам, які ў свой час грунтоўна даследавала і апісала вучоны сакратар рэспубліканскага камітэта па энерга-інфармацыйнаму абмену Кацярына Агеенкава? Надта ўжо ладнай цаглінай кладзецца ён у падмурак доказаў таго, што кантакты (яўныя або тэлепатычныя) з «светлымі» «ўдасканальваюць» чалавека фізічна, разумова, духоўна.

...У верасні 1984 года трынаццацігадовую мінчанку Святлану (прозвішча не называю па просьбе бацькоў і яе самой), па яе словах, «наведалі» тры істоты ў чалавечым абліччы, якія «свяціліся святлом салатавага колеру». «Госці» нічога не гаварылі, але Святлана, тым не менш, зразумела, што яны пытаюць, ці верыць яна ў прышэльцаў з іншага свету. Дзяўчынка нейкім чынам, хутчэй за ўсё ў думках, адказала: веру. Пасля гэтага, па сведчанню Святланы, нейкая незразумелая сіла «перадвінула» яе амаль ушчыльную да іншапланецян. Рука міжволі паднялася і апусцілася на плячо аднаго з іх. Потым наступіў провал у памяці. Апрытомнела Святлана ў другім канцы пакоя ў паўляжачым становішчы.

Усё гэта можна было б, безумоўна, «спісаць» на фантазію. Але вось што пасля скрупулёзных даследаванняў выявіла К. Агеенкава.

У дзяўчынкі, якая, што вельмі важна, не мае ніякіх адхіленняў у псіхіцы, пасля «кантакту» рэзка палепшылася памяць (нават вялікі верш яна вывучвала пасля 2—3-х прачытанняў). Ей захацелася (а потым увайшло у прывычку) спаць без падушкі і коўдры на цвёрдай пасцелі, да таго ж з адкрытай у любую пару года форткай. Адчуваючы, што не спіць, яна магла бачыць сны, прытым з «сюжэтам» па жаданню, прачынаючыся без будзільніка ў любы патрэбны час. Магла наогул не спаць па 2—3 сутак, застаючыся пры гэтым бадзёрай і поўнай сіл. Выявіла ў сябе гіпнатычныя здольнасці і дэманстравала іх сябрам. Забылася на хваробу сэрца, з-за якой была вызвалена ад фізкультуры, і была здольна пераносіць высокія нагрузкі. І нарэшце, стала прадчуваць некаторыя падзеі, якія павінны былі з ёй здарыцца...

Ну, а што «цёмныя»? Якая іх «роля» на нашай планеце? Прама процілеглая «функцыі» «светлых». Іх канчатковая мэта, ні многа ні мала — знішчыць нас, бо людзі, якія «заражаны» «бактэрыямі думкі» і «некантраляваныя некіруемымі пачуццямі» з выхадам у Сусвет здольны пагубіць іх цывілізацыю.

Калі б не «заступніцтва» «светлых», якія нейтралізуюць або «змякчаюць» згубнае ўздзеянне «цёмных», чалавецтва, магчыма, ужо б не існавала. Аднак любая сустрэча з гэтымі «касмічнымі вандаламі» нясе не толькі непрыемнасць, але і сур'ёзную небяспеку.

Здагадка гэтая таксама грунтуецца не на пустым месцы.

Вось толькі адно сведчанне, якое, на маю думку, не падлягае сумненню, бо зыходзіць ад такога аўтарытэтнага даследчыка, як старшыня секцыі вывучэння анамальных з'яў Усесаюзнага астранома-геадэзічнага таварыства (УАГТ) пры АН СССР А. Лістратава.

У нядаўнім інтэрв'ю «Социалистической индустрии» ён расказаў аб працягу гісторыі, якая ў свой час была выкладзена ў артыкуле газеты «Труд» «Роўна ў 4.10». Згадаю, у ёй ішла гаворка аб сустрэчы з НЛА самалёта «Ленінград — Тбілісі». Загадкавы аб'ект асвятляў тады магутным промнем кабіну лайнера. Прамень слізгануў па целе камандзіра. Другі пілот закрыўся ад асляпляльнага святла рукой.

Далей, як сведчыць А. Лістратаў, падзеі разгортваліся наступным чынам. Цытую: «Праз некалькі месяцаў камандзір памёр у боткінскай бальніцы ад рака... Мне даводзілася сустракацца з другім пілотам. Лёс яго пакуль менш трагічны. Але і гэты, раней здаровы чалавек, неўзабаве пасля сустрэчы з дыскам (форма НЛА — Д. Н.) быў спісаны з авіяцыі па інваліднасці. Цяпер ён іншы раз на некалькі гадзін страчвае прытомнасць... Электракардыяграмы і электраэнцыфалаграмы другога пілота выглядаюць, мякка кажучы, незвычайна — не па-людску, ці што. А абследаванне паказала, што ў яго зменены ізатопны састаў цела»...

Не менш трагічнымі былі вынікі і некаторых іншых «сустрэч» з НЛА. Так, жыхар адной з вёсак Любанскага раёна пасля такога «кантакта» забіў сваю жонку, а сам павесіўся.

...Зрэшты, гіпотэзы ёсць гіпотэзы. А аб'ектыўная рэальнасць ёсць аб'ектыўная рэальнасць. У адносінах да НЛА у нашай краіне яна такая, што «лятаючымі талеркамі» і «гуманоідамі» да сёння займаюцца пераважна энтузіясты-адзіночкі або ў лепшым выпадку таварыствы, створаныя на грамадскіх пачатках. «Афіцыйная» навука чамусьці ўпарта не жадае ні прызнаваць «феномен НЛА», ні, тым больш, яго даследаваць. Між тым, за рубяжом гэтая справа даўно ўжо пастаўлена на грунтоўную глебу. Так, у Вялікабрытаніі яшчэ з 1952 года пры міністэрстве абароны існуе сацыяльны аддзел «Паветраны штаб 2», у архіве якога, гавораць, захоўваецца каля трох тысяч апісанняў выпадкаў з'яўлення НЛА. У ЗША дзейнічае разгалінаваная сетка сачэння за неапазнанымі лятаючымі аб'ектамі і распрацоўваюцца нават сакрэтныя праграмы, звязаныя з імі. Ходзяць нават упартыя чуткі, што, напрыклад, пры стварэнні «нябачнага» бамбардзіроўшчыка «В-2», гэтак жа як і сістэмы САІ, выкарыстаны элементы «незямной тэхналогіі».

Што можна сказаць з гэтай нагоды. Напэўна, тое, што сказаў аднойчы акадэмік А. Аляксандраў: «Высокапастаўленыя вучоныя не заўсёды маюць дастаткова шырокія погляды і могуць адмаўляць, адпіхваць даследаванні, якія выходзяць за межы іх уяўленняў, тады як сапраўды навуковая пазіцыя зводзіцца да таго, каб даследаваць, а не судзіць апрыоры, што «гэтага не можа быць», памятаючы сказанае ў «Гамлеце»... «Ёсць шмат чаго ў прыродзе, друг Гараацыо, што і не снілася нашым мудрацам».

Цяжка чакаць ад прафесароў і акадэмікаў, што ў свой час строга «прасейваліся» праз сіта матэрыялістычных і «дарвіністычных» ідэй, азартна развенчвалі ў сваіх фундаментальных дысертацыях і манаграфіях тэорыі, якія датычаць анамальных з'яў і іншых «чужых нашай сацыялістычнай ідэалогіі» «псеўданавуковых» плыняў, што яны вось так адразу рынуцца даказваць імі ж неаднаразова абвергнутае.

А, можа, усё ж дачакаемся?





АВА ЮПРУС

# РАЗРЫВАНЫЯ НІЦІ НАПАЛУ

*Апавяданне*

Вы кажаце, што я мусіў бы напісаць пра вас... гэта значыць — пра нас усіх... пра гэты шэры, цяжкі подых чаду, які плюшчыць чэрап, слепіць позірк і час ад часу гусцее гнуткім гумовым бізуном, ад якога застаюцца на целе чырвона-чорныя зажывы. Вы кажаце, што я мусіў бы напісаць пра трохпавярховыя нары, якія ледзь умяшчаюцца паміж нізкімі столямі баракаў і пашарпанымі слотна-бруднымі падлогамі; пра сцены, на якіх ёсць сляды нашых пазногцяў, нажоў і думак і якія ў сваю чаргу самі пакідаюць вапнавыя сляды на нашай аднастайна-шэрай змятай лагернай вопратцы...

Вы кажаце, што я мусіў бы напісаць пра вашыя праўду і боль, пра ваша добрае і благое, пра вашыя нараджэнні і смерці, бо вы ж людзі (а не т а к с а м а людзі) і я чалавек і яны людзі...

Вы кажаце.

І ваша праўда.

Не! Не! Не! — крычыць Тоўсты са свайго кута і выцягвае да сярэдзіны сваю татуіраваную руку з далонёю, што нагадвае каменны коўш; ён нібы невядома-які-звер (вялізны вуглаваты жук са шчытом а ля Кафка? — але бязглуздасці ў ім болей, чым ва ўсім Кафку пакуты, і таму ён страшны): другою рукой ён абапёрся на край нараў, маленькая галава без шыі тырчыць з плеч, вязы пад шчытом да вушэй — Не! Яго рот змяіцца, а ў сацьмелых вачах бліскае шал: А Я! А Я! — і ён б'е каменным каўшом сабе ў грудзі. І грудзі ў яго грузныя і цяжкія, як скала. У ягонай грузнасці хаваецца небяспека, ці скарыстае ён калі сваю сілу, каб каго абараніць?

Паветра гусцее, яго цяжка ўдыхваць: нібы ўцягваеш праз зубы і глотку агідны горкі клейстар. Дым — як і цемра — не падымаецца, ён вакол нас, над намі і ў нас. Цёмна-шэры клейстар лепіць нам вочы, глушыць гук галасоў і шолах існавання. Паветра густое. Цяжкай бязладнай масай яно гняце нашы плечы, настрой, светапогляд. Тлелыя агеньчыкі абкрышаных канцоў танных цыгарэт пыхкаюць нетрывалай, дачаснай свеценню — яны не асвятляюць, а навяваюць трывогу. Блiснула вока. Дзынкнула шкло. Нешта недзе разбілася. Ці разбілася?

І Малы Оль тузае мяне — нервова, паспешліва, умольна,— за плячо: паслухай, ну, паслухай, ну, паслухай! ведаеш, я ж іх таксама, ведаеш... я ж іх таксама бачыў (я ж не ў лесе жыў!) — гэта зусім іншыя людзі,— ты што думаеш, яны толькі дзяруць, граюць? га? ці мо сапраўды, ну гэта!.. ну, ведаеш, у мяне ж таксама... мачаха, ведаеш, загадчыца музычнай часткі... у драмтэатры — ці як яго — і... гэты стары ў яе — ну, ё...— таксама нейкі там дзялок... але ведаеш, я якраз толькі выйшаў — траяк адтаптаў — у іх там нешта было, балбаталі нешта...— ай, я іх не разумею! можа, ты разумееш, я не ведаю — сядзяць і шумуюць нешта: пра пісьменнікаў і... пра нейкія карціны і... ну... ну і розную лухту, ведаеш; я сядзеў і заліваў шклянку за шклянкай; ніхто ў мяне ні пра што не пы-

таецца, хіба толькі адзін зірнуў... і адразу адвярнуўся: сц..., курвы... не, ну ты разумееш! не мог жа я там гэтак да бясконцасці сядзець, ну, не мог! — і піў, піў, піў. Узяў адначага за куртку — страшэнна шкада было самога сябе, хацеў сказаць яму (што ён, падла, ведае пра жыццё) — скрывіў такую пысу, што мне млосна стала; выкіне ж, ну! дык я яму смальнуў па зубах, што ён, сука, крывіцца: трымайся працэй, халера! будзь які ты ёсць. А тады ўсчаўся страшэнны віск, і я канчаткова адключыўся: торкнуў аднаму відэльцам, другога ляснуў графінам; і тады я ім сказаў!

— Што ты ім сказаў, Малы Оль?

О, тады я ім сказаў!

Оль сядзіць, падкурчыўшы ногі, тварам да мяне, і вочы ягоныя моляць мяне аб разуменні; за імі — нейкае няяснае захапленне, шкадаванне і прагная цяга... да чаго? Куточкі вуснаў у яго ўздрыгваюць у самашкадобе, а тым часам нехта ляпае яго па спіне: малайчына, Оль, вядома ж, ты сказаў ім, ставім; і Оль пачынае ікаючы смяяцца.

Колькі табе далі, Оль?

Шэсць... гадоў...

Але якая розніца, атрымаў бы ён шэсць або сем гадоў, на сёння ён адседзеў ужо поўных дзесяць — чаму, чаму я яго зараззаў? жаліўся ён мне нейкай шалёнай ноччу, калі выгнанае з дрожджаў і цукру гарэлка — брага — зноў абмыла ўнутраныя заслоны. Свайго сябра яму цяпер шкада, ой як шкада! Не ён мусіў атрымаць нож у бок, не ён — плача Оль і сёння...

Сёння... учора... якая розніца. Пры такіх доўгіх тэрмінах час ужо болей не цэніцца — абы толькі напіцца, каб зразумець іншых і сябе; абы толькі напіцца, каб не разумець... каб было лягчэй... цяжэй... Якая розніца! Усе дні аднолькавыя, чым яны розняцца адзін ад аднаго? Пераклічка? Абед? Зносіны? Але ж усё гэта паўтараецца з ачмуральнай паслядоўнасцю дзень за днём, год за годам... страшна.

Ваша праўда. Наша праўда. Іх праўда.

Мы ж усе... мы ж... людзі.

Бутэлечка з каламутнай бялястай вадкасцю, што нагадвае сперму — сперму СМЕРЦІ! — перакульваецца; хто трасянуў шафу!? хто штурхануў тумбачку?! Лаянка, глухі ўдар у рэбры капашліваму старому, што споўз з нараў: знікні, падла! Рука, што зноў ставіць бутэлечку вертыкальна і зноў акунаецца ў цемру... Божа, як я стаміўся ад усяго гэтага... як я стаміўся... стаміўся...

На стале мутная белая пляма: сталовая лыжка брудны дурманлівай ўцехі, у якой плаваюць дробачкі тытуню... атрутна-горкай махры... Дрыготкая, напэўная рука падцягвае бліжэй саракаватную лямпачку, што боўтаецца на канцы дроту. І попелу, і трошкі крыві ёсць у гэтай лужыны... у гэтым жыцці...

— Вату, вату, вату! — стогне званы Боцманам і бязлітасна разрывае сваю падушку з шэрага сукна: страката-бурая баваўняная вата вылазае з убогага меха.

Пачакай!

Дай!

Я сам!

Некалькі рук цягнуцца да лужынкі... завісаюць у паветры... Пальцы мацаюць навослеп, нібы шчупальцы... тады аднекуль з'яўляецца алюмініевая лыжка, да якое трохпальцая пясць накіроўвае вадкасць, ведучы рабром паўз край стала...

З вачэй знікла абыякавасць, замест яе з'явілася напружанасць, якая мусіць кампенсаваць, заступіць зніклую даўкладнасць рухаў: ніводная кропля не павінна прапасці... Так, лыжка амаль поўная — частка вадкасці наліваецца у бутэлечку — чуецца сапучы подых Боцмана; Малы Оль увесь напружаны, нават сляза замерла ў яго на шчацэ і не коціцца далей... Паветра напінаецца... Тады нехта на верхніх нарах пачынае хрыпата кашляць.

На адвіслым азызлым твары Фіксы здранцвенне, калі ён дастае прыладу. Пяцікубавы шпрыц, шкляны саўгач якога свабодна ходзіць сюды-туды, між яго тупых пальцаў — як мандат на часовыя прывілеі: мы трохі расступаемся, каб не замінаць...

Ён бярэ самую вялікую — шасцярную — іголку, пасля кідае позірк на густую дрыготкую вадкасць у лыжцы і хітае галавой. Ён торкае іголку ў свае няпэўнага колеру выцвілыя спаднікі. Над каленам. І накручвае маленькі камячок ваты на край шпрыца. Тады саўгач пачынае павольна падымацца ўгору. Шпрыц напаўняецца каламутнай вадкасцю, паветранымі бурбалкамі і яшчэ нечым: тым, дзеля чаго мы замёрлі ўтрапёна вакол лыжкі...

Фікса падымае шпрыц да вачэй: яго рукі не надта дрыжаць, толькі час ад часу міжвольна ўздрыгваюць; позірк саракагадовага — ён з нас найстарэйшы — нечакана востры, дый у запалых абвіслых шчоках і ў заінелых зморшчынах пад вачмі ўзнікла нейкая васковая цвёрдасць...

Свято!

Чатыры рукі — на двух з іх меней чым пяць пальцаў — хапаюцца за лямпу...

Шмат...

Мала...

Два кубы!

Апошнія колы...

Кожнаму па два...

Як дамаўляліся.

Сціхніце!

Вялікі Кале выцягнуў руку — яна даўжэйшая, чым у Тоўстага, хоць на ёй і няма мезенца; у васьмёх месяцах вены на гэтай руцэ перарэзаны, можна сказаць — перарублены... у самым ніжнім месцы ляснулі і жылы... шнары блішчаць і вязка мускулаў уздрыгвае, як на назе ў каня... Паасобныя вузельчыкі і гарбочкі пазначаюць яшчэ прыдатныя кропкі на жылах. У самога Фіксы рукі друзлыя і без адзінае жылачкі, як у прыстарэлай жанчыны, якая ніколі не працавала; у яго агідна белая скура... Вены згарэлі дашчэнту ад засмактанага з сотняў шпрыцаў палючага току белае смерці, бруду і насалоды...

Рука ў Кале вышэй ад локця сцягнута брудна-белым ручніком; яго вялізная пясць то сціскаецца, то зноў адкрываецца... кроў зацякае ў яшчэ дзейныя абрыўкі вен. Нечакана на руцэ набухае доўгая сіняя змейка — цэлая вена!

«Туда я с закрытыми глазами попаду»,— усміхаецца Фікса і ўстаўляе іголку ў шпрыц, які ён усё яшчэ трымае старчма. Тады ён выціскае з шпрыца паветраныя бурбалкі, яны лопаюцца на канцы іголкі. Па іголцы сцякае ўніз мутная сляза.

«Досыць, досыць»,— цяжка хітае галавою Кале. Яго вочы хваравіта блішчаць, рука з выкачанымі венамі скурчылася, як ад сутаргі; яму шкада выцеклай кроплі...

Фікса нахіляецца і левай далонню абцірае кроплю з іголкі. Вялікі Кале глытае сліну. Яшчэ некалькі чалавек глытаюць сліну... Апошнія таблеткі... Павінна хапіць на ўсіх.

Скура прагінаецца пад іголкай. З агіднае складкі відаць, што іголка тупая, а скура тоўстая — мы стойваем дыханне — і лёгка пстрыкнуўшы іголка праколвае скуру. Мы ўсе сочым з высахлымі вуснамі, як вена з абвапнелымі сценкамі некалькі разоў выслізгвае ўбок... але ўрэшце вастрыё ўпіваецца ў яе і наша дыханне пачашчаецца; Кале ўздыхае з палёгкай... У шпрыц чырвоным дымам зацякае цёмная кроў... і тады гасне лямпа...

Падла!

Сука!

А над усім — патрабавальны, умольна загадны голас Вялікага Кале: «Выціскай усё, Фікса, выціскай»! Ні хвіліны нельга болей цярпець, чакаць...

Тады Чорнаму Аліку ўдаецца зноў запаліць лямпу. Мы бачым, што Фіксаў твар ні каліва не змяніўся; яго рукі ўпэўнена трымаюць шпрыц, і каламутнай вадкасці ў ім ужо напалову меней. На лобе ў Кале перлінамі блішчаць кроплі поту, ён аблізвае вусны і з заплюшчанымі вачыма паўтарае свой стогн:

«Выціскай, выціскай...»

Калі ён кажа: «Адцягні трохі назад...», язык у яго ўжо спатыкаецца і словы нібы мімаволі падаюць адно за адным на гразкую падлогу.

У прыладу зноў зацякае вадкасць: цяпер гэта цёмна-чырвоная, амаль чорная кроў з бурбалкамі ля краю. Тады Фікса хуценька выціскае змесіва шпрыца... Кроў разам з атрутай, хлюпнуўшы, вяртаецца ў вену.

Твар у Кале дзіўна млее ў шчасным спакоі, вочы прыплюшчваюцца, але яго вялізныя рукі, непадкантрольныя розуму, сціскаюць край коўкі — Фікса трымае калені на бяспечнай адлегласці: нейкі год таму Кале гэтак вось (міжвольна) зламаў званаму Доктарам зняволенаму кволую цэўку...

Вялікі Кале, усё гэтак жа нерухома здранцвелы, са свістам уцягвае праз рэдкія зубы ў грудзі ладную порцыю паветранага клейстару і падае наўзнак на нары. І толькі рукі ў яго яшчэ жывуць незалежна ад чалавека, сам ён адсутны, як мумія. Божа, як саслаб ягоны арганізм! Яшчэ пару гадоў таму ён вытрымліваў амаль у чатыры разы большыя дозы... Але чаго толькі не ўмясцілася ў гэты час, нягледзячы на аднастайнасць дзён або якраз дзякуючы ёй! Пад сэрцам заварушылася халодная змяя сумлеву: значыць нешта ўсё ж такі мяняецца...

Расплывістай бялястай лужынай валяецца ручнік на бруднай падлозе...

Я гляджу на сябраў скуласты твар: запалыя скроні, цёмныя сляды над скуламі, сіняк пад левым вокам, і мяне гіяце роспач — чаму? Нягледзячы на прыгнечанасць, я шчаслівы, што ў Кале цяпер будзе нейкая часіна спакою...

Пачынае задаволена раўці Тоўсты — і ён атрымаў сваю норму; ён калываецца на краі нараў, і ягоныя рукі-дубіны звісаюць да зямлі, але канчаткова ён не адключаецца. Мяккім языком ён спрабуе некаму нешта даказваць, але ні той, дый ніхто іншы не разумеюць ягоных слоў, яго думак, ні яго самога...

Фікса цягне мяне за рукаво, я хітаю галавой: хай я буду апошні. Нешта сціснулася ў грудзях, я выкашліваю гэтае нешта... пад сэрцам нібы рвецца нешта... неістотнае — суцяшаю сябе — але да рэшты зношанае... мне баліць... ад гэтага папярэджання...

Ніхто не можа нам дапамагчы. Нікому з нас. Я не думаю, каб нехта з нас уявіў сабою нейкую асаблівую вартасць; калі не лічыць вартасцю тое, што тут справа ідзе аб людзях, дык няма сэнсу шукаць дзеля доказу і іншыя сродкі і, напрыклад, на манер Тоўстага, біць сабе кулаком у грудзі. Істотна толькі тое, што так нам не можа дапамагчы ніхто. Ні Малому Олю, які крывавым ручніком размазвае па твары слёзы і зноў плача па сваім сябры; ні Чорнаму Аліку, які, разявіўшы рот і напружыўшыся для скачка, паспешліва дыхае і падсвядома сціскае рукой другую руку вышэй локця; ні Кале, ні Тоўстаму, ні Фіксу, ні мне, ні Куксу, ні Боцману — нікому.

Толькі гэтая атрута можа адчужыць нас ад нашага адчужэння, ад вечных ісцін, ад іншых... ад усіх... і ад сябе самога, і ад таго абуджанага адчужэннем гнятлівага болю пустэчы...

Оль пачынае смяяцца, як дзіця: ручнік вісіць анучай у яго ў руцэ, галава закінулася назад і кадык выдаецца на худой шыі (хлопец важыў гэтай восенню — не, гэта было ўсё ж вясною, але якая розніца, ну так, тады, як прывязджаў аўтобус з рэнтгенам — пяцьдзесят чатыры кілаграмы... разам з кірзачамі); Оль смяецца, на шчоках сляды бруду і крыві. І я хліпаю разам з ім.

Чорны Алік кажа нешта на сваёй мове і вылазіць у прамежак між нараў. Пасля падае наўзнак. Я хачу пайсці яму дапамагчы, але ён сам, учапіўшыся рукою за край, залазіць на нары. Там спіць малады хлопец, з-за якога Алік нядаўна выбіў Насяру сківіцу. Цяпер ён карыстаецца сваім правам уласніка і залазіць на нары да трэцім паверсе і кладзецца побач з хлопцам. Хлопец — у сапраўднасці ж нікому з нас тут яшчэ няма і трыццаці, падумаў я,— хлопец прачынаецца і не пратэстуе. Дый што б гэта змяніла. І ці так важныя час і ўзрост: наш час спыніўся, наш узрост няпэўны; мы збіваемся ў ім бязмэтна: вар'яцеючы ад нягодаў або атупела пазіраючы навокал... Навокал і міма. Мяняецца толькі месца і настрой: але што ў тых зменах, калі яны не маюць нічога агульнага з вечнымі ісцінамі? Калі мы, нягледзячы на сваю адасобленасць, з'яўляемся рабамі, нягледзячы на самалюбства — самагубамі, якія не верацъ ні ў Жыццё, ні ў сябе саміх. Так ці гэтак, некалі мы канчаткова змарнуемся, як гадзіннік з драўлянымі шасцернямі ў зусім забытым, але часам прыгадваным сне...

Фікса штурхае мяне, я разумею, што ён сам хоча застацца апошнім: калі старанна дзяліць, дык апошняму застаецца трошкі болей. Я заглыбіўся ў свае думкі і боль — горкі клейстар вакол мяне нібы канчаткова застудзянеў — я ўжо нават і не сачыў за шпрыцам. Фікса сам паказвае мне, што маё два кубічныя сантыметры атруты — а можа і крышачку болей — у шкляной трубцы. Фікса па-свойму папярэджвае мяне. Тады ён аддае мне на хвілінку шпрыц і праз вузкую шчыліну між вуснамі і зубамі ўцягвае крывавы бруд і каламуць разам з ватнымі камячкамі,— усё, што заставалася на лыжцы. Я з агідай адварочваюся ўбок, мяне б'е дрыготка: ведаю, што зараз яго пачне ванітаваць — хоць у яго вен амаль няма, мог жа хоць бы патрымаць руку ў гарачай вадзе і ўжо як-небудзь... Зубы ляскаюць аб край літровага слоіка, Фікса п'е, прымушаючы сябе, вялікімі гвалтоўнымі глыткамі. Мімаволі гляджу ў яго бок — вочы ў яго вылазяць з арбіт, глыткі чутны на ўсю камеру... ён мусам выпівае слоік да дна, перамагаючы



сябе, ці, дакладней, пратэст свайго кішэчніка. Яго азызлы твар робіцца сіні і проста страшны, калі ён, жадна хапаючы ротам паветра, высмоктвае поўны слоік брагі. Я не ведаю ніводнага іншага наркамана, якога б пасля такога не званітавала; шмат каго ванітуе ўжо толькі ад паху барбітурату, іншых — калі колюцца...

Тоўсты, абапёршыся на тумбачку, прыўстае і нешта шукае. Ён знаходзіць маленькую бутэлечку, у якой мы разводзілі белы парашок і дзе — нягледзячы на Фіксаву старраннасць — яшчэ бялее на дне сумесь; ён цягне руку па шпрыц, я прымаю руку; паказваю, што я яшчэ не атрымаў сваё... Тоўсты раве, і ў вачах у яго бліскае хцівасць. Вядома — піў жа я нядаўна ягоную гарэлку — чаму б мне сёння не адмовіцца ад гэтай пары кропель... Але не, яны ж апошнія! Штурхаю, каб прыспешыць, Фіксу, які яшчэ не скончыў ікаць, і сую яму ў руку шпрыц. Крывячы страшныя грымасы, ён схіляецца над маёю рукой.

У мяне яшчэ параўнальна добрыя шырокія мяккія, але трошкі сплюснутыя вены. Іголка лёгка ўваходзіць у іх. Адзіная небяспека — можна праправаць вену наскрозь. Калі гэта адбываецца незаўважна — калі вена не рвецца і «лекар» не падпраўляе іголку — і дурманлівая атрута трапляе ў мышцу або пад скуру, тады рука распухае, прыемная хваля запавольваецца і губляе большую частку вастрыні, прыглушаецца. Не кажучы ўжо пра тое, што цвёрдая, як камень, пухліна баліць вельмі доўга. Але Фікса не пачатковец і гэткіх памылак ён не робіць. Да таго ж ён яшчэ не ў чадзе — бо зелле дзейнічае праз страўнік і кішэчнік не так хутка, каб хваля забыцця замяніла цяпер укольшчыку.

Вось ужо іголка шукае маю вену. Пад сэрцам разліваецца насалода і я адчуваю першы подых прыемнасці, калі вастрыё беспамылкова ўпіваецца ў жылу. Я бачу, як мая кроў зацякае ў шкляную трубку, мяшаецца з бруднай бялястай вадкасцю — я слабею, нібы аддаючы частачку сябе. Вусны мае шэпчуць словы, якія мой розум не кантралюе; вочы ўтаропіліся ў шкляную трубку... Тады Фікса павольна ціснe на саўгач, і мне ў роце робіцца горка — сплёўваю — саладкі дурман цячэ ў галаву і я ад усяго аддзяляюся і да ўсяго далучаюся... Вадкасці ў шпрыцы яшчэ на пару дзяленняў, я даю Фіксу знак, каб ён разочак адцягнуў саўгач назад — кроў зноў зацякае ў трубку — гэта доўжыць насалоду... і тады хлюпае канец (муць, дно, кроў, атрута, асляпленне) назад у мае жылы... я адчуваю, як крона майго жыланоснага дрэва варушыцца ад наркатычнага ветру... і я цяжка ападаю на калені. Застылым позіркам я ўтаропліваюся ў чорную цемень пад нарамі, ні пра што не думаючы... не нервуючыся... не пакутуючы... Рот мой раскрыты, вусны абвіслі, складкі вакол рота саслаблі: адзіная напружаная частка майго цела — вялікі палец правай рукі, які сутаргава сціскае руку побач з дзірачкай ад шпрыца, адкуль павольна струменіцца мая кроў.

Апошняе, што я чую, гэта нялюдскі голас, які вывяргаецца з Тоўстага разам з патокам ванітаў. Ён наліў у бутэлечку вады і разам з ёй уцягнуў у глотку горкую сумесь.

Але мяне ўсё гэта не цікавіць.

Я не бачу, як Фікса ўжо адсутным знясіленым рухам хавае прыладу; не чую, як ачмурэлы Алік шукае блізкасці са сваім хлопцам; не адчуваю мулкую паспешлівасць думак, якія ўрэшце безбалесна спыняюцца... як і час...

Я цяжка валюся на бок.

І тады разбіваецца лямпа.

**Пераклаў з эстонскай**
**Сяргей ШУПА**

**Калі ў часопісе «Нева» з'явілася аповесць У. Рэкшана «Кайф», многія ўспрынялі яе зусім неадназначна. Зрэшты, няма чаго здзіўляцца — гэта ж было па сутнасці першае ў нашай літаратуры сачыненне пра рок. Прычым, напісанае ў стылі рок і адпаведна аранжыраванае.**

**У. Рэкшан піша пра тое, што добра ведае. І гэта, відаць, галоўная вартасць яго «Кайфа».**

**Для нашага часопіса У. Рэкшан прапанаваў старонкі сваёй новай аповесці. Мяркуем, што прачытаць яе будзе на карысць не толькі фанам року.**



Фота Андрэя УСАВА
*г. Ленінград*

Уладзімір РЭКШАН,
спецыяльна для «Крыніцы»

# КАЙФ-2

## УРЫВАК З АМАЛЬ ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ АПОВЕСЦІ

Маё жыццё ў мастацтве было беднае і спакойнае дзесяць гадоў. Хаця і пачалі паціху друкаваць, але за гэты час я так напіўся літаратурнай мулі, што ўсё часцей стаў азірацца на рок-н-рол, ад якога ў сярэдзіне 70-х уцёк да, як мне здавалася, больш «чыстага» мастацтва. Жыццё было беднае... пакуль я не атрымаў у выдавецкай касе адразу тры з паловай тысячы — «рэшткі» за кнігу прозы «Трэці закон Ньютона». Гаспадары кааператыўных прыбіральняў могуць, пэўна ж, пасмяяцца, але я пачаў ставіцца да сябе з большай павагаю.

Так скончылася беднае ды спакойнае жыццё. Я дапісаў «Кайф» — мінула зіма. Я аднёс «Кайф» у часопіс «Нева» і ў выніку цудоўных пераўтварэнняў аповесць хутка трапіла ў рукі да Барыса Мікалаевіча, які толькі што вярнуўся з пленума СП РСФСР. На Пленуме кожны аратар чамусьці згадаў рок-н-рол. Для адных гэта — знішчэнне маральнага і нацыянальнага, для другіх — рок-н-рол нібыта падрыхтаваў перабудову. Я не думаў ні так, ні гэтак. Я проста трымцеў, як асінавы лісток, пакуль галоўны рэдактар знаёміўся з рукапісам.

Мяне выклікалі праз месяц. Я прыйшоў. Я сеў у крэсла каля велізарнага стала. Мне сказалі:

— Будзем друкаваць, але трэба скараціць.

— Без усялякіх сумненняў,— заплакаў я і пайшоў падпісваць пагадненне, пайшоў у касу па аванс, паляцеў на таксоўцы да сям'і — па дарозе таксіст-гіпнацізёр загаварыў мне зубы і сцягнуў грошы. Але ўсё гэта былі яшчэ даволі бедныя і спакойныя дні 1987 года.

У траўні нарадзіўся сын.

У чэрвені нечакана сабраўся «Санкт-Пецярбург» і вылез на рок-фестывалі, але пра гэта ўжо напісана.

Увосень я пераўтварыў Семінар рок-паэзіі ў танцавальна-вакальны калектыў недаросткаў і пачаў вар'яцець. Юрый Казакоў пісаў пра гэта — пра чаканне. Лепш, калі адмаўляюць адразу — гэта значна хутчэй. А тут... Ідуць месяцы, ідуць гады і зносяць адзінае жыццё. «Кайф» паабяцалі выдаць вясною 1988. Размова ішла толькі аб годзе, палова ўжо мінула.

Кавалёў і Карзінін прыходзілі на Семінар і з даверлівым неразуменнем глядзелі, як Семінар спявае і скача пад мае дванаццаць струн, якім паддае пал Андрэй Халерык. Мы вырашылі паўакустычным складам «СПб» катануць праграму ў Выбарзе — далей ад сталічнай сцэны.

Хор недаросткаў не паехаў, бо ў нанятым аўтобусе не было для іх месцаў. Яны потым прыехалі самі — пакрыўджаныя, зусім п'яныя, за дваццаць хвілін да пачатку. Мы якраз рыхталіся ў артыстычным пакоі. Хлапчукі выбілі недзе шкло, рукі парэзалі, ходзяць у крыві.

Хутка канцэрт, а недаросткі лезуць на сцэну спяваць і скакаць.

Лірычная песня — недаросткі палохаюць дзяўчынак, твістуюць на сцэне і ўсё павялічваюцца ў колькасці — гэта скачуць на сцэну тыя, хто зразумеў пачатак канцэрта як заклік да дзеянняў, а я спяваю сваю лірыку і думаю: «Калі ж гэта скончыцца? Стары ты ўжо малады пісьменнік». На сцэне, як у тупой дыскатэцы. Недаросткі ірвуць праводку, падаюць у залу з маніторамі — і канцэрт спыняецца.

Я ганю недаросткаў з-за куліс выспяткамі, мы з напалоханымі дзяўчынкамі грузімся ў аўтобус — а праз нейкі час мясцовая газета друкуе артыкул, дзе хлусяць, быццам гурт «Санкт-Пецярбург» быў п'яны, нахабны і гэтак далей.

Тым часам з'яўляецца карэктура і высвятляюцца адносіны з цэнзураю: здымаюць назвы наркотыкаў і слова «бля». З першым я згодны, з другім — не. У Арцёма Вясёлага есць, у розных іншых ёсць, а мне прапануюць змяніць на «мля». Пісьменнікі, падобна на тое, падзяляюцца на касты, і «бля» дазваляюць толькі вышэйшай.

Але я раблю хітры фінт — пакідаю «бля» ў тэксце — значыцца і я ў вышэйшай пісьменніцкай лізе.

Але ўсё ж лепшы месяц у маім жыцці — сакавік. Ад «Кайфа» ідзе водар друкарскае фарбы, а я чакаю невядомага. Павінна нешта здарыцца. Гэта мая першая класная штука. Трымаю першы ліст:

«Паважаны Галоўны
рэдактар!

Прачытала ў «Неве» № 3 аповесць Рэкшана «Кайф»... Сумна і нудна. Адзін кайфалом. Яго творчы ўзровень не ўздымаецца вышэй дрыганогства, быццам чалавек распранаецца да ўласных шкодных комплексаў. Ну а ў канцы Рэкшан дакатваецца да такой мярзотнасці, як пасквіль... Зайздрасць «к племени младому, незнакомому» засланяе Рэкшану вочы і перашкаджае жыць... Яму трэба быць функцыянерам, а не пісьменнікам... Да моладзі падпускаць нельга!»

Удар у паддых, але ж гэта няпраўда. Я пачынаю пакутаваць, нарэшце з Казані:

«У кайф! М-м-м! У кайф!

Уладзіміp, гэта — труба, гэта — вілы. Проста свята нейкае. Ай лав Вова, ай лав «СПб»!!!»

Дзякуй Богу, думаю я, плюралізм — дажылі ўрэшце рэшт... і з усмешкаю чытаю ліст з Кішынёва.

«Паважаная Рэдакцыя!

...у апавяданні «Кайф» Ул. Рэкшана шмат што рэжа вочы (вушы). Не ведаю, ці быў Ул. Рэкшан музыкантам, але ён зрабіў, на мой погляд, некалькі памылак... Выкажу думку, што аўтар злоўжывае жаргонам... Адным словам — не ў кайф!..

А ўрэшце: ці магу я надрукаваць у «Неве» свае вершы і што дзеля гэтага трэба?..»

Усё а'кей: на шалях плюралізму ўсяго толькі 2:1, не на маю карысць, але тут у прарыў ляціць герой Сцерлітамак:

«...І вось «Кайф». Выдатна! І як гэта змаглі надрукаваць? А мо і сапраўды — галоснасць, ці што? А можа — дэмакратыя? Але чорт з ёй, з гэтай дэмакратыяй! Ёсць «Кайф». Я ўяўляю пакуты аўтара — цябе, Валодзя. Ты здзейсніў амаль подзвіг!..»

Не, не было подзвіга. Проста я хацеў расказаць праўду, кажучы паўпраўдаю, бо падабаецца людзям праўда. Усялякая асабістая (і аўтарская) праўда толькі зярнятка, і я кінуў гэтае зярнятка рок-н-рола «Кайфам», а таму мне — і сінякі, і лаўры... Ага! Прарвалася, адарваўся ад літаратурнага мелітона, які ўсё сцеражэ і гатовы з'есці за дзёрзкасць...

Лістоў было шмат, і большасць — «за». Газет было менш, але даваць інтэрв'ю да ганебнасці прыемна. У жніўні на пару дзён ад Юрыя Шаўчука ўцёк Мікітка Зайцаў, і мы бабухнулі на зімовым стадыёне, дзе праходзіў VI фестываль Рок-клуба, канцэрт-хор дзяўчынак спяваў і скакаў. Карзінін — гэта Юпіцер, я бегаў у шортах па сцэне і ездзіў на Мікітку, як Хама Брут на чорце, і ўсё было ў кайф, а «Рускае відэа» ажно фільм зняла пра наш гурт, і не так даўно «Советский экран» абвясціў, што фільм пайшоў. Пайшоў, напэўна, прэч, ці яшчэ куды — не ведаю, не бачыў.

Улетку мы амаль нарасхват, але старасці больш, чым гонару, і таму толькі ў Чарнігаве зрываем за два аддзяленні не скажу колькі сотняў, а пасля — о, украінская ноч! — ляжым на свяшчэнным славянскім узгорку між храмаў, і побач з намі каністра не скажу з чым, а купалы — быццам ляцяць разам з часам у вечнасць...

Якая розная восень у Санкт-Пецярбурзе. Нават калі жывеш на Малой Мяшчанскай з жонкаю і дзіцяткам у дзевяціметровай камунальнай халупе з відам на сметнік, нават калі бывае ўвосень шчаслівa і спакойна — ты, здаецца, здабыў баланс, адбіў хоць на шэлег тэрыторыі ў той краіне, што завецца Незалежнасцю, і ў той новай краіне чуваць твой голас...

І вось увосень званок, а на маё цяпер незалежнае «Калі ласка»:

— Нам трэба сустрэцца. Гэта гаворыць Вялікі Чалавек Шоу-Бізнесу.

Я не адразу пазнаю яго, ВЧШБ, але згаджаюся. А пасля згадваю, што двойчы напісаў пра яго ў «Кайфе» непахвальна, але імя не назваў.

Восень ужо сухая, залатая, кволая. «Осень — счастливое время рожденья»,— гэта са старога рок-н-рола.

Я знаходжу каля Казанскага ягоную чырвоную тачку і адчыняю дзверы.

— Дзень добры,— кажу.

— Дзень добры,— кажа.

Саджуся побач і запамінаю, што ў ВЧШБ чаравікі «бундэсовыя», вочы ветлівыя, а твар паголены.

— Валодзя, скажы: «Санкт-Пецярбург» — гэтую назву ты прыдумаў?

— А як жа! — усклікваю радасна, думаю атупелымі ад прызнання мазгамі: «Гэта ж у галаве не ўкладваецца! Мяне ведаюць цяпер і ў свеце Шоу-Бізнеса» — А як жа! Гэта было ў адна тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят дзевятым годзе!

— Ах, які час мінуў,— ВЧШБ журботна ківае, а пасля:

— Ты не будзеш супраць, калі з'явіцца гурт «Санкт-Пецярбург-II»,— кажа са смуткам, але дадае без сантыментаў: — Хаця твая згода і не патрабуецца.

— Гэта чаму?!

— У нашай краіне гэта не замацавана.

— Няўжо? — цікаўлюся я і ніякавею, бо ведаю сябе: палову жыцця амаль не сутыкаўся з дзяржаваю: і дзе ў дзяржаве, якая толькі збіраецца стаць прававой, шукаць правы?

— Але пра ўсё гэта... чытаў відаць?.. Амаль Евангелле... амаль ад Мацвея... амаль...

— Чытаў, вядома, таму і згадаў. Такая назва гіне.

— Дык яна і не гіне. На апошнім фестывалі выступілі класна, фільм зняты.

— А хто вас у Ленінградзе памятае? А я раскручу. А Рок-клуб — гэта аматарская тусоўка. А я — супергурт па законах Шоу Бізнесу,— кажа ВЧШБ, а пакуль я моўчкі думаю, працягвае: — Ёсць другая прапанова... Ствараецца «Музычны Цэнтр Імя Мяне». Будзеш маім літаратурным рэдактарам. Хочаш быць маёй правай рукой?

«Рукі ў яго ёсць. Навошта мне станавіцца яго пратэзам?»

**Заканчэнне будзе.**

**Падрыхтаваў і пераклаў на беларускую мову Уладзіслаў АХРОМЕНКА**



Фота Наташы ВАСІЛЬЕВАЙ *г. Ленінград*

Сяргей КАЛЕНІК

# КОРАНЬ ЗЛА

У разгары чарговы навучальны год. Апошнія публікацыі перыядычнага друку зноў, як і ў мінулым, так і ў пазамінулым годзе, уздымаюць праблемы народнай асветы, нягледзячы на дэклараваную яшчэ ў сумна памятны застойны час РЭФОРМУ ШКОЛЫ.

«Якая школа нам патрэбная?», «Школа на шляхах абнаўлення», «О дайце, дайце мне свабоду!..», «Пачаць з сябе», «Тварам да школы» — гэтыя і многія іншыя думкі работнікаў асветы як у рэспубліканскіх, так і ў раённых органах друку паказваюць, што па-ранейшаму застаецца адкрытым пытанне, якое вось ужо некалькі гадоў стаіць перад нашай грамадскасцю: ЧАМУ ШКОЛЬНАЯ РЭФОРМА «ПАКУЛЬ БУКСУЕ»?

Адной з галоўных прычын тармажэння школьнай рэформы, лічаць многія настаўнікі, у тым ліку і Герой Сацыялістычнай Працы са Столінскага раёна Брэсцкай вобласці Н. Кавалец, з'яўляецца тое, што, як вобразна кажа гэты паважаны педагог, у многіх школах няма калектыву, іржа звадак, груповак, ананімак раз'ядае, зводзіць на крупінкі каштоўнага, здабытага потам, усім жыццём — металу педагогікі (згадаем Ільіна, Шаталава...)

З гэтым цяжка не згадзіцца. Але гэта, вобразна кажучы,— адно крона. Паспрабуем прадоўжыць думку Н. Кавалец, але зазірнуць углыб, у корань. Так, звады, групаўшчына, ананімкі (гаворка, вядома, не пра ўсе школы), а чаму?

Сакрэту ніякага няма. Стаўка настаўніка — 18 «гадзін», інакш кажучы, 18 урокаў на тыдзень: тры ўрокі на дзень. Дзве, тры і г. д. стаўкі свабодныя (недахоп спецыялістаў у сельскіх школах, хвароба, адпачынак, дэкрэт у гарадскіх школах). Адміністрацыі праца гэтыя стаўкі каму-небудзь аддаць, іншымі словамі — павысіць некаму зарплату ў паўтара, а то і ў два разы. Хто адмовіцца ад павышэння сваёй зарплаты?

Павысілі. Яму. А чаму не мне? (Майму мужу, дачцэ, маладому спецыялісту?) Чым я (і яны) горшы? Чаму мяне не заўважаюць? Незадаволеныя як чалавекам? Але я чалавек нібыта і нядрэнны. Не! Як верагодным кандыдатам у іхняе крэслы? Так, з падвоенай стаўкаю я больш за іх зараблю. А можа, што больш за ўсё крыўдна, як спецыялістам? Дык ва ўсіх — вышэйшая... І ва ўсіх — курсы павышэння, на якія я ўжо не раз ездзіў (ездзіла). Дый працую я ўжо столькі гадоў... Ці наадварот: я ж толькі што з універсітэта, у мяне ж усё самае свежае, перадавое, перабудовачнае, не тое, што ў пенсіянераў...

Спачатку зайздрасць. Потым крыўда. Потым звады. Потым групаўшчына. Потым ананімкі. І нарэшце праверка «зверху». Школу ліхаманіць.

— Што замінае па-сапраўднаму працаваць?

— Хто хоча выказацца?

Ніхто. Бо ў наступным паўгоддзі зноў будуць ПАВЫШАЦЬ. Некаму. І ўсё. І ўсё — па коле. І крона (плёткі, звады, групоўкі, ананімкі) разрастаецца, пышнее і дае, натуральна, свае вынікі (зайздрасць, нянавісць, падседжванне, сексоцтва), якія дастаюцца, натуральна, і вучням — нашай будучыні. Бо школа — гэта яшчэ і нашая Будучыня.

Вось такая, утрыраваная, вядома, завостраная да мяжы карціна. Вось корань зла. А ёсць і каранькі. Ёсць факультатывы (аплачваемыя), ёсць гурткі (аплачваемыя і неаплачваемыя, напрыклад, В1А — 40 р. і драм.— 0 р.), вядомыя ўсім кабінеты (у аплачваемых сцены не праглядваюцца за наглядным афармленнем і наадварот). І ўсё гэта можна сабе (жонцы — мужу — дачцэ), сябрам, прыяцелям, знаёмым накінуць пасля аб'яўлення нагрузкі. Гэта ж не ўрокі. Запісаў у часопіс — атрымаў.

Капнём яшчэ глыбей.

Працаваць у трох розных класах ці ў трох паралельных. Ёсць розніца? Вядома. У першым выпадку часу і сілы на падрыхтоўку ідзе ў тры разы болей, чым у другім. Напрыклад, перачытаць, прааналізаваць і выкласці тры мастацкія творы ці адзін? Абдумаць і падрыхтаваць тры планы ўрокаў ці адзін? Аплата ў першым і другім выпадку аднолькавая.

І зноў на педсавеце пасля аб'яўлення нагрузкі («гадзін») — крыўды, слёзы, скандалы і нават істэрыка. Ці яшчэ глыбей.

У класе былі тры двоечнікі. Памяняўся педагог. Ён здолеў зацікавіць іх сваім прадметам, падняў да «сераднякоў». А «сераднякоў» — да выдатнікаў... А аплата работы былому настаўніку і педагогу, які змяніў яго, адна і тая ж — пагадзінная. Была і ёсць. (Званні даюць завычай перад пенсіяй, калі ўжо само сабою — Заслужаны.)

Да чаго прыводзіць ураўнілаўка ў аплаце працы, мы ведаем. Але да настаўніка гэтага не стасуем. Так, ён самы свядомы. Тым больш, ягоную цяжкую, «на нервах», працу трэба ацэньваць па яе вартасці. Бо праз адсутнасць іншых магчымасцей зарабіць настаўнік і бярэ «лішнія» гадзіны. А каб зраўняцца па зарплаце, а значыцца, па матэрыяльным узроўні жыцця, скажам, з сярэднім рабочым, настаўніку трэба «ўкалываць» на дзве стаўкі. Гэта той самы канвеер. А мы патрабуем, дакладней, нашае перабудовачнае сённяшняе патрабуе ад настаўніка творчасці. Ды для творчасці патрэбная процьма часу! Патрэбнае ўсё (шаталаўскае) жыццё. Але далёка не кожны, як Шаталаў, можа ці хоча абыходзіцца мінімумам матэрыяльных здабыткаў і пры гэтым працаваць з максімальнай аддачаю.

Вось тут мы і падыходзім да самага галоўнага. Да здабывання кораня.

Спытайцеся ў любога педагога: «Колькі ўрокаў можна правесці, не страчваючы ў іхняй ЯКАСЦІ, з поўнай аддачаю, на максімальна высокім узроўні і ў той самы час — не паказаўшы, як нарастае і нарастае стома?» Інакш кажучы, даць урокі, калі хочаце, з задавальненнем. (Бо задавальненне і сатысфакцыя настаўніка на ўроку і ад уроку імгненна перадаецца вучням.)

І кожны настаўнік, ад маладога спецыяліста да вопытнага педагога, вам адкажа: «Тры ўрокі». А калі (пры наяўнасці ў тыдні метадычнага дня) прыходзіцца праводзіць сем-восем урокаў? А калі дзесяцьадзінаццаць? (Пры тым, што аплачваецца не больш трыццаці шасці гадзін, а ўсе «лішнія», але праграмныя ўрокі — бясплатныя.) Дый пасля што-небудзь з класам рэпеціраваць, дый увечары — педсавет ці сход, ці палітзаняткі, ці ДНД, плюс яшчэ звычайна нейкая грамадская нагрузка?

На першых уроках думка: «Трэба берагчы сілы». А як, калі на цябе клас глядзіць? Далей — вяласць, стома, якія перадаюцца, натуральна, вучням. Далей — аўтаматызм. І нарэшце — паўсамнамбулічны стан, калі пачынаеш загаворвацца.

Вядома, і тут сітуацыя завостраная. Але з яе, дый з усяго вышэй сказанага мы можам зрабіць выснову: настаўнік здатны даць ЯКАСНА не больш за тры ўрокі ў дзень, настаўнік павінен пасля ўрокаў мець час на падрыхтоўку да іх; дырэкцыя школы павінна забяспечваць настаўніку найбольш спрыяльны рэжым працы.

Вось рашэнне праблемы павышэння эфектыўнасці навучальна-выхаваўчага працэсу і якасці ведаў навучэнцаў.

Рашэнне ёсць. Але выгоды няма. Не дарма ж дырэктары многіх гарадскіх школ прытрымліваюць дзве-тры стаўкі, не даюць заявак на маладых спецыялістаў. У дырэктара — матэрыяльныя стымулы. У настаўнікаў (некаторых) — павышаная зарплата. Вось тут якраз выгада і, як бачым, узаемная,— ёсць...

У сельскіх школах — складаней. Не хапае спецыялістаў. Таму педагогі працуюць і на дзве стаўкі, і класнае кіраўніцтва вядуць, і грамадскія даручэнні цягнуць (да сказанага дададзім лекцыі ад таварыства «Веды», працу па арганізацыі і правядзенні выбараў, палітінфармацыі ў калгасных брыгадах, дзяжурства ў рэлігійных сектах і г. д.). А сваю гаспадарку, і немалую (бо без яе — зубы на паліцу), дагледзець, а сшыткі праверыць, а планы да наступнага дня падрыхтаваць? Адзін выхадны — і той звычайна ідзе на агульнашкольныя выхаваўчыя мерапрыемствы — «Салодкі кірмаш», «Старты надзей», «А ну, дзяўчаты!», «Агляд страявой песні», «Інсцэніраваная казка» — усяго не пералічыць.

І рады б настаўнік «пачаць з сябе», сачыць за ўсім новым, удасканальваць сваё педагагічнае майстэрства, эксперыментаваць, даследаваць, шукаць нешта сваё, нешта браць у наватараў — Шаталава, Ільіна, Волкава,— ды часу не хапае. (Дарэчы, Шаталаў вёў у 1987 годзе фізіку і матэматыку ў АДНЫМ класе. Гэта самае большае — два ўрокі на дзень.)

Таму дужа своечасовым было рашэнне Мінасветы БССР павялічыць набор абітурыентаў на пяцьдзесят чалавек у нашых ВНУ па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура». Але ж не хапае настаўнікаў не толькі гэтае спецыяльнасці. Многія сельскія школы па некалькі гадоў запар чакаюць маладых спецыялістаў. Інакш кажучы, нехта вядзе па дзесяць і больш урокаў на дзень, не лічачы класнага кіраўніцтва і ІНШАГА. Пад іншым можна разумець дадатковую нагрузку ў вячэрняй школе ці на курсах трактарыстаў, альбо на падрыхтоўчых курсах (у час заслужанага адпачынку). Жаданне чалавека не толькі працаваць, але і зарабляць, каб хоць неяк уладкаваць свой побыт,— зразумее кожны.

Зрэшты, да «іншага» можна аднесці і яшчэ адзін артыкул даходаў настаўніка. Гэта праверка сшыткаў, якая аплачваецца асобна.

Паспрабуем і тут дакапацца да карэнчыкаў. Дапусцім, у нас мінімальная нагрузка, інакш кажучы, «голая стаўка» — тры класы, што, як ужо адзначалася, з'яўляецца ідэальным для працы варыянтам. У кожным класе — у сярэднім 35—40 вучняў. Усяго — прыблізна 100 сшыткаў. (А вядзеш дзве стаўкі — «даходы» павялічваюцца ўдвая — 200 сшыткаў.) І мы павінны (запусціш — не нагоніш потым) правяраць іх кожнага дня пасля працы ў зручны нам час. Апрача таго, мы не ўлічылі яшчэ адзіны выхадны — нядзелю. Яшчэ 100 сшыткаў для кантрольных работ ці яшчэ 100 па развіцці мовы. Толькі гэтым разам часу на іх праверку трэба затраціць у два-тры разы болей...

Праца амаль творчая — «сіненькае трэба зрабіць чырвоненькім». Аплата пасля павышэння павялічылася з 10 да 20 рублёў у месяц. (Як тут не пазайздросціць карэктару, які правіць аддрукаваныя і досыць нармальныя ў арфаграфічных адносінах тэксты,— і атрымлівае, напэўна, больш за дваццаць.)

Усе разумеюць: каб стаць пісьменным, трэба мець як мага большую практыку пісьма. Але ж ці выгадна настаўніку, працуючы з класам, пісаць шмат? Бо й правяраць тады — вельмі шмат. Ці не правяраць увогуле?..

Вось дзе і яшчэ адзін карэнчык зарыты.

Такое павышэнне зарплаты. Настаўнікі яго неяк не адчулі. Бо нейкі дадатак адно кампенсаваў (часткова) вядомыя інфляцыйныя працэсы апошніх гадоў. У дадзены момант яны прагрэсіруюць.

Аднак «павышэнне» зарплаты запатрабавала ад настаўніцтва, апрача павялічаных патрабаванняў, прэтэнзій ды яшчэ і дакораў — новых значных затрат часу і намаганняў, ЯШЧЭ БОЛЬШАЕ АДДАЧЫ.

Чаго каштуе класнаму кіраўніку падрыхтоўка школьных вечароў-канцэртаў! А інсцэніроўка мастацкіх твораў розных жанраў (праграмных тэкстаў, казак, песень)! А штотыднёвае правядзенне палітінфармацый!

ЯКАСНА ўсю гэтую пазакласную работу настаўнік можа выканаць толькі маючы час і сілы, не змарнаваныя на канвеернае ўрокадаўства і часта непатрэбныя, бессэнсоўныя грамадскія нагрузкі.

А найчасцей заматаны, затузаны сучасны педагог (практык) яшчэ і бяздомны, ён здымае ці не куточкі ў пакойчыках,— і на працягу навучальнага года не мае часу дый умоў для самага істотнага — чытання навінак літаратуры.

Доўга яшчэ можна паглыбляцца ў нетры школьных праблем. Унутраная, каранёвая сістэма, як вядома, не менш аб'ёмная за тую, што зверху.

Узяць хоць бы працу і забеспячэнне школьных, асабліва сельскіх сталовых. Бо з сухафруктамі і то — тугавата. Далёка да вітамінных сталоў. Настаўнікі ж, воляю лёсу, штогод на некалькі месяцаў перакваліфікоўваючыся ў паляводаў, гэтае праблемы вырашыць, на жаль, не могуць.

Альбо звернемся да навучання шасцігодак. Скажам, дзе і як ім спаць, калі ўзімку ўся школа займаецца ў паліто? І дзе ім яшчэ нешта, калі прыбіральні найчасцей «на вуліцы»?

Альбо капнуць прычыны школьных бюракратыі і працэнтаманіі. Бо ўсё ж засталося па-ранейшаму: сямёра з лыжкаю (РАНА), а адзін — з сошкаю (настаўнік)!

Але гэта ўжо тэмы для асобнага роздуму і, як мы пераканаліся, усё гэта, хутчэй, вынікі, якія выцякаюць з трох галоўных прычын прабуксоўкі рэформы школы:

а) нізкае зарплаты настаўнікаў (130 р.);

б) ураўнілаўкі ў аплаце іхняе працы;

в) празмернае перагружанасці (асабліва ў сельскіх школах).

Інакш кажучы (калі ўжо да канца карыстацца шафёрскай лексікаю), рэформа школы буксуе не толькі таму, што дарога слізкая, але і таму, што гума лысая.

Сама праграма рэформы, прынятая да красавіцкага пленума і XXVII з'езда партыі, вымагае перагляду і ПЕРАБУДОВЫ.

Паводле даных акадэміка А. Аганбегяна, калі раней мы выдзялялі на адукацыю 10 (амерыканцы — 4) працэнтаў ад нацыянальнага даходу, дык паступова знізілі гэтую лічбу да 6—7 (амерыканцы адпаведна павысілі да 12). Агульная сума панізілася не толькі ў адносным, але і ў абсалютным вылічэнні. Бо за апошнія гады адукацыя пашырылася, а матэрыяльнае яе забеспячэнне, як бачым, знізілася.

Праца ў гэтым плане зверху вядзецца велізарная, але якія вынікі яна дасць, залежыць ад нас, настаўнікаў, інакш кажучы, ад каранёў. Ад таго, наколькі мы будзем шчырыя ў аналізе нашых недахопаў і актыўныя ў нашай працы, што жывіць каштоўныя парасткі БУДУЧЫНІ.

Аляксандр ДАРОШКА

# ПРА «СТРЫП-ТЫЗ» І ЯШЧЭ СЁЕ-ТОЕ







Фота Цімура ГРЫБА





**Чорна-чырвоны фон, на ім белыя і чырвоныя літары, шматабяцальны надпіс. Іду, чырвоны ўказальнік паказвае: уніз, у сутарэнне. Спускаюся па лесвіцы. Пад нагамі чырвоны дыван, дакранаюся рукою да сцен такога ж колеру, над галавою белая столь. Шматлікія павароты, нарэшце я каля мэты. У вочы рэзка б'е чорны колер...**

Усе мы, вядома, не раз бывалі каля мінскага ГУМа. Пераважна бегаем па крамах, кіёсках, нават не падазраючы, што тут, за якіясьці паўсотні метраў ад універмага па вуліцы Леніна, 6 знаходзіцца тое, пра што многія проста не чулі і чаго ніколі не бачылі. Тэатр, на сцэне якога ўпершыню ў краіне з'явілася драма вядомага абсурдыста Славаміра Мрожака «Стрып-тыз», тэатр, у рэпертуары якога такая ж цікавая драма-абсурд Тадэвуша Ружэвіча «Картатэка».

Мой суразмоўца — мастацкі кіраўнік і рэжысёр-пастаноўшчык Мінскага дзяржаўнага тэатра-студыі на плошчы Перамогі Рыд Сяргеевіч Таліпаў.

— Рыд Сяргеевіч, ці можна назваць ваш тэатр тэатрам абсурду?

— Ведаеце, я не стаў бы так называць. Не, наш тэатр — гэта тэатр інтэлектуальнае драмы. Такая назва больш правільная.

— У кнізе водгукаў нехта з гледачоў напісаў, што ён вельмі ўражаны вашым чорна-чырвона-белым тэатрам. Асабліва ўздзеянне ствярае абсалютна чорная сцэна, нават трохі шакіруе. Сапраўды, чаму менавіта такое спалучэнне колераў?

— Нічога асаблівага тут няма. Такое спалучэнне не належыць выключна нашаму тэатру ці абсурду ўвогуле. Гэтыя колеры найбольш экспрэсіўныя, маюць моцнае эмацыянальнае ўздзеянне на публіку, яны прываблівоюць, нават раздражняюць чалавека. Згадайце, Стэндаль назваў сваю кнігу «Чырвонае і чорнае» — таксама ж не проста так.

— Марк Захараў, гаворачы пра абсурд, вылучыў яго як сродак мыслення. Ці не здаецца вам супярэчлівымі паняццямі, якія выключаюць адно адно, абсурд і мысленне?

— А вы прасачыце за нашым будзённым жыццём, нават за сабою. Пра што б мы ні думалі, заўсёды ў галаву прыходзяць староннія думкі, якія не маюць ніякага дачынення да справы. Гэта ўласціва мысленню. Але менавіта гэтыя «абсурдныя» думкі часта наштурхоўваюць на правільны шлях. Прачытаем Захарава далей: «Я ўпэўнены: абсурд, сам па сабе, блізкі нам. Як спосаб мыслення, як сцяжына для роздуму. У нас багата глыбінных сувязей са светам абсурду». Больш таго, для мяне абсурд — гэта самы сапраўдны, самы высокі рэалізм.

— І ў фільмах, і ў спектаклях перш за ўсё раскрываюцца душа рэжысёра, яго характар, яго светапогляд. У Дастаеўскага было такое: «Кто у нас на Руси да о себе не пишет». Хоць сказана пра пісьменнікаў, але, мне здаецца, не ў меншай ступені датычыцца рэжысёраў. Так што, абсурд — стан вашай душы? Як вы да яго прыйшлі — выпадкова?

— Не, ні ў якім разе не выпадкова. Кожны рэжысёр укладае ў спектакль сваю душу. Але не бывае двух аднолькавых людзей — кожны унікальны і непаўторны. Чалавек ніколі не зможа да канца зразумець іншага. Каб зразумець, напрыклад, вас, мне трэба мець вашыя вочы, вашую скуру, слых, урэшце, вашую душу, што, натуральна, немагчыма. Таму, калі бачыш у аднаго рэжысёра два аднолькавыя спектаклі,— значыцца, рэжысёр няшчыры. Калі я не бачу адрознення гэтага спектакля ад іншага, калі мы разумеем усё, што адбываецца на сцэне, і няма ніякае загадкі, то праз 15 хвілін мне становіцца нудна. Я ведаю, што гляджу гэта марна, і я бачу, як нудна іншым. Мэта абсурду як тэатра інтэлектуальнае драмы — прымусіць чалавека думаць, разважаць. Чалавек толькі тады становіцца індывідам, істотаю, якая мысліць, калі задае сабе пытанні: «Дзеля чаго я жыву? У чым сэнс жыцця? Хто я?» Мы падштурхоўваем яго да гэтага роздуму. Наш глядач глядзіць спектакль і задае сабе пытанне не толькі пра тое, што робіцца на сцэне, але, і гэта галоўнае, што ў ім самім, ён аналізуе сябе. Мы пастаянна трымаем у напружанні, раздражняем розум і душу. У гэтым дапамагае і чорная сцэна, і псіхалагічныя паўзы ў дзеянні, якіх, вы заўважылі, у нас вельмі шмат.

— І калі я, выходзячы з тэатра, задаю сабе такія пытанні, вашая мэта дасягнута?

— Я думаю, так.

— Чытаючы вашую кнігу водгукаў, я заўважыў, што ў ёй часцей за ўсё трапляюцца словы «новае, арыгінальнае». У чым выяўляюцца навізна і арыгінальнасць?

— Разумееце, тэатр нясе ў сабе дзве канцэпцыі: філасофскую і эстэтычную. У наш час, калі здаецца, што ўсё ўжо тысячу разоў прадумана, прыдумана, вельмі цяжка знайсці новае, нестандартнае філасофскае рашэнне. Праўда ж! А абсурд — гэта абсалютна новая эстэтычная канцэпцыя, вельмі прывабная сваёй арыгінальнасцю. Я думаю, не варта цяпер раскладваць яе па палічках. Мы ўжо гаварылі пра немагчымасць зразумець чалавека. Кожны ўбачыць у нашай эстэтыцы нешта сваё, тое, што адпавядае ўласнаму разуменню. Я не люблю расшыфроўваць тое, што я раблю. Я раблю, а расшыфроўваць павінны вы, гледачы.

— Перафразаваўшы вядомыя словы: «Что наша жизнь? Игра!» — пасля «Картатэкі» я сказаў сабе: «Што нашае жыццё? Абсурд!» Як вы думаеце, што за будучыня ў абсурду як напрамку ў сучасным мастацтве?

— Калі мы сказалі, што абсурд з'яўляецца самым сапраўдным рэалізмам, інакш кажучы, нашай рэчаіснасцю, няцяжка прадугадаць і ягоную будучыню. Як будзе развівацца нашае жыццё, так разам з ім будзе развівацца і гэты найцікавейшы накірунак.

— У мяне дагэтуль мароз па скуры ідзе пры ўспаміне аб фіналах вашых спектакляў. Асабліва «Картатэкі» — фантастычная музыка і рэфрэнам працінае душу крык: «Вы занадта позна прыйшлі!» Мне здалося, у пастаноўках вашых няма... аптымізму, нейкага ідэалу і светлае веры ў яго. Вы што, стаміліся ад аптымізму?

— Заўважана слушна, але гледзячы што прымаць за аптымізм, за веру. Тэатр не павінен даваць гатовыя адказы. Ён не павінен вучыць жыць, гаварыць: вось вам ідэал і па ім жывіце. Не, тэатр павінен задаваць пытанні, каб глядач сам шукаў на іх адказы. Ці знойдзе ён іх, у гэтым можна сумнявацца. Жыццё паказвае, што для адных сэнс існавання ў знішчэнні сабе падобных, для іншых — у творчасці. Але вучыць жыццю мы не павінны, я не люблю прапаведваць. Прапаведуем мы дабрыню, а спавядаемся ў грахах. Дык вось, я люблю тэатр, які спавядаецца.

— Ваш тэатр знаходзіцца ў сутарэнні, і хоць тут вельмі ўтульна, я сказаў бы, па-хатняму ўтульна, усё-такі ўражваюць малыя памеры глядацкае залы, разлічанай на 100 чалавек (увяіце сабе, 10 радоў па 10 месцаў). Вас гэта не засмучае, ці збіраецеся вы пашыраць сваю залу?

— Я перакананы: будучыня менавіта за такімі маленькімі тэатрамі. Дарэчы, на Захадзе ўжо даўно стараюцца будаваць толькі міні-тэатры з малымі глядацкімі заламі. У тэатр чалавек прыходзіць на размову сваёй душы з душою акцёра, падкрэсліваю, на размову. Які можа быць давер у кантакце, калі ў зале сядзіць 500—800 чалавек, а акцёр далёка, на высокай сцэне, дзе ён здаецца такім маленькім, што яго трэба разглядваць у бінокль? У нашай зале нават няма сцэны ў поўным сэнсе гэтага слова. Роўная, без бар'ераў, паміж залаю і сцэнаю, падлога. За нейкі метр ад першага раду ідзе тэатральная дзея. Глядач і артыст надзвычай блізкія адзін да аднаго, і размове іхніх душ нішто і ніхто не замінае. У час спектакля акцёр іншы раз ушчыльную падыходзіць да гледача, той бачыць найдрабнейшыя дэталі: як артыст дыхае, чым жыве на сцэне. Паўтару яшчэ раз, будучыня менавіта за такімі тэатрамі. Пашырацца мы не збіраемся.

— Я ведаю, ваш тэатр перайшоў не гасразлік. Ці лягчэй стала працаваць?

— Так, лягчэй: мы атрымалі большую самастойнасць, самі аплочваем працу акцёра, закупілі адметныя касцюмы, дэкарацыі.

— А як вы разумееце словы акадэміка Ліхачова, што культура не можа быць на гасразліку? І яшчэ, ці не прывядзе гэта да камерцыялізацыі мастацтва?

— Гасразлік даў нам магчымасць паказаць свае сілы. Перад намі стаяла дылема: ці існаваць на дзяржаўныя датацыі, якія нам ніхто не даў бы, інакш кажучы, па сутнасці, не адкрывацца — ці перайсці на гасразлік і існаваць па-сапраўднаму. Такое гамлетаўскае пытанне: «Быць альбо не быць?» Мы выбралі «быць» менавіта дзякуючы гасразліку. Вядома, ён можа прывесці да камерцыялізацыі — калі браць па вялікім рахунку, гасразлік і мастацтва несумяшчальныя. Але ж вы самі бачыце, мы ніколі не ідзём на ланцужку ў публікі і не патураем яе густам. Нашы спектаклі многім цяжка глядзець, яны не разлічаныя на непатрабавальную публіку. Дадам, яны прызначаны для выбранай аўдыторыі, якая думае. Але ўсё роўна, амаль на ўсе спектаклі — аншлаг.

— Восенню праходзіць набор людзей, якія жадаюць займацца ў вас у студыі. Раскажыце, калі ласка, як гэта адбываецца.

— Я больш веру свайму вопыту. Прымаем мы навучэнцаў 9—10-х класаў і старэйшых. Патрабаванні да чалавека простыя: трэба мець нестандартнае, арыгінальнае мысленне. Патрабаванні да акцёра — не мець фізічных недахопаў і быць здольным.

— А вопыт вас часта падводзіць?

— Часта. Я памыляўся ў ацэнцы людзей, іх чалавечых якасцей і вартасцей. Але што датычыць артыстычных здольнасцей, амаль ніколі мой вопыт мяне не падманваў. І развітваемся мы толькі з прычыны таго, што я памыліўся ў чалавеку.

— У вас ёсць любімы пісьменнік?

— Я магу сказаць, але навошта? У вас складзецца пэўны стэрэатып: «Ага, вось ён сказаў, напрыклад, што Дастаеўскі. Значыцца, ён такі...» І я буду ўспрымацца вамі ўжо аднабакова. Навошта ж абмяжоўваць сябе ў кантакце вузкімі рамкамі? Няхай паміж намі будзе шырокі калідор агульных інтарэсаў.

— Добра! Мне здаецца, яшчэ адна адметная рыса вашага тэатра — у ім заўсёды экспануюцца карціны мастакоў, пераважна маладых. Чым вы кіруецеся пры адборы карцін? Ці патрэбна толькі жаданне самога мастака?

— Вядома, аднаго жадання мала. Важна, каб у мастака было сваё бачанне, свая мадэль свету, каб яна адрознівала мастака ад братоў па творчай гільдзіі. І, натуральна, карціны павінны арганічна ўпісвацца ў нашыя спектаклі і ў тэатр цалкам.

— Якія змены плануюцца ў рэпертуары?

— Цяпер мы працуем над спектаклем паводле твораў Дастаеўскага, Ганчарова, Талстога, спрабуем сумясціць іхнія ідэі ў адно цэлае.

Я заўсёды з вялікай цікавасцю чакаю сустрэчы з гэтым тэатрам. Не сакрэт, цяперашняе маладое пакаленне стала забывацца на дарогу ў храм мастацтва, часта моладзь туды гвалтам не зацягнуць. Да нядаўняга часу я не быў заўзятым тэатралам. Але тэатр абсурду, які я палюбіў з першае сустрэчы, адкрыў мне вочы на многае: Божа, якой асалоды мысліць мы сябе пазбаўляем! Гэта быў першы штуршок да таго, каб я пайшоў далей, пазнаючы новыя радасці ад судакранання са светам мастацтва.

Чорна-чырвоны фон, на ім белыя і чырвоныя літары, шматабяцальны надпіс. Іду, чырвоны ўказальнік паказвае: уніз, у сутарэнне. Спускаюся па лесвіцы. Пад нагамі чырвоны дыван, дакранаюся рукою да сцен такога ж колеру, над галавою белая столь. Шматлікія павароты, нарэшце я каля мэты. У вочы рэзка б'е чорны колер...

*Ідзіце ў тэатр!*





# SOS!



Якое ўражанне аб становішчы культуры ў нашай рэспубліцы можа скласціся пасля знаёмства з яе бібліятэкамі? У першую чаргу з нашай нацыянальнай бібліятэкаю.

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Леніна — адна з буйнейшых у краіне і буйнейшая ў рэспубліцы. Яе фондамі — звыш 7 млн. экземпляраў — штогод карыстаюцца 37—38 тысяч чытачоў. Але ж ні для кніг, ні для чытачоў, ні для саміх супрацоўнікаў тут няма месца. Па існуючых нормах для размяшчэння яе кніжных фондаў патрэбна амаль 18 тысяч квадратных метраў, а ёсць усяго 5 тысяч, або 27 працэнтаў патрэбнага. З-за гэтага парушаецца рэжым захоўвання, тэхніка бяспекі, само фізічнае існаванне кніг. Сотні тысяч кніг, часопісаў, газет знаходзяцца ў падвальных памяшканнях горада Мінска, у некаторых з іх кнігі проста гніюць. Так, у чэрвені 1989 г. у падвал тэатра оперы і балета было перавезена з касцёла ў гарадскім пасёлку Івянец 400 тыс. кніг. Прайшло ўсяго паўтара месяца, падвал затапіла, і каля 20 тысяч кніг было сапсавана, многія з іх — безнадзейна. А ў кастрычніку прарвала трубу ўжо ў асноўным кнігасховішчы бібліятэкі, і зноў тысячы каштоўнейшых кніг, у тым ліку кнігі-малюткі, апынуліся ў вадзе. Ці можа здарыцца такое яшчэ? Можа, таму што ў будынку бібліятэкі, пабудаваным у 1932 годзе, ні разу не рабілася капітальнага рамонту.

Кожны год фонд бібліятэкі павялічваецца на 170—180 тыс. экземпляраў, і іх проста няма куды класць. Ужо звыш 30 тыс. кніг і часопісаў ляжаць на падлозе. Каля 700 тыс. кніг звязаны ў пачакі. Пажарныя службы забаранілі карыстацца кнігасховішчам беларускага аддзела, дзе знаходзіцца звыш паўмільёна кніг.

Кнігі выціскаюць чытачоў, зачыняюцца чытальныя залы. Колькасць месцаў для чытачоў за дваццаць год скарацілася з 1200 да 850.

P. S. Рашэннем сакратарыята ЦК КПБ Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна перададзена памяшканне Кастрычніцкага РК КПБ.

Сяргей САНЬКО

**Уладзімір АЛЕКСАНДРОВІЧ**
**Леанід КАЗЛОЎСКІ**

# Дзень добры, Амазонкі-90

Хуткасць, з якою дзяўчаты асвойваюць мужчынскія віды спорту, прыемна здзіўляе. Захапленне цудоўнага полу атлетызмам — заканамерны і натуральны працэс, бо гэта гарантыя здароўя, маладосці і прыгажосці.

З днём нараджэння цябе,— жаночы атлетызм!

Бадай, не ў жаночым характары, каб не вызначыць «самую-самую» і не ўзаконіць тытул «Міс атлетызм». І вось з усяе краіны з'ехаліся летам у Ленінград спартсменкі на першы ўсесаюзны турнір па атлетызме сярод жанчын.

Для жаночай каманды Беларусі спаборніцтвы насілі вучэбны характар,— так сказаць — іншых паглядзець, сябе паказаць. Аднак выступленне нашых зямлячак парадавала.

Поспех спаборніцтваў, узровень спартыўнай падрыхтоўкі ўдзельніц прымушае яшчэ больш сур'ёзна паставіцца да жаночага атлетызму.

У лістах чытачак на імя нашай рубрыкі выказваецца просьба працягнуць публікацыі комплексаў па жаночым атлетызме. З задавальненнем выконваем вашыя пажаданні.

Рэкамендаваны ў № 5 (1988 г.) часопіса пачатковы комплекс практыкаванняў для жанчын, спадзяемся, ужо саслужыў сваю добрую службу тым, хто прыступіў да трэніровак па нашых метадычных рэкамендацыях. Ваш арганізм адаптаваўся да сілавых нагрузак. Бадзёрасць і энергія сталі вызначальным вынікам вашых трэніровак. Атрыманы першы асабісты вопыт выканання рэжыму дня і харчавання. Здаровы лад жыцця стаў вызначаць ваш жыццёвы ўклад.

Для тых, хто паспяхова правёў падрыхтоўчы этап, сёння мы прапаноўваем агульны комплекс практыкаванняў, накіраваны на замацаванне дасягнутых вынікаў, паляпшэнне складу цела, асваенне новых практыкаванняў у атлетызме.

Кожная трэніроўка, як заўсёды, пачынаецца з размінкі. Па часе яна павінна займаць каля 15 хвілін. Уключыце ў яе скачкі на скакалцы, лёгкі бег. Абавязковым з'яўляюцца розныя нахілы і паварот тулава, махі рукамі. Лёгкая стомленасць арганізму паслужыць для вас сігналам на заканчэнне размінкі.

Лічым неабходным нагадаць парадак індывідуальнага падыходу да трэнінгу. Колькасць падыходаў у кожным практыкаванні і лік паўтораў у кожным падыходзе разлічаны на абагульненую задачу, інакш кажучы так, каб нагрузка выконвала адразу дзве мэты: 1. павелічэнне сілавога паказчыка групы мышцаў, якія трэніруюцца; 2. прапрацоўку структуры мышачнай тканкі.

Калі вы хочаце, каб групы мышцаў, якія трэніруюцца (сцягно, голень і г. д.), пахудзелі, то ўвесь комплекс практыкаванняў выконвайце з мінімальнымі інтэрваламі паміж падыходамі, пры гэтым вага гантэляў або штангі павінна быць невялікая. Калі вам неабходна павялічыць аб'ём мышцаў, то інтэрвалы паміж падыходамі трохі павялічце, пры гэтым вага абцяжарання павінна набліжацца да максімальнай для вас.

**КОМПЛЕКС ПРАКТЫКАВАННЯЎ:**

**1. Разгінанне сцягна седзячы на станку. Пры адсутнасці станка замацуйце да ног цяжар (2—3 кг) і з паставы «седзячы» выпрамляйце ногі па чарзе (4 падыходы × 10—15 разоў).**

**2. Прысяданне са штангай або грыфам на плячах (4 × 10).**

**3. З паставы стоячы, штанга на плячах, пад'ём на насках. Пад наскі неабходна падкласці брусок 2—3 см. (5 × 15).**

**4. Жым штангі лежачы ад грудзей (3 × 10).**

**5 Жым штангі стоячы ад грудзей. Хват рукі сярэдні (3 × 10).**

**6. Цяга блока да грудзей седзячы. Хват рукі шырокі (3 × 10).**

**7. Пад'ём гантэляў на біцэпс стоячы (3 × 10).**

**8. Жым штангі стоячы з-за галавы. Хват вузкі, локці старайцеся трымаць бліжэй да галавы (3 × 10).**

**9. Павароты тулава на дыску «Грацыя» (3 × 3—5 хвілін).**

**10. Пад'ём тулава на рымскім крэсле або з паставы седзячы на лаўцы, ногі замацаваныя (4 × 30).**

**11. Павароты тулава ў бакі з палкаю на плячах (4 × 50).**

Вагу абцяжарання падбірайце індывідуальна, у разліку на магчымасць выканаць 10 паўтораў. Апошнія тры разы павінны давацца з цяжкасцю.

Жадаем поспехаў.



# СТЫЛЬ... ШТО ГЭТА?

Нядаўна я даведалася, што ў мяне ёсць асабістыя ворагі. Праўда, яны не толькі мае, а, можа, і вашыя таксама... Вельмі люблю марожанае, ды яшчэ з шакаладным сіропам. А да іх — кубачак гарбаты. З пірожным. Дальбог, вельмі смачна і адчуваеш адну насалоду. І раптам з усім гэтым прапануецца развітацца. Ну хіба што па вялікіх святах дазваляць сабе сёе-тое.

У імя чаго такія «пакуты»?

Вы хочаце быць прыгожай, сучаснай, моднай? Я, прызнаюся, вельмі. Вось у імя гэтага і прапануецца адмовіцца ад звычных ласункаў. Цяжка, ведама ж. Патрэбна вялікая воля. Бо ж так заманліва зноў (каторы ўжо раз!) сказаць сабе: «Вось з заўтрашняга дня стануць нам з вамі ўлюбёнымі ласункамі не менш смачныя свежыя яблыкі (у неабмежаванае колькасці!), усялякая гародніна (дужа будуць прыдатныя капуста свежая і кіслая, морква), гарбата на травах, арэхі, сушаная садавіна.

А зараз пра тое, чаму менавіта з гэтае размовы мы пачынаем нашую рубрыку «Мода». Усё часцей адусюль чуваць апошнім часам: найпрыгажэйшыя і наймаднейшыя жанчыны тыя, якія здаровыя. Вось і выходзіць, што прыгажосць якраз і пачынаецца... з талеркі. Зрэшты, здаровае харчаванне (назавём яго так) — адно частка праграмы прыгажосці, якая, як лічаць спецыялісты, павінна быць у кожнае з нас (незалежна ад узросту!). Дык вось, як на іхнюю думку, дык ніякія цудатворныя дыеты, ніякія разгрузачныя дні, ніякая экзатычная садавіна не дапамогуць стаць (ці застацца) прыгожаю, калі наш лад жыцця не будзе актыўны. А гэта азначае — больш рухацца, больш бываць на свежым паветры, радзей ездзіць у транспарце, выбраць сабе пасільны комплекс спартыўных практыкаванняў. І вельмі важна пры гэтым нашае пастаянства. Калі ўжо займаемся гімнастыкаю, дык кожнага дня, калі пэўным відам спорту, дык не радзей як раз на тыдзень. І зусім не абавязкова марыць пры гэтым пра 42-і памер манекеншчыцы — бо ж нам з вамі, урэшце, не ўсім у дэманстрацыйнае зале працаваць, дзе лішні грам-сантыметр ужо фіксуецца. А вось добрая скура, адсутнасць жывата, стройныя ногі, выпрастаныя плечы, свабодная паходка — нам пад сілу. Скажам адно адразу сабе, што гэта — праца, нялёгкая, карпатлівая, часам нудная. Але калі хочаш стаць прыгожай — працуй над сабою!

Сучасная мода такая дэмакратычная, што дазваляе ўсё. І таму знайсці «свой» вобраз у звышбагацці сілуэтаў, стыляў, формаў — таксама няпроста. Іншы раз могуць выручыць спектаклі ў Тэатрах Моды, найчасцей — уласны густ і фантазія, амаль заўсёды — часопісы модаў. Вось сёння давайце проста пагартаем надзвычай папулярны, але пакуль што з недастатковым нам накладам часопіс «Бурда Модэн». (Зрэшты, тое, пра што мы гаварылі дагэтуль, таксама абапіраецца на рэкамендацыі гэтага часопіса.) Цяпер, калі нашыя атэлье перапоўненыя, дый шыюць у іх часам не так, як хацелася б, «Бурда Модэн» прыходзіць на дапамогу ўсім, хто не хоча чакаць і хто сам хоча паспрабаваць, на што здольны. Класічныя супервыкрайкі, па якіх ідэальна шыюцца любыя штаны, сукенкі, касцюмы, блузкі — у кожным нумары часопіса. У іх усё так проста і даступна растлумачана, што нават тыя, хто не ўмеюць шыць, раптам бяруцца за тканіну! І выбар на любы густ: мода падлеткам і мода поўным, мода паходная і практычная... Тут і парады, як правільна выбраць свае колеры ў макіяжы, як надаць вачам «цёплы трапяткі бляск» і як зрабіць з іх «сапраўдную фантастыку». Але зноў хачу звярнуць вашую ўвагу: нават часопіс «Бурда Модэн», які большасць сваіх першых нумароў прысвячаў толькі выкрайкам і мадэлям (адчуваючы нашую з вамі ў іх патрэбу), цяпер вось ужо некалькі разоў запар звяртаецца да тэмы... здаровага харчавання. І вось ужо на старонках 9-га нумара за мінулы год апублікавана табліца, вельмі цікаўная, рацыянальнага здаровага харчавання. Назаву сёе-тое з таго, што спецыялісты раяць «лепей пазбягаць»: растваральныя напоі, салодкае, цукар, вяндліну, штучны мёд, воцат, шмат разоў разагрэты здор. Затое «вельмі карысна» есці, напрыклад, бульбу «ў мундзіры», кіслую капусту, арэхі, нерафініраваныя алеі, гарбату на травах.



Фота Ігара БОЙКІ

Натуральна, разлічваць на тое, што ўсе мы хуценька пачнём «жыць па табліцы», не прыходзіцца. Але абмежаваць сябе ў нечым, думаю, варта... Ну, і яшчэ адзін рэцэпт прыгажосці часопіса «Бурда Модэн»: раз на месяц «дзень сокаў», які дапамагае ачысціць скуру і вывесці з арганізму шлакі. Як мяркуе «Бурда Модэн», нам з вамі дастаткова выпіць у дзень 5 шклянак розных сокаў з садавіны і гародніны, а ў прамежках можна піць мінеральную ваду і гарбату. Прычым усё гэта — без цукру. Думаю, згатаваць самім яблычны, маркоўны, бурачны сокі няцяжка. Ну а часопіс тлумачыць, што дужа шмат жалеза і вітаміна С утрымлівае чорнапарэчкавы сок, на вітаміны А і Е багаты маркоўны (добра дадаць у яго лыжачку вяршкоў), сок гародніны карысны мінеральнымі солямі і асабліва каліем...

Нашая гутарка пад рубрыкаю «Мода» толькі пачынаецца. Якая будзе яна далей — залежыць ад вас. Ці захочаце вы прадоўжыць тэму здаровага харчавання і спытацца парады ў дыетолага, пабываць у гімнастычных залах і ўведаць новыя комплексы практыкаванняў, зазірнуць у майстэрні мадэльераў і пацікавіцца навінкамі ў цырульнікаў, касметолагаў — пра гэта я спадзяюся даведацца з вашых лістоў. А можа, вы захочаце прадоўжыць вандроўку, толькі больш грунтоўную, па «Бурда Модэн» і іншых часопісах модаў?.. Словам, пытайцеся, прапануйце, выбірайце суразмоўцаў — няхай «Мода» будзе вашай рубрыкаю. І памятайце пра тое, з чаго мы сёння пачалі: перад усімі тартамі, піражнымі, цукеркамі, шакаладам, каваю, мы аддаём перавагу гародніне, садавіне і арэхам. Толькі, калі ласка, не лічыце, што вы нечым ахвяруеце. Робім гэта з усмешкаю, у гуморы! Гэта ж так усім пасуе — быць ПРЫГОЖЫМІ і МОДНЫМІ!

**КАСЯ**

